РЭДАКТАРЫ:

Тамара РУСАЧЫК
Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

Юрка Баена

## ЗЯМЛЯ ТЫ МАЯ

Зямля ты мая—
яблыня пеўчая і залатая,
карміліца,
апякунка мая
і мільёнаў дзяцей сваіх.
Падымаюся
па прыступках лесвіц,
каб дасягнуць плада —
твайго жыватворнага яблыка...



*Жніво.* *Фота Я. Целушэцкага*



*Зімовы пейзаж.* *Фота. Я. Целушэцкага*



# КАЛЕНДАРЫЮМ

## СТУДЗЕНЬ

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 19 | П | Новы год. Мечыслава | Рыгора, Цімафея |
| 2 | 20 | С | Ізыдора, Макара | Данілы, Ігната |
| 3 | 21 | Н | Дануты, Генавефы | Вуляны, Пятра |
| 4 | 22 | П | Тытуса, Яўгенія | Анастасіі, Феадота |
| 5 | 23 | А | Ганны, Эдуарда | Паўла, Ніфанта |
| 6 | 24 | С | Трох каралёў, Кацпра | Куцця. Яўгінні |
| 7 | 25 | Ч | Юліі, Люцыяна | Каляды (Раждж. Хр.) |
| 8 | 26 | П | Мсціслава, Севярына | Другі дзень Каляд |
| 9 | 27 | С | Юльяны, Марцыяны | Сцяпана, Фёдара |
| 10 | 28 | Н | Яна, Вільгельма | Давіда, Якава |
| 11 | 29 | П | Ганараты, Матыльды | Марка, Маркела |
| 12 | 30 | А | Часлава, Аркадзя | Аніссі, Фядоры |
| 13 | 31 | С | Веранікі, Багуміла | Шч. вечар. Меланіі |
| 14 | 1 | Ч | Фелікса, Гілярыя | Новы год. Васіля |
| 15 | 2 | П | Паўла, Макара | Сяргея, Серафіма |
| 16 | 3 | С | Марцэля, Уладзіміра | Малахіі, Гордзія |
| 17 | 4 | Н | Яна, Антона | Антона, Сцяпана |
| 18 | 5 | П | Малгажаты, Пятра | Апалінара, Рыгора |
| 19 | 6 | А | Маргарыты, Генрыка | Вадохрышча, (Хр. Гасп.) |
| 20 | 7 | С | Фабіяна, Севасцьяна | Апанаса, Яўхімія |
| 21 | 8 | Ч | Агнешкі, Яраслава | Емельяна, Максіма |
| 22 | 9 | П | Анастаза, Вінцэнта | Пііпа, Пятра |
| 23 | 10 | С | Ільдэфонса, Раймунда | Маркіяна, Рыгора |
| 24 | 11 | Н | Феліцыі, Тыматэвуша | Міхаіла, Феадосія |
| 25 | 12 | П | Мілаша, Паўла | Таццяны, Савы |
| 26 | 13 | А | Паўліны, Палікарпа | Якава, Ярміла |
| 27 | 14 | С | Яна Залатавуснага | Ніны, Іосіфа |
| 28 | 15 | Ч | Радаміра, Валерыя | Паўла, Прахора |
| 29 | 16 | П | Францішка, Здзіслава | Леанілы, Дамаскіна |
| 30 | 17 | С | Мартыны, Мацея | Антона, Васіля |
| 31 | 18 | Н | Людвікі, Марцэлі | Афанаса, Кірылы |

## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў СТУДЗЕНІ

1. Разумны, разважлівы, цярплівы — з 'яўляецца ўроджаным правадыром і арганізатарам.
2. Асцярожны, дыпламатычны — прагне ўключыць свае ідэалы ў жыццё.
3. Праніклівы, прадпрыймальны — імкнецца запанаваць над іншымі.
4. Уражлівы на асобы адменнага полу — прагне пашаны і ўвагі.
5. Хаця крыху саркастычны і крытычны, патрапіць быць добрым прыяцелем.
6. Сур 'ёзны, памяркоўны — патрапіць прыстасавацца да асяроддзя.
7. Імкнецца да незалежнасці і можа яе дасягнуць.
8. Верны, нязменны — ахвотна пасрэднічае і мае ўплыў на іншых людзей.
9. Мае розум надасканалены, артыстычныя схільнасці і пачуццёвы тэмперамент.
10. Верыць у сябе і дзейнічае па-свойму.
11. Інтэлігенты, прадпраймальны, мае пачуццё гонару.
12. Характарызуе тонкасць і бліскучасць, а выкананая праца дае дасканалыя вынікі.
13. Можа дасягнуць жыццёвы поспех дзякуючы ўласным намаганням і асабістым заслугам.
14. Чуллівы, гарачы — можа праяўляць літаратурныя або артыстычныя здольнасці.
15. Вынаходлівы і вынослівы — яго намаганні могуць прынесці багаты ўраджай.
16. Асцярожны, спрытны — надаецца займаць адказныя пасты.
17. Ветлівы, таленавіты — любіць мастацтва і выдзяляецца сваімі здольнасцямі.
18. Славалюбівы, інтэлігентны, цікавіцца мінулым.
19. Арыгінальны, вынаходлівы, хаця крыху эксцэнтрычны — ад сваіх прынцыпаў не адступае.
20. Добры аратар, прыхільнік прапаганды — любіць уладу, аўтарытэт і высокую пасаду.
21. Прагне садзейнічаць на іншых і дае ім адчуваць свой уплыў.
22. Незалежная думка — цікавіцца сур 'ёзнымі пытаннямі.
23. Сталы, цярплівы, настроены ідэалістычна — не заўсёды датрымоўвае абяцанне.
24. Лаяльны, старанны — знаецца на людзях і мае сталыя пагляды.
25. Аптымістычна настроены — патрапіць быць мілым і падабацца свайму асяроддзю.
26. Яго праекты і намеры дасягаюць вельмі далёка.
27. Няхай непатрэбна не рассейваецца.
28. Арыгінальны, самастойны,— не дазваляе абмежавацца. Не церпіць залежнасці.



29. З 'яўляецца прыхільнікам ідэалаў і стараецца ўплываць выдатна на сваё асяроддзе.
30. Тонкасны, інтуітыўны — выдзяляецца ўроджаным пачуццём гумару.
31. Незалежна ад сваёй арыгінальнасці праяўляе многа такту і хутка дастасоўваецца да іншых.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Якое надвор 'е ў студзені, такое чакалася і ў сенакос. Завіруха на Каляды — дажджы ў час жніва.

Капяжы са стрэх на Каляды — мокрая восень, бульба высахне. На Вадохрышча яснае і марознае надвор 'е — да засушлівага лета. Хмарна і снежна — на добры ўраджай. Зорная ноч на Вадохрышча — будзе шмат ягад.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**ВАДАЛЕЙ**, 21 студзеня — 19 лютага. Мужчына з-пад гэтай зоркі з 'яўляецца добрым знатаком людзей. Але, нягледзячы на гэта, умее шанаваць чужыя сакрэты. Ён вельмі разумны, па слова ў кішэнь не палезе, можа добра пераказваць свае думкі на пісьме, ахвотна дапамагае людзям. Любіць сенсацыі. Мае шанцы поспеху ў палітыцы, літаратуры і мастацтве. Прыроджаны эстэт, шмат увагі зварочвае на прыгожае. Добрае сужыццё можа мець з жанчынамі з-пад знаку Блізнятаў і Вагі, горш — з-пад знаку Скарпіёна.

Жанчына, якая нарадзілася пад гэтай зоркай, не будзе лёгкай здабычай для мужчын. Не маюць значэння для яе абяцанні, клятвы, запэўненні аб вернасці. Яна імкнецца да нечага незвычайнага. Мужчына яе сэрца павінен праявіць сябе незвычайна разумным, спрытным. Жанчыны гэтыя патрабуюць ад свайго выбранніка не толькі вялікага кахання, а інтэлекту. Самі яны таксама наогул ахвотна займаюцца інтэлектуальнай працай. Шчаслівы дзень — пятніца, колер — фіялетавы, каштоўны камень — аметыст, кветка — мімоза.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# ЛЮТЫ

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 19 | П | Брыгіды, Ігната | Арсеня, Макара |
| 2 | 20 | А | Б. М. Грамнічнай | Рымы, Яўфіма |
| 3 | 21 | С | Блажэя, Гіпаліта | Максіма, Яўгена |
| 4 | 22 | Ч | Веранікі, Андрэя | Лявонція, Цімафея |
| 5 | 23 | П | Адэляйды, Агаты | Генадзя, Клімента |
| 6 | 24 | С | Дароты, Багдана | Ксені Герасіма |
| 7 | 25 | Н | Рышарда, Рамуальда | Віталія, Рыгора Нядзеля аб Мытніку і Фарызеі |
| 8 | 26 | П | Жакліны, Пятра | Марыі, Язэпа |
| 9 | 27 | А | Апалоніі, Цырыля | Іаана Залатавуснага |
| 10 | 28 | С | Эльвіры, Яцэнта | Аркадзя, Яфрэма |
| 11 | 29 | Ч | Марыі, Люцыяна | Рамана, Якуба |
| 12 | 30 | П | Яўлаліі, Радзіміра | Трох Свяціцеляў |
| 13 | 31 | С | Кацярыны, Рыгора | Кіры, Віктара |
| 14 | 1 | Н | Валента, Мяфодзія | Пятра, Трыфана |
| 15 | 2 | П | Ёвіты, Фаўстына | Грамніцы. Анісіма |
| 16 | 3 | А | Дануты, Юльяна | Ганны, Сямёна |
| 17 | 4 | С | Лукаша, Збігнева | Мікалая, Сідара |
| 18 | 5 | Ч | Канстанцыі, Сімяона | Агаты, Феадосія |
| 19 | 6 | П | Арнольда, Канрада | Вуколы, Крысціны |
| 20 | 7 | С | Лявона, Людмілы | Лукі, Парфена |
| 21 | 8 | Н | Элеаноры, Фелікса | Захара, Фёдара Нядзеля аб Страшным судзе |
| 22 | 9 | П | Малгажаты, Марты | Генадзя, Нікіфара |
| 23 | 10 | А | Раманы, Дамяна | Валянціны, Паўла |
| 24 | 11 | С | Богуша, Мацея | Уласа, Усевалода |
| 25 | 12 | Ч | Цэзара, Віктара | Аляксея, Мялеція |
| 26 | 13 | П | Аляксандра, Міраслава | Зоі, Святланы |
| 27 | 14 | С | Анастассі, Габрыеля | Канстанціна, Кірыла |
| 28 | 15 | Н | Макара, Рамана | Ефрасінні, Анісіма |



## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў ЛЮТЫМ

1. Славалюбівы, рашучы — не заўсёды датрымоўвае абяцанне.
2. Дбае пра сваю рэпутацыю і з пашанай адносіцца да людзей вышэй пастаўленых.
3. Настроены прагрэсіўна і не любіць усяго, што ўстарэла.
4. Кемлівы, прадпрымальны — без цяжкасцей можа зрабіць кар 'еру.
5. Яго паводзіны ветлівыя, а погляды — ідэальныя.
6. Элегантны, дасціпны — праяўляе артыстычны тэмперамент.
7. Таленавіты, уражлівы — верны сябар. Можна на яго надзеяцца.
8. Сталы, чуллівы, церплівы — праяўляе добрае сэрца.
9. Разважлівы, настойлівы, прыязна настроены — дзейнічае на іншых.
10. Любіць думкамі выбягаць у далёкую будучыню.
11. Захапляецца палітыкай — дбае пра пашану і гонар.
12. Справядлівы, верны, тонкі — сімпатыяй абдымае ўсіх людзей.
13. Асцярожны, задумваецца — дасягае поспехаў у садзеянні з іншымі.
14. Хаця запальчывы, аднак з 'яўляецца чалавекам гуманным.
15. Любіць тое, што нештодзённае, незвычайнае.
16. Сяброўскі, культурны — мае розум даследчы і знаецца на людзях.
17. Сталы, верны — імкнецца прыйсці да пагаднення і гармоніі.
18. Любіць публічныя выступленні і прагне зрабіць кар 'еру.
19. Цікавіцца навуковымі пытаннямі.
20. Дабрадушны, гаваркі — не знаецца на інтарэсах.
21. Дасціпны, бястроскі, гасцінны — любіць звяры.
22. Уражлівы, умее захаваць чужыя сакрэты — праяўляе філасафічныя зацікаўленні. Можна на яго надзеяцца.
23. Мае сяброў высокапастаўленых і праяўляе артыстычны талент.
24. Сяброўскі, ветлівы — хутка расчульваецца.
25. Славалюбівы, стрыманы, спакойны — прагне дабіцца прызнання.
26. Тонкі, сумленны — з 'яўляецца прыхільнікам усяго, што прыгожа.
27. Памяркоўны, дабрадушны — верны сябар.
28. Цікавіцца ўсім нештодзённым, незвычайным, рамантычным.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Які снег у лютым, столькі травы ў летку.
Вароны каркаюць чарадой — да марозу.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**РЫБЫ**, 20 лютага — 20 сакавіка. Мужчыны з-пад гэтага знаку вышэй цэняць унутраныя якасці чалавека, чым знешні бляск. Рэдка бывае шчаслівы ў жаніцьбе, бо вельмі ўражлівы і часта ставіць высокія патрабаванні да сваіх блізкіх. У працы пераважна скромны, нярэдка ўступае, калі нехта прабуе адсунуць яго на бок. Знаходзіць сяброў з-пад знаку Блізнятаў.

Жанчына, якая нарадзілася пад гэтай зоркай, рэдка бывае закаханай. Але калі ўжо закахалася, дык моцным, сапраўдным каханнем. Цяжка прываражыць яе. Яна рэдка сімпатызуе некаму, але тады застаецца абсалютна вернай свайму каханню. Бывае часта бязраднай, не можа сама за сябе вырашаць, і тады патрэбны ёй нейкі знешні імпульс. У яе асаблівыя літаратурныя і мастацкія здольнасці. Шчаслівы дзень — чацвер, месяц — верасень, колер — сярэбраны, каштоўны камень — тапаз, кветка — язмін.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# САКАВІК

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 16 | П | Антаніны, Радаславы | Першы дзень Вялікага посту |
| 2 | 17 | А | Галены, Гальшкі | Марыяны, Фёдара |
| 3 | 18 | С | Кунегунды, Марыны | Льва, Флавіяна |
| 4 | 19 | Ч | Люцыі, Казіміра | Яўгена, Архіпа |
| 5 | 20 | П | Адрыяна, Фрыдэрыка | Карніла, Агафона |
| 6 | 21 | С | Ружы, Віктара | Цімафея, Яўстахія |
| 7 | 22 | Н | Паўла, Тамаша | 1-я нядзеля Вялікага посту |
| 8 | 23 | П | Беаты, Вінцэнта | Аляксандра, Палікарпа |
| 9 | 24 | А | Францішкі, Кацярыны | Івана, Эразма |
| 10 | 25 | С | Цыпрыяна, Макара | Пракопа, Тараса |
| 11 | 26 | Ч | Канстанціна, Бенедыкта | Парфіра, Севасцьяна |
| 12 | 27 | П | Бернарда, Рыгора | Пракопа, Ціта |
| 13 | 28 | С | Бажэны, Крысціны | Марыны, Васіля |
| 14 | 1 | Н | Матыльды, Лявона | Антаніны, Яўдокіі |
| 15 | 2 | П | Людвікі, Клеменса | Арсеня, Фядота |
| 16 | 3 | А | Ізабэлы, Гілярыя | Кляонікі, Яўтропія |
| 17 | 4 | С | Патрыка, Збігнева | Вячаслава, Герасіма |
| 18 | 5 | Ч | Цырыля, Эдуарда | Іраіды, Марка |
| 19 | 6 | П | Багдана, Юзэфа | Аркадзя, Канстанціна |
| 20 | 7 | С | Яўхімія Клаўдзіі | Васіля, Яўгена |
| 21 | 8 | Н | Бенедыкта, Любаміра | Ерма, Феафілакта Нядзеля крыжапаклонная |
| 22 | 9 | П | Кацярыны, Багуслава | 40 мучанікаў |
| 23 | 10 | А | Пелагеі, Фелікса | Канрада, Міхала |
| 24 | 11 | С | Габрыеля, Марка | Рыгора, Сафрона |
| 25 | 12 | Ч | Благавешчанне БМ | Сымона, Феафана |
| 26 | 13 | П | Эмануіла, Тодара | Нікіфара, Цярэнція |
| 27 | 14 | С | Лідзіі, Эрнеста | Бенедыкта, Расціслава |
| 28 | 15 | Н | Анелі, Сікстуса | Івана, Аляксандра Нядзеля Іаана Лесвічніка |
| 29 | 16 | П | Яўстахія, Віктарына | Трафіма, Юльяна |
| 30 | 17 | А | Амеліі, Квірына | Аляксея, Марына |
| 31 | 18 | С | Бальбіны, Карнеліі | Кірылы, Трафіма |

## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў САКАВІКУ

1. Імкнецца да вольнасці і не любіць абмежаванняў.
2. Мірны, міласэрны — праяўляе калекцыянерскія здольнасці.
3. Ёсць чалавекам сур 'ёзным, працалюбівым, цікавіцца навуковымі даследаваннямі.
4. Прасцякаваты, натуральны, праяўляе артыстычныя і літаратурныя здольнасці. Любіць вясковае жыццё.
5. Славалюбівы, праніклівы, рашучы — не заўсёды асяроддзе яго разумее.
6. Дзякуючы сваёй асцярожнасці і стараннасці можа дасягнуць поспехаў у інтарэсах.
7. Праяўляе педагагічныя здольнасці і прагне пазітыўна ўплываць на асяроддзе.
8. Любіць спорт, ёсць музыкальны і хутка расчульваецца.
9. Летуценны і адначасова гарачы — любіць прыроду і звяры.
10. Шчыры, цэніць высока гонар і абавязак.
11. Горды, ваяўнічы — дзейнічае хутка і зручна.
12. Моцна хвалюецца, а адначасова умее правіць іншымі.
13. Крытычна настроены, незабабонны, аднак не бачыць памылак сваіх і блізкіх.
14. Дружалюбны, ахвотны дапамагчы — праяўляе стратэгічныя здольнасці.
15. Правы, чалавечы — мае добры намер.
16. Сяброўскі, вясёлы, верны — можа аднесці перамогу над сваімі ворагамі.
17. Можа дасягнуць добрай пасады, на якой пагражае катастрофа.
18. Патрапіць вельмі ўмела выкарыстаць усё для сваіх патрэб.
19. Энергічны, актыўны — мае дымакратычныя схільнасці. Любіць усё новае і прагрэсіўнае.
20. Славалюбівы, пранізлівы, самавольны — на нішто не звяртае ўвагі.
21. Зручна укладае свае планы і не любіць быць пад наглядам.
22. Верыць сам у сябе — любіць спорт і паляванне.
23. Дасціпны, гаваркі — пазбягае спрэчак і непаразуменняў, аднак незаўсёды гэта ўдаецца.
24. Шорсткі, імпульсіўны, пачуццёвы — можа аднак адважыцца на непаспалітыя ўчынкі.
25. Велікадушны, уладны — прагне займаць дамінуючыя пасады.
26. Выканае ўсё, што задумае і дасягне сваіх жыццёвых мэт.
27. Хітры, разважлівы — праяўляе дыпламатычныя здольнасці.
28. Незалежна ад сваёй высокаразвітай інтэлігенцыі, не заўважае заган у сваіх сяброў.
29. Ветлівы для сваіх сяброў і грозны для ворагаў.
30. У жыцці можа ўзнесціся вышэй сваёй сферы паходжання.
31. Імпульсіўны, адважны — імкнецца наперад і верыць у перамогу.



## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Якія ручаі — такая паводка.

Калі на дзень веснавога роўнадзенства надвор 'е прыгожае, роўнае, цёплае — астатнія дні вясны і ўсё лета таксама будуць роўныя, цёплыя, прыгожыя. А калі гэты дзень віхурны, дажджлівы, перападзісты — такія ж будуць астатнія дні вясны і летнія месяцы.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**БАРАН**, 21 сакавіка — 20 красавіка. Мужчына, народжаны пад гэтай зоркай, мае схільнасці да кіравання, ён ганаровы, самаўпэўнены, любіць паказаць сябе. Больш стараецца дабіцца поспехаў у прафесіянальнай працы і грамадскім жыцці, чым у асабістых справах. Вельмі можа быць счаслівы з жанчынамі з-пад знаку Льва і Стральца. Менш — з-пад знаку Рака і Казярога.

Жанчына, народжаная пад гэтай зоркай, стараецца быць вадзірэем у сваім асяродзі, яна вельмі прадпрыймальная і мае вялікія амбіцыі. Яна цікавіцца мастацтвам, любіць гульні і вясёлыя мерапрыемствы, выказвае зацікаўленне да філасофскіх праблем. Жанчына з-пад знаку Барана шукае знаёмства з мужчынам з-пад знаку Льва і Стральца. Шчаслівы дзень — аўторак, месяц — кастрычнік, колер — чырвоны, каштоўны камень — брыльянт, кветка — фіялка.

**ДЛЯ ЗАПІСАЎ:**

# КРАСАВІК

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 19 | Ч | Гражыны, Тадоры | Дар ´і, Інакенція |
| 2 | 20 | П | Францішка, Урабана | Святланы, Сяргея |
| 3 | 21 | С | Рышарда, Панкрацыя | Фамы, Якуба |
| 4 | 22 | Н | Вацлава, Ізыдара<br>Вербніца | Васіля, Ісакія<br>Марыі Егіпецкае |
| 5 | 23 | П | Ірэны, Вінцэнта | Лідзіі, Нікана |
| 6 | 24 | А | Ізольды, Цэлестына | Арцёма, Захара |
| 7 | 25 | С | Даната, Руфіна | Благавешчанне БМ |
| 8 | 26 | Ч | Цэзара, Дыянізыя | Анны, Ларысы |
| 9 | 27 | П | Маі, Дзмітра | Матроны, Івана |
| 10 | 28 | С | Міхала, Макара | Іларыёна, Сцяпана |
| 11 | 29 | Н | Вялікдзень. Піліпа | Вербніца. Марка |
| 12 | 30 | П | Вялікдзень. Ільюша | Засіма, Івана |
| 13 | 31 | А | Герменегільды, Іды | Апалонія, Веньяміна |
| 14 | 1 | С | Юстына, Валер ´яна | Марыі, Яўфіма |
| 15 | 2 | Ч | Анастассі, Васіля | Палікарпа, Ціта |
| 16 | 3 | П | Юліі, Ксені | Мікіты, Нектарыя |
| 17 | 4 | С | Роберта, Рудольфа | Юрыя, Язэпа |
| 18 | 5 | Н | Аліцыі, Апалоніі | Вялікдзень. Платона |
| 19 | 6 | П | Адольфа | Вялікдзень. Мяфодзія |
| 20 | 7 | А | Агнешкі | Марціна, Рыгора |
| 21 | 8 | С | Анзельма, Бартоша | Радзівона, Руфы |
| 22 | 9 | Ч | Каі, Лявоніі | Вадзіма, Дзісана |
| 23 | 10 | П | Ежы, Войцеха | Янны, Аляксандра |
| 24 | 11 | С | Аляксандра, Рыгора | Анціпа, Марцініяна |
| 25 | 12 | Н | Ярослава, Марка | Васіля, Давіда |
| 26 | 13 | П | Марцэліны, Мажэны | Артымона |
| 27 | 14 | А | Зыты, Тэафіля | Антона |
| 28 | 15 | С | Валерыі, Паўла | Анастассі, Трафіма |
| 29 | 16 | Ч | Рыты, Пятра | Галіны, Ірыны |
| 30 | 17 | П | Кацярыны, Марыяна | Сымона, Адрыяна |



## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў КРАСАВІКУ

1. Горды, уладны, прагне ўзначальваць іншых.
2. Дзякуючы ўласным заслугам можа выбіцца, а нават здабыць славу.
3. Мае схільнасці да глыбокіх разважанняў.
4. Няхай асцерагаецца здрады і лічыць сам на сябе.
5. Ёсць чалавекам працалюбівым і добрым аратарам.
6. З ´яўляецца прыхільнікам перадавой думкі і арыгінальных поглядаў.
7. Аптыміст, якога ўсе любяць.
8. Патрапіць горача любіць, а пераадольванне цяжкасцей дае многа радасці.
9. Валодае незвычайнымі здольнасцямі, а таксама з ´яўляецца зласлівым чалавекам.
10. Ветлы, вясёлы — сябры заўсёды аказваюць падтрымку.
11. Каб дасягнуць мэты, ужывае розныя сродкі.
12. Ёсць шукальнікам незвычайных спраў, цвёрда стаіць на сваім.
13. Актыўны, самастойны, шукае пацех, аднак многа праз гэта траціць.
14. Складае дасканалыя праекты, аднак выкананне іх даручае іншым.
15. Можа быць вынесены па-над сферу свайго паходжання.
16. Перакананы ў сваёй перамозе, з ´яўляецца добрым прыкладам для іншых.
17. Усебакова таленавіты, пераканаўча выступае перад публікай і дабіваецца прыхільнікаў.
18. Любіць свабоду, спорт, як правіла з ´яўляецца апазіцыянерам.
19. Верыць у сябе і жадае перамен і навасцей.
20. Не ўцякае ад цяжкасцей і нязломна імкнецца наперад, захапляючы за сабою іншых.
21. Выдзяляецца дыпламатычнымі здольнасцямі.
22. Ёсць чалавекам станоўчым, замкнёным у сабе і надаецца на адказныя пасты.
23. Чалавек практычны, які можа стаць багатым.
24. Мае дэспатычныя схільнасці, а яго сямейныя адносіны непрыстойныя.
25. Дзякуючы сваім надзвычайным здольнасцям можа зрабіць кар ´еру.
26. Імкнецца да шчасця праз любоў і можа быць добрай галавой сям ´і.
27. Цярпліва чакае ажыццяўлення сваіх праектаў.
28. Імкнецца да прыгажосці і згоды, ахвотна займаецца справамі іншых людзей.
29. Мірны чалавек, які давярае Божаму наканаванню.
30. Упэўнены ў сабе. Самалюб.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Ірына — дзень сяўбы капусты на рассаду.
Зязюля пачне кукаваць на голы лес, то год будзе неўражайны.
У красавіку грымот — цёплы год будзе.
Пчолы ў красавіку не вылецелі — чакай халадоў.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**БЫК**, 21 красавіка — 21 мая. Мужчына, народжаны пад гэтай зоркай, вельмі сумленны ў сяброўстве і каханні, у гаспадарцы спрытны і прадпрымальны. Любіць сям 'ю, дом і агарод, вельмі хоча мець дзяцей. Не церпіць, калі яму супярэчаць, лепш прытакваць яму і шукаць іншага падыходу, бо ён гатовы прыняць параду, але ніколі не згодзіцца слухаць загады. Адчувае сябе найлепш з людзьмі з-пад знаку Быка, нядрэнна — Дзевы і Казярога. Небяспечна знаёмства з-пад знаку Вадалея.

Жанчына, народжаная пад знакам Быка — верная жонка, вельмі гаспадарная і ашчадная. Апрача гэтага, яна адзначаецца вялікай упартасцю ў імкненні да вызначанай мэты. Перашкоды яшчэ ўзмацняюць яе ўпартасць, так што праціўнік вымушаны ўступіць пад яе напорам. Шчаслівая яна будзе з мужчынам з-пад знаку Скарпіёна, менш паспяхова ўкладаюцца адносіны з партнёрамі з-пад знаку Вадалея і Льва. Шчаслівы дзень — пятніца, месяц — лістапад, колер — цёмна-сіні, каштоўны камень — сапфір, кветка — сланечнік.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# МАЙ (ТРАВЕНЬ)

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 18 | С | Анелі, Філіпа | Кузьмы, Макара |
| 2 | 19 | Н | Анатоля, Зігмунта | Яна, Трыфана |
| 3 | 20 | П | Канстытуцыя 3 Мая | Анастассі, Гаўрыла |
| 4 | 21 | А | Фларыяна, Манікі | Сакрата, Януара |
| 5 | 22 | С | Ірэны, Вальдэмара | Віталія, Клімента |
| 6 | 23 | Ч | Юдыты, Юранда | Аляксандры, Юрыя |
| 7 | 24 | П | Людмілы, Людаміра | Валянціна, Савы |
| 8 | 25 | С | Станіслава, Віктара | Марка, Сільвестра |
| 9 | 26 | Н | Дзень Перам. Кацярыны | Дзень Перам. Васіля |
| 10 | 27 | П | Антаніны, Ізыдара | Сымона, Сцяпана |
| 11 | 28 | А | Францішка, Філіпа | Кірылы Тур. Віталя |
| 12 | 29 | С | Даміцэлі, Даменіка | Мемнона, Фядота |
| 13 | 30 | Ч | Роберта, Сервацыя | Якуба, Даната |
| 14 | 1 | П | Дабеслава, Баніфацыя | Тамары, Макара |
| 15 | 2 | С | Надзеі, Соф 'і | Барыса, Глеба |
| 16 | 3 | Н | Андрэя, Вячыслава | Цімафея, Фядосія |
| 17 | 4 | П | Веранікі, Славаміра | Пелагеі, Сільвана |
| 18 | 5 | А | Аляксандры, Эрыка | Ірыны, Адрыяна |
| 19 | 6 | С | Мікалая, Пятра | Дзяніса, Іова |
| 20 | 7 | Ч | Базыля, Бернардына | Акакія, Ніла |
| 21 | 8 | П | Віктара, Крыспіна | Івана, Арсеня |
| 22 | 9 | С | Юліі, Галены | Макавея, Ісая |
| 23 | 10 | Н | Івоны, Міхала | Таісы, Сымона |
| 24 | 11 | П | Яанны, Сюзаны | Кірылы, Мяфодзія |
| 25 | 12 | А | Урбана, Рыгора | Германа, Ермагена |
| 26 | 13 | С | Дзень Маці. Піліпа | Дзень Маці. Макара |
| 27 | 14 | Ч | Яна, Юльюша | Узнясенне. Сідара |
| 28 | 15 | П | Аўгусціна, Яраміра | Дзімітра, Пахомія |
| 29 | 16 | С | Тэадозіі, Магдалены | Музы, Фёдара |
| 30 | 17 | Н | Фелікса, Фердынарда | Ефрасінні, Сцяпана |
| 31 | 18 | П | Анелі, Патранелі | Клаўдзіі, Юліі |

## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў ТРАВЕНІ

1. Ашчадны, добры арганізатар, мае спрыт да інтарэсаў.
3. Моцна адчувае ўсякія сімпатыі і антыпатыі.
3. Патрапіць навязваць пагадненні і ісці на кампраміс.
4. Мае вялікія здольнасці, аднак не патрапіць умела імі кіраваць.
5. Патрабуе стараннага выхавання ў дзяцінстве.
6. Інтэлігентны, уладны і любіць сямейны спакой.
7. Клапатлівасцю і гаспадарлівасцю можа асягнуць вялікую маёмасць.
8. Мае ўраўнаважаны розум і праяўляе матрыманяльныя здольнасці.
9. Любіць выступаць ва ўсёй красе і панаваць над іншымі.
10. Сталы, моцны характар, прыязны, сімпатычны, уразлівы.
11. Асцярожны, ашчадны, разважлівы — цікавіцца мастацтвам.
12. З 'яўляецца адважным, прадпрыймальным і таленавітым чалавекам.
13. Цікавіцца мастацтвам. Бывае, што можа праяўляць паэтычныя або музычныя здольнасці.
14. Жыццё пройдзе на ростанях, не знаючы якой пайсці дарогай.
15. Мае характар грамадскага дзеяча, мае многа сяброў.
16. Рызыкоўны. Інакш думае чым дзейнічае.
17. Інтэлігентны, уражлівы, любіць звяроў і праяўляе гандлёвыя здольнасці.
18. Мірна настроены і хацеў бы, каб у яго асяроддзі было згодна і ўладна.
19. Яго дамашняе жыццё непрыемнае. Трэба, каб шукаў пацяшэння ў навуцы, мастацтве або літаратуры.
20. Верыць у сябе і патрапіць вырашаць цяжкія праблемы.
21. Міласэрны і адданы іншым. Павінен пазбягаць турбот.
22. Адважны, прадпрыймальны і таленавіты чалавек.
23. Уражлівы, прыязна настроены — цікавіцца мастацтвам. Можа дасягнуць вялікай маёмасці.
24. Бязлітасны эгаіст, не патрапіць кіраваць сваімі здольнасцямі.
25. Чалавек цвярозага розуму. Мае актыўны і востры інтэлект.
26. Інтэлігентны, уладны, любіць дамашні спакой.
27. Гаспадарлівы і прадбачлівы. Праяўляе арыгінальныя думкі.
28. Настроены мірна і хацеў бы вакол сябе бачыць згоду, лад і гармонію.
29. Дамашняе жыццё ўкладаецца не вельмі добра. Чалавек, які патрапіць выканаць усе задачы, усебаковыя зацікаўленні.
30. Верыць у свае сілы, імкнецца да ўлады і патрапіць рашаць цяжкія праблемы.
31. Сяброўскі, сімпатычны, высакародны. Дапамагае слабым, хворым.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі на Юр 'я густы дождж, то жыта ўродзіцца буйнае, густое. Калі дождж толькі «крапіць», то лета будзе багатае на траву. Мокры май — будзе жыта як гай.



## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**БЛІЗНЯТЫ, 22 мая — 21 чэрвеня.** Яны лёгка прыстасоўваюцца да новага асяроддзя. Аднолькава нязмушана пачуваюць як у атачэнні людзей свайго кола, так і ў атачэнні цалкам незнаёмых ім людзей. Яны заўсёды здольныя знайсці тую тэму, якая б цікавіла прысутных, ну і, вядома, іх саміх. Таму Блізняты заўсёды маюць рэпутацыю таварыскіх.

Бадай што немагчыма знайсці чалавека з-пад гэтага знаку, які б скончыў жыццё самагубствам з-за нешчаслівага кахання. Блізняты заўсёды адчуваюць патрэбу ва ўсім новым, нязвыклым. Яны не зносяць стагнацыі, застою і нуды. Блізняты не вельмі ўлягаюць за вучобай і працай, і не таму, што ім бракуе здольнасцяў, запалу ці энтузіязму, проста іх палохае цяжар аднастайных і сумных абавязкаў. У іх паталагічная ненавісць да пунктуальнасці. Блізняты залішне гаваркія і гультаяватыя. Яны заўсёды абяцаюць болей, чым могуць зрабіць. Лёгка адступаюць ад дасягнутага ў выпадках, калі іх раптам прываблівае іншая мэта.

Блізняты зазвычай не бываюць заможнымі. Грошы і вялікая маёмасць не вабяць іх. Адбываецца гэта вось з-за чаго: грошы і маёмасць замінаюць ім быць вольнымі. Яны панічна баяцца трапіць у залежнасць не толькі ад людзей, але і ад рэчаў.

Блізняты маюць наступныя рысы характару: прага ведаў, навуковыя і літаратурныя здольнасці, аналітычны розум, уменне фармуляваць свае думкі.

Мужчына, народжаны пад гэтай зоркай, мае зменны характар, жывы, крытычны розум, вышэй ацэньвае інтэлігенцыю, чым знешні выгляд, любіць падарожжы. Ён бярэцца за некалькі спраў адначасова, сярод сяброў вядомы тым, што ніколі не мае вольнага часу і надта забыўлівы. Найлепш укладаецца ў яго партнёрства з людзьмі з-пад знаку Вагі і Вадалея, горш з-пад знаку Дзевы і Рыбы.

Жанчына, якая нарадзілася пад гэтай зоркай, высока цэніць інтэлект. Пераважна бывае ў добрым настроі, заўсёды маладая і вясёлая, поўная ініцыятывы, спрытная ў размове і ў дзеянні, ахвотная пафліртаваць без дай прычыны: з цікаўнасці або дзеля забавы. Яе пачуцці не вельмі глыбокія. Шлюб з ёй, вядома, нетрывалы — нярэдка заканчваецца разводам. Любіць падарожнічаць і бываць у кампаніях. Шчаслівы дзень — серада, месяц — снежань, колер — жоўты, каштоўны камень — брыльянт і апал, кветка — цюльпан і бэз.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# ЧЭРВЕНЬ

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 19 | А | Дзень дзіцяці. Якуба | Дзень дзіцяці. Карнілы |
| 2 | 20 | С | Канрада, Эразма | Аляксея, Доўманта |
| 3 | 21 | Ч | Тамары, Лешка | Алёны, Канстанціна |
| 4 | 22 | П | Караля, Францішка | Узнясенне. Якуба |
| 5 | 23 | С | Вальтэра, Баніфацыя | Ефрасінні Полацкай |
| 6 | 24 | Н | Паўліны, Норберта | Сушэсце Св. Духа на апосталаў |
| 7 | 25 | П | Роберта, Веслава | Дзень Святога Духа |
| 8 | 26 | А | Максіма, Медарда | Лук 'яна, Паўла |
| 9 | 27 | С | Пелагеі, Феліцыяна | Фядоры, Ніла |
| 10 | 28 | Ч | Малгажаты, Багуміла | Ігната, Мікіты |
| 11 | 29 | П | Барнабы, Радаміла | Фядоссі, Аляксандра |
| 12 | 30 | С | Яніны, Ануфрыя | Рамана, Якуба |
| 13 | 31 | Н | Антонія, Люцыяна | Нядзеля ўсіх Святых |
| 14 | 1 | П | Элізы, Базыля | Першы дзень Пянероўкі |
| 15 | 2 | А | Ялянты, Віта | Аляксандра, Нікіфара |
| 16 | 3 | С | Аліны, Юстыны | Лук 'яна, Паўла |
| 17 | 4 | Ч | Лаўры, Марцыяна | Марфы, Марыі |
| 18 | 5 | П | Божае цела. Марка | Канстанціна, Ігара |
| 19 | 6 | С | Гервазія, Пратазія | Фёклы, Сасанны |
| 20 | 7 | Н | Богны, Фларэнтыны | Валерыя, Фядота |
| 21 | 8 | П | Аліцыі, Алёйзыя | Фёдара, Яфрэма |
| 22 | 9 | А | Паўліны, Флавіўша | Кірылы, Аляксандра |
| 23 | 10 | С | Ванды, Зенона | Антаніны, Цімафея |
| 24 | 11 | Ч | Дануты, Яна | Варвары, Варфаламея |
| 25 | 12 | П | Луцыі, Вільгельма | Марфы, Ануфрыя |
| 26 | 13 | С | Яна, Паўла | Анны, Антаніны |
| 27 | 14 | Н | Марыі, Уладзіслава | Усіх Святых у зямлі беларускай прасіяўшых |
| 28 | 15 | П | Ірэнэуша, Лявона | Аўгустына, Міхала |
| 29 | 16 | А | Пятра і Паўла | Ціхана, Яўтропія |
| 30 | 17 | С | Эміліі, Люцыны | Клімента, Мануіла |



## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў ЧЭРВЕНІ

1. Праніклівы, хуткі, прагны ўлады. Чакаюць яго далёкія падарожжы.
2. З 'яўляецца дасканалым палемістам. Аднак нельга даваць павярхоўнай ацэнкі.
3. Любіць мяняць месцы пражывання і працы.
4. Мае цвярозы розум, аднак без усялякага розуму.
5. Або будзе надзвычайным чалавекам, або няўдачнікам.
6. Красамоўны, кемлівы, кідаецца з адной крайнасці ў другую.
7. Няхай не рассейвае непатрэбна сваіх сіл.
8. Патрапіць пралажыць сабе дарогу жыцця.
9. Трэба падрыхтавацца да зменлівага лёсу.
10. Можа выбіцца дзякуючы сваім гандлёвым здольнасцям.
11. Любіць азарт і лічыць на шчасце.
12. Здольны да глыбокай сапраўднай любві.
13. Вынаходлівы і паспяхова рэалізуе свае праекты.
14. Вясёлы, капрызны, нервовы — далікатны ў кампаніі.
15. Прыхільнік паспяховасці, многа часу прысвячае вучобе. Акружаюць яго няверныя сябры.
16. Красамоўны, дасціпны, любіць камандаваць і панаваць над іншымі.
17. Хацеў бы аб усім даведацца і аб усім спазнаць.
18. Хацеў бы ўсім паддобрыцца і захапіць сваім розумам і камфортам.
19. Калі будзе панаваць над сваімі нервамі, дасягне ў жыцці дасканалых рэзультатаў.
20. Рашучы, спрытны, актыўны, аднак любіць марыць.
21. Патрапіць спрытна пераконваць іншых у сваіх рацыях.
22. Чуллівы і ўлюблівы, аднак можа гэта адбіцца некарысна.
23. Далікатны, назіральны, патрапіць мець вялікі ўплыў на сваё асяроддзе.
24. Элегантны, праніклівы, імкнецца жыць у дабрабыце і камфорце.
25. Можа дасягнуць паспяховасці ў другой палове жыцця, таму што маладосць была не надта шчаслівая.
26. Неспакойны, эксцэнтрычны, мае арыгінальны характар і незвычайныя здольнасці.
27. Любіць сямейнае жыццё, але характар дастаткова капрызны.
28. Чуллівы, улюблівы, аднак крыху лёгкадумны і любіць жыць напаказ.
29. Упарты, уладны, энергічны. Можа выйсці на вяршыню.
30. Можа аднесці паспяховасць у палітыцы або журналістыцы.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі 2-га чэрвеня лье дождж — увесь чэрвень будзе сухі.
Прышоў Ерамей — больш не сей.
Фёдар-Страцілат грамамі багат.
На Тодара раса — канапель паласа.
Птушкі моцна крычаць, нізка лётаюць — перад непагаддзю.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**РАК, 22 чэрвеня — 22 ліпеня.** Мужчына, народжаны пад гэтай зоркай, вельмі любіць хатні спакой, выгоды, для яго сям´я і дзеці — жыццёвая патрэба. Не любіць ён вясёлых кампаніяў, людзей, якія любяць рабіць вакол сваёй асобы шум. Найлепш укладаецца ў яго жыццё з людзьмі з-пад знаку Скарпіёна і Рыбы.

Жанчына з-пад знаку Рака мае багатую, глыбокую, адухоўленую натуру. Для яе псіхічнае жыццё мае вялікае значэнне. Яна значна лепшая апякунка, чым партнёрша да фліртаў і гульняў. Яна вельмі прывязваецца да рэчаў, любіць збіраць калекцыі. Любіць дом, але і падарожжы. Нейкім дзіўным спосабам спалучае ў сабе гэтыя дзве зусім розныя схільнасці. Найбольш падабаюцца ёй мужчыны з-пад знаку Скарпіёна і Рыбы. Шчаслівы дзень — панядзелак, месяц — студзень, колер — фіялетавы, каштоўны камень — тапаз, агат, кветка — ландыш.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# ЛІПЕНЬ

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 18 | Ч | Галіны, Марыяна | Іпацыя, Лявона |
| 2 | 19 | П | Марыі, Урбана | Юды, Засіма |
| 3 | 20 | С | Анатоля, Яцка | Іны, Рыммы |
| 4 | 21 | Н | Інацэнта, Тодара | Юльяна, Цярэнція |
| 5 | 22 | П | Караліны, Антона | Зінаіды, Юльяна |
| 6 | 23 | А | Дамінік, Луцыі | Агрыпіны, Германа |
| 7 | 24 | С | Цырыля, Мяфодзія | Іаана Хрысціцеля |
| 8 | 25 | Ч | Эльжбеты, Пракопа | Фяўроніі, Пятра |
| 9 | 26 | П | Веранікі, Зянона | Давіда, Дзяніса |
| 10 | 27 | С | Амеліі, Філіпа | Інесы, Самсона |
| 11 | 28 | Н | Вольгі, Пелагеі | Сяргея, Германа |
| 12 | 29 | П | Яна, Гвальберта | Пятра і Паўла |
| 13 | 30 | А | Маргарыты, Ірвіна | 12 Апосталаў |
| 14 | 1 | С | Банавентуры, Ульрыка | Кузьмы і Дзям´яна |
| 15 | 2 | Ч | Генрыка, Уладзіміра | Уліты, Фоція |
| 16 | 3 | П | Марыкі, Беніты | Анатоля, Марка |
| 17 | 4 | С | Анеты, Багдана | Марфы, Андрэя |
| 18 | 5 | Н | Эрвіна, Каміля | Апанаса, Сяргея |
| 19 | 6 | П | Альфрэды, Вадзіслава | Юльяны, Валянціна |
| 20 | 7 | А | Часлава, Гераніма | Фамы, Евангела |
| 21 | 8 | С | Даліды, Данеля | Пракопа, Феадосія |
| 22 | 9 | Ч | Панкрата, Марыі | Марыі, Факі |
| 23 | 10 | П | Богны, Жаліслава | Антона, Апалона |
| 24 | 11 | С | Кінгі, Крысціны | Вольгі, Яўфімія |
| 25 | 12 | Н | Валянціны, Крыштафа | Арсеня, Міхала |
| 26 | 13 | П | Анны, Міраславы | Гаўрылы, Сцяпана |
| 27 | 14 | А | Ліліі, Аўрэлія | Юсты, Анісіма |
| 28 | 15 | С | Аіды, Інацэнта | Юліты, Уладзіміра |
| 29 | 16 | Ч | Марты, Олафа | Валянціны, Уладзіміра |
| 30 | 17 | П | Юліты, Людмілы | Веранікі, Марыны |
| 31 | 18 | С | Любаміра, Ігната | Емяльяна, Якінфа |

## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў ЛІПЕНІ

1. Дасціпны, добры, працавіты чалавек.
2. Яго жыццёвы размах можа быць абмежаваны шлюбнымі сувязямі.
3. Славалюбівы, верыць у лепшае заўтра — выдзяляецца артыстычнасцю.
4. Асцярожны, прадбачлівы, мае высока развітае пачуццё ўласнай індывідуальнасці.
5. Ужо ў маладосці праяўляе незвычайныя здольнасці.
6. Уражлівы, тонкі, пачуццёвы — патрапіць мірна супрацоўнічаць з іншымі.
7. Настойлівы, упарты — любіць жыць у дастатку.
8. Авалодае сваіх сяброў і пераможа ворагаў.
9. Мае моцную нервную сістэму — кемлівы і любіць быць на чале.
10. Уражлівы на крытыку — любіць расказваць і азарнае жыццё.
11. Уладны і імкнецца да незалежнасці.
12. Выбірае правільныя дарогі ў жыцці.
13. Часта мяняе прафесіі і шукае шчасця ў свеце.
14. Праяўляе ўсебаковыя зацікаўленні.
15. Мае рамантычны характар і выклікае добрае ўражанне.
16. Прадбачлівы, славалюбівы — часта мяняе свае погляды.
17. Праяўляе педагагічныя здольнасці, аднак — недаберлівы і цяжка яго зразумець.
18. Актыўны, незалежны — нікога не патрабуе.
19. Адухаўлёны, ліберальны — адароны літаратурнымі здольнасцямі.
20. Хаця часта мяняе настрой, але адданы працы.
21. Цікавіцца грамадскімі справамі і палітыкай.
22. Занадта шмат ўвагі прысвячае сваёй асобе.
23. Трапна ацэньвае людзей і высока цэніць незалежнасць.
24. Здольны, энергічны, ганарысты, умее цешыцца жыццём.
25. Сяброўскі, сімпатычны, прагне адыгрываць вялікую ролю ў асяроддзі.
26. Нічым не турбуецца і дазваляе сабе на выбрыкі.
27. З ´яўляецца верным сябрам, але не ўмее прабачыць ворага.
28. Разумны, хітры, горды,— адзінотнік.
29. Упэўнены ў сваіх паступках, уладны, дзейнічае на іншых людзей.
30. Праяўляе арганізацыйныя здольнасці і можа заняць высокую пасаду.
31. Умела абараняе свае інтарэсы.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

На Іванаву ноч зорна — будзе многа грыбоў. Вялікая раса — ураджай агуркоў.

Вечарам і раніцай туман сцелецца нізка па вадзе і зямлі — дзень будзе сонечны і ясны.



## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**ЛЕЎ, 23 ліпеня — 23 жніўня.** Мужчына, народжаны пад гэтай зоркай, мае тыпова мужчынскі характар: моцную волю, мае схільнасці да моцных перажыванняў і, часамі, да алкаголю. У хвілінах злосці не пануе над сабой. Вельмі добра ў яго ўкладаецца жыццё з жанчынай з-пад знаку Баран і Стральца.

Жанчына, народжаная пад знакам Льва, абдароўвае свайго выбранага пачуццём гарачым, але нетрывалым. Імкнецца заўсёды атрымаць уладу над сваім партнёрам, калі раз расчаруецца ў ім, ніколі да яго не вернецца. Яна моцна верыць ва ўласныя сілы і ў дабрату людзей, з якімі звязвае свой лёс. Шчаслівы дзень — нядзеля, месяц — люты, колер — залаты і сіні, каштоўны камень — рубін, кветка — ружа.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# ЖНІВЕНЬ

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 19 | Н | Надзеі, Юстыны | Макрыны, Серафіма |
| 2 | 20 | П | Карыны, Густава | Ілы, Аўраама |
| 3 | 21 | А | Лідзіі, Аўгуста | Сымона, Ануфрыя |
| 4 | 22 | С | Даміініка, Пратаза | Марыі, Магдалены |
| 5 | 23 | Ч | Станіслава, Освальда | Апалінара, Трафіма |
| 6 | 24 | П | Славы, Якуба | Барыса і Глеба |
| 7 | 25 | С | Дорыс, Каятана | Анны, Алімпіяды |
| 8 | 26 | Н | Эмільяна, Цыпрыяна | Параскі, Ермалая |
| 9 | 27 | П | Рамана, Раланда | Панцеляймона, Антона |
| 10 | 28 | А | Багдана, Барыса | Прахора, Юльяна |
| 11 | 29 | С | Філамены, Сюзаны | Серафімы, Феадоцці |
| 12 | 30 | Ч | Клары, Леха | Андроніка, Валянціна |
| 13 | 31 | П | Альфрэда, Эўзебія | Макавеяў, Саламоніі |
| 14 | 1 | С | Альфрэда, Эўзебія | Макавеяў, Саламоніі |
| 15 | 2 | Н | Марыі, Напалеона | Васіля, Сцяпана |
| 16 | 3 | П | Роха. Яахіма | Антона, Кузьмы |
| 17 | 4 | А | Жаны, Мірона | Яўдокіі, Канстанціна |
| 18 | 5 | С | Ілоны, Браніслава | Нонны, Яўсігнея |
| 19 | 6 | Ч | Баляслава, Юльяна | Спаса (Праабраж. Гасп.) |
| 20 | 7 | П | Бернарда, Сабеслава | Марыны, Пімена |
| 21 | 8 | С | Яанны, Казіміра | Емяльяна, Мірона |
| 22 | 9 | Н | Цэзара, Зыгфрыда | Дзімітра, Юльяна |
| 23 | 10 | П | Апалінара, Піліпа | Лаўрэнція, Рамана |
| 24 | 11 | А | Бартламея, Ежы | Раісы, Фёдара |
| 25 | 12 | С | Луізы, Людвіка | Аляксандра, Фоція |
| 26 | 13 | Ч | Марыі, Зефірыны | Ірынея, Максіма |
| 27 | 14 | П | Манікі, Юзафа | Феадосія, Міхея |
| 28 | 15 | С | Патрыцыі, Вышаміра | Успенне Пр. Багар |
| 29 | 16 | Н | Сабіны, Яна | Дзяміда, Якіма |
| 30 | 17 | П | Ружы, Шчаснага | Мірона, Паўла |
| 31 | 18 | А | Рамоны, Раймунда | Емяльяна, Флора |



## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў ЖНІЎНІ

1. Ветлівы, шчыры, высакародны ўладар.
2. Бясстрашны абаронца каханых асоб.
3. Характарызуе вялікая гармонія ў супрацоўніцтве з іншымі.
4. Незвычайна чуллівы, уражлівы, а нават натхнёны.
5. Не трэба паддавацца сладастраснасці і гарачцы.
6. Нават у найгоршых абставінах не пакідае сваіх сяброў.
7. Дасканала выкарыстоўвае свае здольнасці.
8. Шкада траціць час на забавы і капрызы.
9. Жыццё праводзіць у адзіноце і не лічыцца з поглядамі іншых.
10. Прагне ажыццявіць свае ідэалы.
11. Можа перавысіць сферу свайго паходжання.
12. Карыстаецца давер´ем у людзей вышэй пастаўленых.
13. Патрапіць захаваць чужыя тайны, трапна характарызуе людзей.
14. Самастойны, вынаходлівы — верыць у сваё жыццёвае шчасце.
15. Выдзяляецца ў сваім асяроддзі — умее кіраваць людзьмі.
16. Хаця яго паводзіны не раз жорсткія, але сэрца адкрытае, шчырае.
17. Вельмі гарачы і настройвае супроць сябе асобы адменнага полу.
18. Дрэнна адчувае сябе на пасадзе падначаленага, марыць, каб кіраваць іншымі.
19. Умее выкарыстаць усе аказіі, якія трапляюць ў жыцці.
20. Упарта імкнецца да мэты, якую сабе вызначыў.
21. Цэлае жыццё заняты карыснымі справамі.
22. Выдзяляецца крытычнымі і аналітычнымі здольнасцямі.
23. Усе свае абавязкі выконвае з запалам і старанна.
24. Праз доўгія гады захоўвае свае сілы і можа дажыць старэчых гадоў.
25. Характарызуе яго лагічнае мышленне і тактоўнасць.
26. Працавіты, летуценны, ахвотна займаецца слабейшымі.
27. Сур´ёзны — створаны для ахвярнай працы.
28. Мае высокаразвітае душэўнае пачуццё — яго ўчынкі высакародныя.
29. Без цяжкасцей умее зарабляць грошы, але хутка іх распускае.
30. У крытыцы і ацэнцы іншых найчасцей перабольшвае.
31. Спакойны, высакародны, простадушны — захоўваецца натуральна.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Буслы кружацца высока — доўга будзе стаяць добрае надвор´е. Буслы высока ўзлятаюць — сонейка заклікаюць.

Пасля Іллі дажджу і баба фартухом нагоніць.

Глядзі восень па Макрыне. Калі ў гэты дзень мокра — восень будзе мокрая.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**ДЗЕВА, 24 жніўня — 22 верасня.** Мужчына, народжаны пад гэтай зоркай, халодны, але ў каханні пастаянны. Калі раз прачнецца ў ім сапраўднае каханне, будзе вельмі верны. Любіць жанчын з моцным пачуццём мацярынства і сямейнасці, сам таксама вельмі жыццёвы, практычны, старанны. Дакладнасць яго часам пераходзіць нават у педантычнасць. Сам сабе часам шкодзіць празмернай крытыкай, якая ў яго бывае вострай. Добра сужываецца з жанчынамі з-пад знаку Быка або Казярога, горш — з-пад знаку Блізнятаў.

Жанчына мае вельмі складаны характар. Яе цяжка зразумець. Яе інтэлект здаецца значна мацнейшы, чым парывы сэрца. Яна настроена крытычна, вельмі патрабуючая і спрытная. Марыць аб добрым партнёры. Але знайсці яго вельмі цяжка, яна сур´ёзна падыходзіць да выбару і вельмі патрабуючая да партнёра. Найлягчэй ёй знайсці супольную мову з людзьмі, народжанымі пад знакам Льва і Казярога, цяжэй — з-пад знаку Блізнятаў. Шчаслівы дзень — серада, месяц — сакавік, колер — цёмна-жоўты, каштоўны камень — агат, кветка — архідэя.

**ДЛЯ ЗАПІСАЎ:**

# ВЕРАСЕНЬ

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 19 | С | Браніславы, Ідзія | Фёклы, Андрэя |
| 2 | 20 | Ч | Юльяна, Сцяпана | Самуіла, Сявіра |
| 3 | 21 | П | Ізабэлы, Шымана | Фадзея, Вассы |
| 4 | 22 | С | Іды, Ліліянны | Яўлаліі, Агафоніка |
| 5 | 23 | Н | Дароты, Ваўжынца | Ірынея, Калініка |
| 6 | 24 | П | Беаты, Яўгена | Арсеня, Георгія |
| 7 | 25 | А | Рэгіны, Мельхіёра | Варфаламея, Ціта |
| 8 | 26 | С | ПД Марыі Сеўнай | Наталлі, Адрыяна |
| 9 | 27 | Ч | Пятра, Сяргея | Ліверыя, Пімена |
| 10 | 28 | П | Лукаша, Мікалая | Іова, Майсея |
| 11 | 29 | С | Дагны, Яцка | Галавасека, Ефрасінні |
| 12 | 30 | Н | Гвідона, Радзіміра | Аляксандра, Паўла |
| 13 | 31 | П | Яўгеніі, Піліпа | Генадзя, Кіпрыяна |
| 14 | 1 | А | Раксаны, Бернарда | Марфы, Сымона |
| 15 | 2 | С | Альбіна, Нікадэма | Руфіны, Маманта |
| 16 | 3 | Ч | Эдыты, Канрада | Васілісы, Анфіма |
| 17 | 4 | П | Юстыны, Францішка | Вавілы, Майсея |
| 18 | 5 | С | Ірмы, Станіслава | Лізаветы, Раісы |
| 19 | 6 | Н | Канстанцыі, Януарыя | Міхала, Рамана |
| 20 | 7 | П | Філіпіны, Еўстахія | Анісіфара, Лукі |
| 21 | 8 | А | Янаша, Матэвуша | Прачыстая (Раждж. ПДМ) |
| 22 | 9 | С | Маўрыца, Тамаша | Ганны, Якіма |
| 23 | 10 | Ч | Тэклі, Багуслава | Клімента, Пятра |
| 24 | 11 | П | Герарда, Тэадора | Сяргея, Германа |
| 25 | 12 | С | Аўрэліі, Ладыслава | Фёдара, Юльяна |
| 26 | 13 | Н | Юстыны, Цыпрыяна | Карніла, Лукі |
| 27 | 14 | П | Дзям´яна, Амадэуша | Узняс. Кр. Гасп. |
| 28 | 15 | А | Любы, Вацлава | Мікіты, Сцяпана |
| 29 | 16 | С | Міхаліны, Міхала | Людмілы, Яўфімія |
| 30 | 17 | Ч | Соф´і, Геранімa | Веры, Надзеі, Любові |

## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў ВЕРАСНІ

1. Праяўляе літаратурныя і журналісцкія здольнасці.
2. Збірае ўраджай, хаця не сее.
3. Ёсць элегантны і не любіць выдзяляцца сярод іншых.
4. Праяўляе вялікі ўплыў на асобы адменнага полу.
5. Нельга заглыбляцца ў дробязях, трэба імкнуцца да спраў цэласных.
6. Лепш адчувае сябе на пасадзе падначаленага чым начальніка.
7. Вызначаецца незвычайнай уражлівасцю і здольнасцю прадбачвання.
8. Афармляе справы далейшыя, рупліва шукае шчасця.
9. Разумны, прадбачлівы, думае пра будучыню, а яго ідэі незвычайныя.
10. Спрытны аналітык — прагне быць папулярным.
11. Хаця бывае крыху жорсткі, але яму можна давяраць.
12. Пашчасьлівіцца ў гандлю і судзеянні з іншымі.
13. Выдзяляецца дыпламатычнымі здольнасцямі і патрапіць быць добрым пасрэднікам.
14. Быстры, пранізлівы — пазнае тайнікі прыроды.
15. Імпульсіўны з энтузіязмам — ахвотна працуе для грамадства.
16. Скрыты, несяброўскі.
17. Апазіцыянер, цяжка яго задаволіць.
18. Засяроджвае вакол сябе многіх сяброў.
19. З ´яўляецца чалавекам сур ´ёзным, выдзяляецца патрыятызмам.
20. Хаця настроены эгаістычна, аднак патрапіць узрушыцца.
21. Кемлівы, але трэба асцерагацца перавялічэння.
22. Сумненнямі і скептыцызмам даходзіць да праўды.
23. Усебакова таленавіты, абаронца праўды.
24. Адважны, незалежны — крочыць уласнымі сцежкамі.
25. Добры назіральнік, яго інтэлект вельмі высокі.
26. Упарты і працавіты, аднак незаўсёды дасягне вынікаў.
27. Сяброўскі, ахвотна дапамагае іншым. Далікатны, нескупы чалавек.
28. Ваяўніча настроены, адароны артыстычнымі здольнасцямі.
29. Жыццё праходзіць у цяжкіх намаганнях.
30. Прыхільнік справядлівасці. Можа дабіцца поспехаў у паліцыцы або журналістыцы.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Гром у верасні прадвяшчае доўгую восень.
У першы дзень бабінага лета ясна — восень будзе цёплая.
Шпакі доўга не адлятаюць — восень будзе сухая.
На рабіне багата пладоў — восень будзе дажджлівая.



## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**ВАГА, 23 верасня — 23 кастрычніка.** Мужчына, народжаны пад знакам Вагі, мае незвычайную інтуіцыю ў вядзенні гаспадарчых і грашовых спраў. Бывае вельмі асцярожны і лёгка настройваецца супроць паасобных людзей. І мужчына, і жанчына з-пад знаку Вагі найлепш сябруюць з людзьмі з-пад свайго знаку і Блізнятаў.

Жанчыне варажбітка прадсказвала асабліва добрыя якасці: прыгажосць, гаспадарлівасць, мілы характар, ахвоту дапамагаць людзям, таварыскасць. Не разумее яна экстравагантнасцяў, мала талерантцыйная ў адносінах да розных дзівацтваў і праяў іншасці.

Шчаслівы дзень — пятніца, месяц — красавік, колер — блакітны, каштоўны камень — апал, кветка — гваздзік.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# КАСТРЫЧНІК

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 18 | П | Дануты, Рэмігіуша | Ірыны, Соф ´і |
| 2 | 19 | С | Дыянізыі, Тэафіля | Фёдара, Канстанціна |
| 3 | 20 | Н | Тэрэзы, Герарда | Алега, Міхала |
| 4 | 21 | П | Разаліі, Эдвіна | Мялеція, Іпація |
| 5 | 22 | А | Флавіі, Ігара | Іоны, Факі |
| 6 | 23 | С | Артура, Брунона | Андрэя, Іраіды |
| 7 | 24 | Ч | Марыі, Марка | Тэклі, Уладзіслава |
| 8 | 25 | П | Брыгіды, Пелагеі | Ефрасінні, Сяргея |
| 9 | 26 | С | Арнольда, Дыянізыя | Іаана Багаслова |
| 10 | 27 | Н | Паўліны, Францішка | Марка, Ігната |
| 11 | 28 | П | Альдоны, Эміля | Вячаслава, Харытона |
| 12 | 29 | А | Серафімы, Яўстахія | Андроніка, Космы |
| 13 | 30 | С | Эдуарда, Тэафіля | Міхала, Рыгора |
| 14 | 1 | Ч | Дзень настаўніка. Лівіі | Пакроў Пр. Багамацi |
| 15 | 2 | П | Ядвігі, Тэрэзы | Анны, Андрэя |
| 16 | 3 | С | Фларэнтыны, Гаўла | Дзяніса, Івана |
| 17 | 4 | Н | Марыты, Віктара | Веранікі, Ерафея |
| 18 | 5 | П | Юльяна, Лукаша | Аляксея, Пятра |
| 19 | 6 | А | Пятра, Земавіта | Фамы, Макара |
| 20 | 7 | С | Яна, Ірэна | Пелагеі, Сяргея |
| 21 | 8 | Ч | Уршулі, Гілярыя | Таісы, Трыфана |
| 22 | 9 | П | Піліпа, Марка | Андроніка, Якава |
| 23 | 10 | С | Марлены, Севярына | Васіяна, Тэафіля |
| 24 | 11 | Н | Марціна, Рафала | Зінаіды, Піліпа |
| 25 | 12 | П | Дар ´і, Вільгельміна | Кузьмы, Марціна |
| 26 | 13 | А | Люцыяна, Эверыста | Веньяміна, Карпа |
| 27 | 14 | С | Івоны, Сабіны | Параскі, Мікалая |
| 28 | 15 | Ч | Шымана, Тадэвуша | Лук ´яна, Якіма |
| 29 | 16 | П | Нарцыза, Яцка | Лонгіна, Абрагама |
| 30 | 17 | С | Зенобіі, Пшэмыслава | Лонгіна, Абрагама |
| 31 | 18 | Н | Урбана, Сатурніна | Іосіфа, Лукі |



## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў КАСТРЫЧНІКУ

1. Пачуццёвы, уражлівы — прагне быць самастойным.
2. Пануе над іншым і перамагае сваіх ворагаў.
3. Не пануе над сваёй прагнасцю.
4. Назіральны, гарманічны — праяўляе такт і дыпламатыю.
5. Трапна акрэслівае характар людзей і ўмее з імі судзейнічаць.
6. Таварыскі, вясёлы — сыходзіцца усім з дарогі.
7. Уражлівы, незалежны, добры назіральнік.
8. Любіць гульні, забавы — не любіць лісліўцаў.
9. Марыць пра далёкія падарожжы.
10. Мірна настроены, дасціпны — знаток мастацтва.
11. Далікатны, ветлівы — найлепш адчувае сябе ў сямейным ачазе.
12. Уладны, упэўнены ў сваіх паступках — прыхільнік усяго новага.
13. Чакае яго ў жыцці дапамога верных сяброў.
14. Адкрыты, незалежны, актыўны — можа размінуцца са сваім прызначэннем.
15. Імкнецца да дасканаласці і выдзяляецца сваімі здольнасцямі.
16. Славалюбівы, самастойны — бестаронні суддзя.
17. Трэба выпрацаваць сілу волі і адказнасць.
18. Ураўнаважаны ў сваіх паступках.
19. Быстры, тонкі, дасканала арыентуецца ў тым, што вакол яго.
20. Ахвотна дапамагае ўсім, хто патрабуе дапамогі.
21. Пераймаецца лёсам сваіх блізкіх.
22. Адароны фантазіяй і праяўляе зацікаўленне літаратурай.
23. Скрыты і любіць выдзяляцца сярод іншых.
24. Імкнецца да магутных спраў.
25. Пранізлівы, настойлівы — прагне кіраваць іншымі.
26. Сур ´ёзны і глыбокі, мае вялікі ўплыў на сваё асяроддзе.
27. Праяўляе дыпламатычныя і артыстычныя здольнасці.
28. Цікавіцца ўсім незвычайным і таямнічым.
29. Незалежны, настойлівы, горды.
30. Здабывае кар ´еру толькі сваімі ўласнымі сіламі.
31. Можа дасягнуць выдатных поспехаў у жыцці.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Хто сее азіміну на Лукі — той не будзе мець ні хлеба, ні мукі. Калі 8 кастрычніка пойдзе першы снег — зіма ўсталюецца ў дваццатых чыслах лістапада.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**СКАРПІЁН, 24 кастрычніка — 22 лістапада.** Мужчына з-пад гэтага знаку гарачы і неўраўнаважны. Патрабуе абсалютнай вернасці і аддання ад сваіх блізкіх, але сам не заўсёды ім верны. На шляху да

шчасця чакае яго нямала цяжкасцяў і несамавітыя прыгоды. Умее навязваць прыязныя адносіны з слаўнымі людзьмі. Удалае партнёрства з людзьмі з-пад знаку Рака, Стральца і Вадалея, горшае — з-пад знаку Льва.

Жанчына, якая нарадзілася пад зоркай Скарпіёна, раўнівая, хоць не заўсёды мае падставы да рэўнасці. У яе вельмі высокае адчуванне ўласнай годнасці, і гэта вядзе яе да канфліктаў з асяроддзем блізкіх людзей як у сям 'і, так і на месцы працы. Намагаецца дабіцца нейкага значнага поспеху, які паможа ёй паверыць ва ўласныя сілы. Яна вельмі гаспадарная і дзелавітая, мае востры інтэлект і арганізацыйныя здольнасці. Шчаслівы дзень — аўторак, месяц — май, колер — чырвоны, каштоўны камень — тапаз, кветка — бэз.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# ЛІСТАПАД

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 19 | П | Дзень памёршых. Андрэя | Клеапатры, Івана |
| 2 | 20 | А | Багдана, Бажыдара | Арцёма, Герасіма |
| 3 | 21 | С | Сільвіі, Губерта | Іларыёна, Філафея |
| 4 | 22 | Ч | Кароля, Альгерда | Аверкія, Сімяона |
| 5 | 23 | П | Эльжбеты, Славаміра | Якава, Ігната |
| 6 | 24 | С | Фелікса, Леанарда | Апанаса, Арсеня |
| 7 | 25 | Н | Антона, Мельхіёра | Кірыла, Лазара |
| 8 | 26 | П | Севярына, Гардыяна | Дзімітрыя, Феафіла |
| 9 | 27 | А | Урсына, Тодара | Капіталіны, Нестара |
| 10 | 28 | С | Андрэя, Любаміра | Неанілы, Сцяпана |
| 11 | 29 | Ч | Марціна, Бартламея | Анастассі, Анны |
| 12 | 30 | П | Рэнаты, Вітальда | Зіновія, Маркіяна |
| 13 | 31 | С | Мікалая, Станіслава | Нікадзіма, Спірыдона |
| 14 | 1 | Н | Эміля, Ваўжынца | Кузьмы і Дзям 'яна |
| 15 | 2 | П | Альберта, Леапольда | Афонія, Маркіяна |
| 16 | 3 | А | Гертруды, Эдмунда | Георгія, Іосіфа |
| 17 | 4 | С | Саламеі, Рыгора | Ніканора, Сымона |
| 18 | 5 | Ч | Анелі, Рамана | Галакціёна, Рыгора |
| 19 | 6 | П | Эльжбеты, Севярына | Аляксандры, Клаўдзі |
| 20 | 7 | С | Анатоля, Фелікса | Кірылы, Фядота |
| 21 | 8 | Н | Януша, Канрада | Міхаіла Архангела |
| 22 | 9 | П | Цэцыліі, Марка | Анісіфара, Аляксандра |
| 23 | 10 | А | Адэлі, Клеменса | Алімпа, Радзівона |
| 24 | 11 | С | Эмы, Флоры | Сцепаніды, Віктара |
| 25 | 12 | Ч | Кацярыны, Эразма | Івана, Ніла |
| 26 | 13 | П | Дэльфіны, Сільвестра | Іаана Залатавуснага |
| 27 | 14 | С | Валяр 'яна, Віргілія | Піліпа, Рыгора |
| 28 | 15 | Н | Яслава, Здзіслава | Гурыя, Дзімітра |
| 29 | 16 | П | Блажэя, Сатурніна | Мацвея, Сяргея |
| 30 | 17 | А | Юстыны, Андрэя | Нікана, Рыгора |

## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў ЛІСТАПАДЗЕ

1. Скрыты, разумны, захоўвае тайны блізкіх.
2. Востра асуджае іншых.
3. Рашучы, гаваркі — прыхільнік тэхнічнага прагрэсу.
4. Прадбачлівы, цярплівы, вынаходлівы — ідзе ў жыцці ўласнымі сцежкамі.
5. Чуйна сцеражэ свае інтарэсы.
6. Больш кіруецца сэрцам, чым галавой.
7. Пранізлівы, скептычны, настойлівы — не ўмее захаваць сакрэты.
8. Патраціць перамагчы свае недахопы.
9. Яго сімпатыі і антыпатыі вельмі моцныя.
10. Прагны ўлады і не любіць крытыкі.
11. Тонкі, упарты. Мае незвычайныя здольнасці.
12. Уражлівы на пахвалы і вымовы.
13. Асцярожны, дыпламатычны — патрапіць быць загадкавым.
14. Вынаходлівы — умее знайсці выйсце са складанага становішча.
15. Настойлівы, імкнецца да пастаўленай сабой мэты, не любіць парад іншых.
16. Энергічны, старанны, шчыры — заўсёды чымсьці заняты.
17. Уражлівы на асобы адменнага полу. Працалюбівы.
18. Рашучы, скрыты — ненавідзіць слабасці. Супрацоўніцтва з ім цяжкае.
19. З 'яўляецца аўтарытэтам для многіх, умее пераконваць. Актыўны ў жыцці.
20. Любіць адкрываць чужыя тайны. Праяўляе арганізацыйныя здольнасці.
21. Знішчае існуючыя погляды. З 'яўляецца цудоўным канструктарам. Старанны і руплівы.
22. Спрытны, праніклівы — цікавіцца ваеннай тэхнікай. Рашучы, энергічны.
23. Уражлівы, тонкі, кемлівы. Ніхто яго не правядзе.
24. Прадпрыймальны, практычны. Трэба пазбягаць сварак.
25. Не можа знесці несправядлівасці. Патрэбны сталы кантакт са светам.
26. Актыўны, неспакойны, любіць свабоду і незалежнасць.
27. Вычувае што добрае, а што дрэннае. Адкрыты характар.
28. Бярэ на сябе многа абавязкаў. Любіць падарожжы.
29. Імкнецца ўсё спазнаць. Хутка наладжвае кантакты з людзьмі. Згодна супрацоўнічае з імі.
30. Непаседлівы, верыць ў свае сілы. Уражлівы і далікатны.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Чыстыя лістападаўскія дажджы — лета будзе мокрае.

Лістападаўскія туманы — прадвеснікі зімовых адліг і позняй вясны.



Калі на дзень Міхаіла ўпаў іней — зіма будзе снежная.

Позна ўвосень з 'явіліся камары — зіма прадбачыцца мяккая.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**СТРАЛЕЦ**, 23 лістапада — 23 снежня. Мужчына з-пад гэтай зоркі яшчэ больш імпульсіўны, чым жанчына, нястрыманы ў каханні, любіць свабоду і незалежнасць. Добра сужываецца з людзьмі з-пад знаку Рыбы і Дзевы.

Жанчына, народжаная пад знакам Стральца, вельмі дзелавітая асоба, поўная тэмпераменту і фантазіі. З натуры мае ў сабе трохі ўпартасці і самаволі, аднак, нягледзячы на гэта, з 'яўляецца добрай партнёркай і супрацоўніцай. Яе ўсе любяць, хоць часам адкрыта выказвае свае думкі аб асобных людзях і здарэннях.

Шчаслівы дзень — чацвер, месяц — чэрвень, колер — залаты, каштоўны камень — біруза, кветка — мак.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:

# СНЕЖАНЬ

| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | |
|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | 18 | С | Наталлі, Элігіуша | Платона, Рамана |
| 2 | 19 | Ч | Бальбіны, Паўліны | Аўдзея, Варлаама |
| 3 | 20 | П | Францішка, Ксаверыя | Анатоля, Рыгора |
| 4 | 21 | С | Барбары, Крысціяна | Увядзенне ў храм ПР. Баг. |
| 5 | 22 | Н | Сабы, Крыспіна | Архіпа, Валяр ´яна |
| 6 | 23 | П | Мікалая, Ярэмы | Аляксандра Неўскага |
| 7 | 24 | А | Амброжыя, Марціна | Аўгусты, Кацярыны |
| 8 | 25 | С | Марыі, Светаза | Клімента, Пятра |
| 9 | 26 | Ч | Лекадзіі, Веслава | Інакенція, Якуба |
| 10 | 27 | П | Юліі, Данелі | Паладзія, Рамана |
| 11 | 28 | С | Дамаза, Вальдэмара | Васіля, Сцяпана |
| 12 | 29 | Н | Дагмары, Аляксандра | Нектарыя, Парамона |
| 13 | 30 | П | Луцыі, Атыліі | Андрэя Першазванага |
| 14 | 1 | А | Альфрэда, Ізідара | Навума, Філарэта |
| 15 | 2 | С | Ніны, Цэліны | Авакума, Андрэя |
| 16 | 3 | Ч | Альбіны, Аліцыі | Сафоніі, Івана |
| 17 | 4 | П | Алімпіі, Лазара | Варвары, Юльяны |
| 18 | 5 | С | Багуслава, Грыцыяна | Захара, Савы |
| 19 | 6 | Н | Габрыелі, Дарыуша | Мікалая Цудатворнага |
| 20 | 7 | П | Багумілы, Даменіка | Антона, Паўла |
| 21 | 8 | А | Яна, Тамаша | Кесара, Патапа |
| 22 | 9 | С | Ганараты, Зенона | Анны, Сцяпана |
| 23 | 10 | Ч | Славаміра, Вікторыі | Ангеліны, Мілы |
| 24 | 11 | П | Адама, Евы | Данілы, Нікана |
| 25 | 12 | С | Каляды (Божае Нарадж.) | Аляксандра, Спірыдона |
| 26 | 13 | Н | Каляды. Шчапана | Яўгенія, Аўксенція |
| 27 | 14 | П | Яна, Максіма | Апалона, Калініка |
| 28 | 15 | А | Тэафілі, Цэзара | Паўла, Сцяпана |
| 29 | 16 | С | Давіда, Тамаша | Марына, Феафоніі |
| 30 | 17 | Ч | Ірміны, Яўгена | Антона, Данілы |
| 31 | 18 | П | Меланіі, Сільвестра | Зоі, Севасцьяна |







## ХТО НАРАДЗІЎСЯ Ў СНЕЖНІ

1. Сябар справядлівасці і мірнага жыцця. Любіць парадак і чыстату.
2. Славалюбівы, быстры, практычны — імкнецца заняць добрую пасаду.
3. Мае мноства сяброў і прагне кіраваць імі.
4. Адважны, імпульсіўны, незалежны. Праяўляе ліберальныя погляды.
5. Самыя вялікія вартасці ў жыцці — вольнасць і незалежнасць. Жыццё яго актыўнае і напоўненае рызыкай.
6. Любіць спорт. Жыве доўга і мае здаровы арганізм. З любоўю настаўлены да асяроддзя.
7. Вясёлы, дасціпны, хутка кантактуецца з асяроддзем.
8. Прадпрыймальны, чуллівы, аптымістычна настроены.
9. Адкрыты, высакародны, любіць свабоду, лад, парадак і гармонію.
10. Эксцэнтрычны, неспакойны, валодае высокай інтуіцыяй, якая расце з гадамі.
11. Мае складаную натуру і праяўляе артыстычныя зацікаўленні.
12. Таленавіты, патрыёт — прыязна адносіцца да іншых.
13. Розум яго востры, сатырычны, умее панаваць над сабой.
14. Эксцэнтрычны, самастойны — прагне здабыць папулярнасць.
15. Даверлівы, старанна, часта ўлюбляецца.
16. Імпульсіўны, любіць змены, можа быць сам сабе ворагам.
17. Яго характар моцны, уладны і дазваляе пераадолець жыццёвыя абставіны.
18. Спрытны, уражлівы — не любіць фальшывых абставін.
19. Вынаходлівы, усебаковы. Праяўляе талент ва ўсякіх галінах жыцця.
20. Настойлівы, справядлівы — любяць яго сябры і начальнікі.
21. Спрытны арганізатар. Абараняе свае ідэалы.
22. Прадпрыймальны, пранікальны — можа разлічваць толькі на свае сілы.
23. Зручны, разважлівы — патрапіць прыстасавацца да жыццёвых абставін.
24. Патрапіць стрымаць абяцанні, аднак не можа дасягнуць усяго, што задумаў.
25. Ашчадны, карысталюбівы — мае дыпламатычныя здольнасці.
26. Мае артыстычныя здольнасці і любіць кампанію адменнага полу.
27. Тонкі, справядлівы, разважлівы. Доўга памятае сваю крыўду.
28. Дасціпны, тонкі, таленавіты. Лёгка і складна выражае свае думкі.
29. Рашучы, вынаходлівы — мае моцны характар. Часта заглыбляецца ў сваіх думках.
30. Сур ´ёзны, адароны вялікімі магчымасцямі развіцця. Спакойны, церпялівы.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

У снежні мароз і снег вышэй хаты — год будзе багаты.

Калі 1 снежня пагодна — пагодная і ранняя будзе вясна; які дзень 2 снежня — такое надвор ´е чакаецца ў сенакос; якое 3 снежня — такім надвор ´е будзе ў жніво.

## ПАД ЯКОЙ ЗОРКАЙ

**КАЗЯРОГ, 23 снежня — 20 студзеня.** Мужчына пераважна дабіваецца таго, да чаго імкнуўся, хоць не заўсёды адразу. Параўнаўча мала робіць жыццёвых памылак. Добра сужываецца з людзьмі з-пад знаку Дзевы і Рака, горш — з-пад знаку Вагі і Барана.

Жанчына, народжаная пад знакам Казярога, сур ´ёзная, прадбачлівая, гаспадарная і вытрыманая. Нярэдка скупая. Нічога не забывае і нічога не даруе. Высока цэніць грошы. Умее быць вострай на язык, асуджае востра і бязжаласна.

Гэта асоба эксцэнтрычная з павышаным пачуццём уласнай годнасці. Шчаслівы дзень — субота, месяц — ліпень, колер — зялёны, каштоўны камень — гранат, кветка — стакротка, маргарытка.

ДЛЯ ЗАПІСАЎ:




*Калектыў з Дашой. Фота Я. Целушэцкага*



*Калектыў «Світанак» г. Вілейка. Беларусь. Фота Я. Целушэцкага.*

Тадэвуш Канвіцкі

## БЕЛАРУСЬ, БЕЛАРУСЬ...

... Чым я абавязаны Беларусі? Абавязаны ёй тым, што дагэтуль не ўмею добра пісаць па-польску, што назаўжды прывабіла маё вуха, што сваёю мелодыкаю заглушыла тую пястоўскую, сандомірскую ці келецкую інтанацыю, якою я авалодваю, авалодваю і ніколі ўжо не авалодаю. Абавязаны ёй тою настальгіяй, якая хапае мяне за рэшткі чупрыны сярод белага дня ў Варшаве, у Парыжы або ў Манхэтане. Абавязаны ёй тым вярэдлівым неспакоем, які гоніць і гоніць мяне кудысьці, куды я баюся трапіць, але нарэшце мушу трапіць туды.

Беларусь, Беларусь. Чаму ты завешся Беларуссю, калі няма ў цябе белізны, калі белізна твая — гэта рудыя восеньскія пожні, калі белізна твая — гэта гарачы пот спрацаваных людзей. Ты павінна звацца Добраруссю, павінна звацца Добраю Зямлёю Добрых Людзей.

Мае вочы напоўненыя Беларуссю. Я гляджу на Правансаль і бачу пагоркі каля Ашмянаў. Я гляджу на Дунай і бачу Нёман, бачу заімглёны ціхім смуткам другі бераг Нёмана. Гляджу на аўтастраду ў Лос-Анжэлесе і бачу санную дарогу паблізу Гудагая, чую шоргат зледзянелых снегавых крыгаў, чую едкі пах конскага поту, ўяўляю чырвонае вакенца самотнае хаты пад вялізнаю гурбаю снега, адзінага і натуральнага багацця гэтае зямлі.

Як жа я размаўляў у маленстве? Ці «па-простаму», ці «пагарадскому». Якіх слоў, казак, песень чуў я болей — беларускіх, ці польскіх. Колькі разоў і калі перасягаў я тую невідочную мяжу паміж беларускасцю і польскасцю?

Не ўрэзалася ты ў людскую памяць, Беларусь. Не адбірала ты ў іншых іхняе вольнасці, не рабавала чужое зямлі, не губіла людзей з-за спрэчак з суседзямі на межах. Ты мела павагу да чужых і гасцінны каравай, аддавала рабаўнікам апошнюю карову і апошні акраец хлеба са знакам крыжа, аддавала гаротным кроваброчнае сэрца і сваё беднае, бязрадаснае жыццё.

У канцы вайны жыццё маё было выратавана ў беларускай хаце. Простыя людзі, не маладыя і не старыя, звычайныя сяляне, учарнелыя ад цяжкае працы, відаць анальфабэты, калі зважаць на пісьменнасць, і прафесары, калі зважаць на веданне псіхалогіі і чалавечых лёсаў, гэтыя простыя людзі ўратавалі мяне, васемнаццацігодку, жыццё, падаравалі на благое і добрае ўсе тыя гады, якія я з высілкам адграбаваў за сябе. Яны ўсцераглі мяне, можа, ад смерці, а можа, ад шматгадовага жывёльнага існавання, ад такога лёсу, пра які з жахам думаў у бяссонныя ночы...

Калі я прыгадаю беларускае слова, калі падзьме вецер з паўночнага ўсходу, калі ўбачу палатняную, сціпла вышытую кашулю, калі пачую крык болю без скаргі, заўжды мацней заб ´ецца маё сэрца, заўжды падкрадзецца аднекуль ціхі смутак, заўжды падплыве раптоўны холад невыразных дакораў сумлення, адчуванне вінаватасці і сараматы.

Беларусь, Беларусь, шэразялёныя з агромністым небам над бяляваю галавою, ты надзвычай добрая, надзвычай лагодная, надзвычай высакародная, як на наш час.

Пераклаў з польскай А. ТРАЯНОЎСКІ.



# Яніна ШОСТАК

Я —
часцінка народа
без граніцы
абвеянага імглой,
Я —
часцінка народа
праставатага і славутага,
ціхага і магутнага,
беднага і багатага.
Я —
часцінка народа
з васільком на мяжы.
Я —
часцінка народа...
Будзем
радасныя,
калі ўзыдзе сонца,
будзем
плакаць
слязьмі шчасця,
будзем акунацца ў рэках мёду,
забудзем страх,
узляцім уверх,
будзем
царстваваць
і зноў звалімся
на грунт.



*Калектыў «Маланка» з Бельска Падляшскага.*
*Фота Я. Целушэцкага*



*Калектыў з Гарадка.* *Фота Я. Целушэцкага*



# ЛЕГЕНДЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

## ЗАБЛУДАЎ

Расказваюць старыя людзі, што на тым месцы, дзе цяпер Заблудаў, былі калісьці вялікія лясы. У тыя дрымучыя лясы паехаў раз сабе на паляванне якісьці магнат ці князь і заблудзіўся. Блудзіў ён, блудзіў і ніяк не мог нікуды выехаць. Нарэшце, змучыўшыся, захацеў есці, сеў на дубовы пень і пачаў абедаць.

На тым месцы якраз і заснаваны цяперашні Заблудаў... Дзесь, бадай, і ў летапісе сказана, што Заблудаў стаіць над рэчкаю Мелетына, пабудаваны на дубовым пні. Яшчэ нядаўна, за нашай памяццю, быў тут замак, у якім жыў тады князь Радзівіл...

## КАМЕНЬ

... Тутэйшыя людзі лічаць; вёска іх завецца так не таму, што вакол яе некалі «раслі» камяні. Імя сваё вёска атрымала ад валуна-волата (яго называюць «возам»), паблізу ад якога і пачала будавацца...

Здарылася гэта ў даўніну, пра якую ўжо і дзяды не памятаюць. Вёз неяк селянін воз сена з пушчы. Конік быў нягеглы, слабы, а падымаючыся на гару, і зусім змогся. Колькі ні паганяў яго гаспадар — ні з месца. Пачаў пугай хвастаць ды яшчэ праклінаць-прыгаварываць:

— А каб ты, воўчы недаедак, у камень ператварыўся.

Паднапружыўся конік, усцягнуў-такі воз на гару і зноў прыстаў. Мужык хвошча яго пугай, паганяе, а конік стаіць, унурыўшы галаву, і нічога ўжо не чуе, не адчувае. Азірнуўся мужык паглядзець, як там воз, ці трымаецца, і аслупянеў ад здзіўлення і страху: няма воза, а замест яго ляжыць шэры камень з воз. Кінуўся мужык каня распрэгчы, толькі за хамут узяўся, ажно позна — ляжыць паміж аглабель цёмна-шэры, такі самы, як у ягонага коніка масці, камень...

## КЛЕПАЧЫ

Назва вёскі Клепачы паходзіць ад таго, што жыхары гэтай мясцовасці вельмі рана пачыналі кляпаць косы ў час касавіцы, а стук малатка аб касу будзіў усіх навакольных. Вось іх і празвалі клепачамі і вёсцы далі такую назву.

## СКУПАВА

Аднойчы прыйшоў да нас дзед Раманчук. Гэта быў стары чалавек, якому, як казалі людзі, было сто гадоў. Мы, маладыя хлапчукі, абступілі дзеда і пачалі пытацца:

— Дзедку, колькі вам гадоў? Сядайце і раскажыце, як то даўней было? Чаму наша сяло — Скупава?

Дзедко паставіў сваю кульбачку ў куточку, сеў на лаўку каля стала і загаварыў:

— Дзеткі мае, у мяне за плячыма больш за дзевяноста гадоў. Як

сон прайшло жыццё маё. А мне здаецца, што я толькі ўчора нарадзіўся на свет... Цяжкае маё жыццё, але жыць хочацца. Просіце расказаць вам пра Скупава. Яго так называюць не таму, што тут жывуць скупыя людзі. Даўным-даўно тут быў двор. Стаяў вон на ўзгорку па скоснай дарозе, што ідзе на Сухадолы: паміж Смольным і Бондаравым Кутом. Пад узгоркам была крыніца, цякла рэчачка, быў там рыбны стаў. Двор згарэў. Тады землю распрадалі людзям. Вось, можа, таму наша сяло і назвалі Скупава, бо зямлю скуплялі людзі з розных старон... Спярша Скупава было адно, а пасля пажару раздзялілася на Старое і Новае Скупава.

Калі тут лес быў вырублены пад поле, таго ніхто не памятае, то было даўным-даўно. Толькі чуў я ад старых людзей, што руская царыца Кацярына падарыла Скупава свайму палкаводцу Сувораву. Ён быў генерал над усімі генераламі і называўся генералісімус.

## ТРЫВЕЖА

Дзе цяпер Важанка і Трывежа, даўным-даўно жыў пан. Ён там пабудаваўся і засадзіў гектар саду. Вакол яго замка раслі высокія і вельмі прыгожыя дрэвы,звалі іх сокаламі. Меў пад сваім уладаннем многа гектараў зямлі. Полем яго ўладаў падпанак... Пан, пад якога ўладаннем былі гэтыя землі, не хадзіў па іх, а толькі высылаў свайго падпанка Аніську, а сам з паней шпацыраваў па сваім парку ды разпораз узлазіў на вежу, якая стаяла каля яго двара, і глядзеў на свае доўгія палі, як працуюць яго сяляне. Апрача таго на гары ў полі стаяла яшчэ тры вежы, на якія ўзлазіў падпанак Аніська...

Надышоў урэшце час, і пан памёр. Астаўся толькі Аніська з дочкамі. Пачаў ён зямлю прадаваць. Народ на гэтае месца з 'язджаўся з усіх бакоў. І на гэтай гары, дзе стаялі тры вежы, вырасла вёсачка Трывежа, а ўбок, дзе стаяў панскі замак і дзе стаяла адна вежа, разбудавалася вёсачка Важанка.

## ТЫНЕВІЧЫ

А было гэта так. З Нарвы, з праваслаўнага манастыра, шляхам на Бельск і Драгічын ішлі трое манахаў. Спыніліся на ўзгорку сярод лесу, расклалі агонь. І так павялося з таго часу, што потым заўсёды спыняліся на тым самым месцы. Пасля гэтыя манахі пабудавалі сабе тын — загарадзь з тоўстых бярвенняў,каб абараняла іх ад драпежных звяроў.

Памалу тын павялічваўся, побач пасяляліся мужыкі, пачалі карчаваць лес і займацца земляробствам.

У Нарве жыхароў недалёкага тыну пачалі называць тыневічамі... Адсюль і назва вёскі. Цяпер ёсць дзве вёскі Тыневічы: Вялікія і Малыя.

## ЯК ЗРАБІЛАСЯ БАЛОТА КАЛЯ КЛЁНІКАЎ

Здарылася гэта тады, калі яшчэ ў Клёніках жыў пан, за панскім прыгонам. Была ў гэтага пана дачка-прыгажуня, слаўная з прыгажосці на ўсю аколіцу. Каля панскае сялібы бегла невялічкая рэчка. Дачка-прыгажуня любіла вельмі сядзець на беразе гэтай рэчкі. Вада ў ёй



была чыстая, як люстэрка. Прыгажуня часта ўглядалася на сваё адлюстраванне ў вадзе і захаплялася сабою. Але вось аднойчы дачка-прыгажуня загінула. На другі дзень сяляне вылавілі яе цела з рэчкі. У панскай сям 'і вялікае няшчасце. Маці прыгажуні не магла даравацъ гэтай рэчцы, яна ў злосці закляла яе. Кінула ў ваду авечае руна, кажучы:

— Згінь, рэчка. Не будзе цябе столькі гадоў, колькі ёсць валасоў на авечым руне.

Так і сталася. Рэчка прапала. На яе месцы паявілася дрыгва і балота, паросшае лазой...

## ДЗЕ ЦЕНЬ СЯГАЕ

Некалі пры дарозе з Войшкаў у Зячкі стаяла старая жараластая ліпа. Хоць яе сарцавіна даўно абярнулася ў парахню, а вершаліна цалкам змуршэла і абвалілася, але знізу яна кожную вясну кучаравілася густою лістотай...

Біліся тут, кажуць, якіясьці войскі. Біліся не на жыццё, а на смерць. Бачыць адзін военачальнік, што войска яго пахіснулася і пабегла пад націскам ворага. Схапіў ён тады абкаваную жалезам скрыню з грашыма на заплату сваім салдатам і закапаў яе паблізу гэтага дрэва. Частка салдат гэтага военачальніка загінула ў гэтай бітве, і косці іх ляжаць побач з касцьмі іхніх непрыяцеляў на тых старых могілках, што каля ўрочышча Прыстань, пры самай рацэ Нарве. Другая частка разам са сваім военачальнікам трапіла ў палон і пайшла ў няволю.

Міналі гады, хадзілі і ездзілі сюдою людзі, і расла сабе ўвышыню ды ўшыркі ліпа на пагорку. Ніхто так і не даведаўся б пра закапаны тут скарб. Але ж той военачальнік, дажыўшы да глыбокай старасці ў чужыне, перад самай смерцю напісаў запавет. Згадаў у ім пра тую скрыню золата і дадаў, што закапаў яго ў тым месцы, куды дасягае цень ліпы.

Прагны дармавога багацця спадчынікі мігам прымчаліся сюды і пачалі шукаць таго скарбу. Была якраз раніца, і цень разгалістага дрэва дасягаў мо на паўвярсты болей. Кінуліся яны капаць. Валяць ямы ў рост чалавека, а там няма нічога. Тым часам сонейка паднялося і цень стаў іншае месца паказваць. Давай яны там ямы капаць. Не паспелі і да пояса выкапаць, як цень далей пабег. Капалі яны так, капалі раніцай, апоўдні і ўвечары, а цень вёў іх усё ў новае месца. Капалі яны тыдзень, капалі месяц, спрытна наваколле перарылі і аніяк не маглі натрапіць. І толькі тады, як са стомы не далі рады ўжо і ног валачыць, зразумелі, што скарбу не знойдуць, бо ў запавеце не было сказана, у якую пору года і дня той военачальнік скрыню з золатам закопваў. Нічога іншага не засталося тым спадчыннікам, як толькі адрачыся ад пошукаў.

Цяпер цень сваім абсягам не спакушае ўжо людзей шукаць той скарб. Ад старасці ліпа зусім засохла і звалілася. Нават добра невядома, дзе расла.

## ПРА КАМЕНЬ У ВАЛІЛАХ

Было гэта даўным-даўно, калі людзей тут яшчэ не было. Вакол цягнуліся непраходныя пушчы-лясы ды вілася сярод іх вось гэтая рэчачка. У балотнай твані сядзеў д ´ябал. Бачыце, калісьці нячысты толькі ў такіх месцах вадзіўся. Гэта цяпер адно стаў ён па гарадах шляцца. Сядзеў ён так ды з нуды корпаўся ў балоце, ажно бачыць: берагам рэчкі ідзе чалавек. Здалёку, відаць, небарака´ вандраваў: схуднелы ды абдзёрты ўвесь. Убачыў рэчку, прысеў на купіну, а свае зморапыя ногі ў ваду запусціў ды пабоўтвае імі, каб хутчэй стому з іх сагнаць. А д ´ябла ад злосці аж чорт носіць: «Бач ты, мауляў, мала таго, што па маім беразе валочыцца, то яшчэ і мяне сваім боўтаннем непакоіць уздумаў. Чаго добрага — возьме і назаўсёды жыць астанецца. Ну, тут-то я цябе і звяду са свету».

Выкалупаў нячысты з багны каменьчык, бы зярня бобу са струка, папляваў на яго, перакінуў разы са тры з адной сваёй калматай лапы ў другую, і тут уваччу маленькі камушок у аграмадны валун абярнуўся. Пачаў размахваць д ´ябал з усяе моцы, але ж як на тое ўзяўся і паслізнуўся ў топелі, і глыбока замест чалавека бухнуўся на скрай лугу. Убачыў вандроўнік, чым тут пахне — лахі пад пахі ды ходу з гэтых мясцін. А валун так і астаўся ляжаць тут. Ад таго, што чорт уваліў тут валун, і паявілася назва — Валілы.

**(легенды ўзяты з кніжкі «Бяздоннае багацце»)**



*Хор са Старога Ляўкова.* *Фота Я. Целушэцкага.*



*Квартэт з Варшавы.* *Фота Я. Целушэцкага.*

Віктар ШВЕД

## АГУЛЬКІ

Агулькі, агулькі,
Народныя песні,
Спявалі бабулькі
Іх з подыхам веснім.
Красуні-дзяўчаты
Цудоўна спявалі,
На лаўках ля хаты,
Бывала, сядалі,
І песні-вяснянкі
Ліліся па вёсках,
Да самага ранку
Плылі адгалоскі.
А дзе ж вы агулькі,
Дзе песні-вяснянкі?
Памёрлі бабулькі,
Старыя сялянкі,
Бабулькамі сталі
Пявуні-дзяўчаты,
І ўжо задрамалі
Ля печак у хатах.
Дзе ж моладзь вясковая
З голасам звонкім?
Яна песні ловіць
Сучасныя з плёнкі.
Не хоча фальклору,
Народнае песні,
Яе не паўторыць
Ужо на прадвесні.
І будзе такое —
Памруць нам бабулькі,
Ды возьмуць з сабою
Нат след па агульках.



# ТАМ, ДЗЕ ЖЫВЕ ВЕРА... ТАМ, ДЗЕ ЖЫВЕ ТРАДЫЦЫЯ

(Занатоўкі з Аўгустова)

Дзень гэты для жыхароў Аўгустова быў незвычайны. Дый і ўся Бельшчына даўнавата ўжо не перажывала такога рэдкага царкоўнага свята. Восьмага і дзевятага жніўня, у дзень памяці св. вялікамучаніка Панцелеймона, у лясным урочышчы «Баравіска» каля Аўгустова (Ягуштова) прайшлі ўрачыстыя багаслужбы, звязаныя з пасвяшчэннем новапабудаванай тут царквы.

«... Прыбыла новая зорка на зямлі , — гаварыў а. Мікалай Келбашэўскі з Кляшчэль у непаўторнай атмасферы царквы на «Баравісках», пасля вячэрняй службы ў суботу, — бо так, як у небе гараць тысячы зор, так на зямлі гэтымі зоркамі з ´яўляюцца храмы Божыя».

Калі гаварыў а. Мікалай на двары ўжо цямнела, поўны месяц узносіўся па-над лесам... Апошнія людзі падаваліся ў вёску на спачынак. Толькі настаяцель а. Яўгеній Хадакоўскі і спадар Ян Заброцкі, ягуштоўскі солтыс заставаліся ў царкве яшчэ доўга. Думалі яны пэўна пра заўтрашні дзень, успаміналі тыя дні і недаспаныя ночы, якія аддалі для храму на «Баравісках».

А яшчэ два гады таму назад, нічога, здаецца, асаблівага не адрознівала гэтага месца ад навакольнага лесу. Тыя ж самыя хвоі, мох і ягаднік, што і наўкруг. Звяртаў увагу толькі роў і вал, што абкружалі пэўную тэрыторыю дый пясчаны пагорак, паросшы зрэдку сухалюбівай травой. Многія збіральнікі грыбоў і ягадаў прыходзілі на «Баравіска», не падазраючы нават сапраўднай гісторыі таго месца. Іншыя адчувалі сябе тут даволі асабліва. Вось сведчанне адной з нежывучых ужо жыхарак Ягуштава, Анны Асташэвіч. Пасля паваротаў з «бежанства» Анна Асташэвіч аднаго разу выбралася ў лес па грыбы, заблукала яна ва ўрочышча «Баравіска». Ідучы ўвесь час з пахіленай галавой, тут стала яна ўражанай: чула яна, як служыцца Абедня. Нідзе побліз царквы ж не было, толькі лес кругом. Дакладна ў поўдзень спеў Абедні спыніўся. Падобнае чуў і мужчына, жыхар Ягуштова.

А ў добрай ціхай памяці ўсіх аўгустоўскіх «мяшчан» захаваўся водгалас мінуўшчыны, з якога і пачалося адраджэнне традыцыі.

Яшчэ ў 1-й палавіне 80-х гадоў нашага стагоддзя на «Баравіска» трапіў вядомы даследчык тапаграфіі і тапаніміі Бельшчыны інж. Барыслаў Рудкоўскі. Пачаў ён тут дакладны агляд тэрыторыі ўзвышша, акружанага ровам, акрэсліў яго паверхню на 0,73 га. Агледзеў нават тутэйшую расліннасць і мінеральныя формы. У дапамогу спадару Барыславу прыйшлі тыя ж дабрапамятлівыя жыхары. Выявілася, што амаль да 1-й сусветнай вайны на «Баравісках» знаходзіліся праваслаўныя могілкі. Раней жа тут была драўляная царква, якая ніколі не залежала ад уніяцкай царквы, з-за таго і была спалена (глядзі «Часопіс» нр. 2—3 / 1992). Спадар Барыслаў, слухаючы гэты расказ, добра ўсведамляў, што памятлівыя людзі адыходзяць і заўтра

можа ніхто не зможа сказаць праўды пра «Баравіска». Тут патрэбна было б матэрыяльнае сведоцтва, хаця б крыж.

Пасля роздумаў, спадар Барыслаў прыйшоў да вываду, што годным у шанаванні памяці супачылых у Госпадзе на «Баравісках» можа быць толькі капліца. Пасля кансультацыі з настаяцелем вырашае ён звярнуцца да Мітрапаліта Васілія з просьбай аб багаслаўленні на працу над такой жа капліцай. Уладыка адабрае ініцыятыву і багаслаўляе пасля адпаведнай адміністрацыйнай падрыхтоўкі яе ажыццявіць... Гэта быў 1985 год.

Некалькі гадоў пазней, улетку 1988 года, у час падрыхтоўкі да II Рэйду беларускіх вучняў, наша група (Эля Бэзюк, Вадзім Кавальскі і аўтар) сустрэла пад Аўгустовам на дарозе «Сцецы» спадара Барыслава Рудкоўскага ў суправаджэнні Андрэя Гаўрылюка. Спадар Барыслаў, як мага хутчэй звярнуў нашую дарогу на «Баравіска». Тут з захапленнем расказваў ён гісторыю таго месца. Выказаў тады думку, што на «Баравісках» ужо ў V ст. існавала паселішча... І гэта была мая першая сустрэча з гэтым месцам.

Недзе праз год «НІВА» надрукавала тэкст інж. Рудкоўскага з планам каплічкі на «Баравісках». Пісаў ён у тэксце, што «прыхаджане рыхтуюцца да пабудовы». Аднак жа, на пачатак яе здзяйснення трэба было пачакаць яшчэ да 1991 года.

І так, наспеў час пабудовы царквы. Падагрэты раней ініцыятывай інж. Рудкоўскага солтыс вёскі Ян Заброцкі прапануе выкарыстаць фінансавыя сродкі з гміны, прызначаныя на патрэбы вёскі для пабудовы царквы на «Баравісках». Вяскоўцы адабраюць прапанову свайго солтыса. Ствараецца камітэт пабудовы храма, старшынёй якога выбіраецца аднагалосна Ян Заброцкі. Размова «камітэта» з настаяцелем прыносяць канкрэтную візію храма. Новы праект дыямэтральна розніцца ад праекту капліцы інж. Рудкоўскага. Пасля збору адпаведнага матэрыялу, жыхары дружна і самастойна (не былі б гэта «ягуштувці») прыступаюць да пабудовы храма. Са «спячкі» абудзіліся тут нават зусім нецаркоўныя людзі, ахвяруючы дапамогу ў транспарце і іншых працах.

У студзені 1992 г. на галоўны купал храма быў узнесены і пасвячаны крыж... Першы крыж на гэтым месцы пасля звыш 50-ці гадоў. (Апошнія драўляныя магільнікавыя крыжы спаліла савецкае войска, якое разбілася тут абозам у 1939—1941 гг.). Яшчэ большы дзень перажылі могілкі на «Баравісках» 29 чэрвеня 1992 г., калі яшчэ ў голых сценах храма была адслужаная першая святая Літургія... першая Літургія пасля так працяглага перапынку. Як гэта радавала жывых, як на тое чакалі памёршыя... Жывых на зямлі чакала яшчэ праца і вялікі дзень пасвяшчэння храма.

Прыйшоў гэты дзень у жніўні, дзевятага дня таго месяца. Выбраны ён быў не прыпадкова, у той жа дзень успамінаецца памяць святога, да якога прыбягаюць з малітвамі хворыя і нядужыя — вял. муч. Панцелеймана. Яшчэ ні адзін храм на Беласточчыне не мае за патрона таго святога.



Нядзельнай раніцай па дарозе з Бельска ў Аўгустава ішлі пілігрымы на «Баравіска». З васьмі гадзін, пасвяшчэннем вады ў храме пачаліся ўрачыстыя багаслужэнні. Трэба тут згадаць пра адзін непрадбачаны выпадак, які крыху парушыў парадак падрыхтоўкі да пасвяшчэння храма. Некая рука апаганіла ваду ў калодзежы, дзе мела пасвяшчацца вада. З чаргі, у другой крыніцы, што знаходзілася непадалёк «Баравіскаў» не дазволіў яе ўласнік свяціць вады... Прыкра пра гэта пісаць, але так ужо ёсць — там дзе тварыцца дабро, зло вядзе сваё наступленне. Але хрысціянін мае супраць зла моцнае аружжа — прабачэнне правінаў.

Так што, звышэй згаданы прыпадак амаль не парушыў узнёслага характару рэлігійных урачыстасцей на «Баравісках». Пасля пасвяшчэння вады верныя і святары сабраліся ў храме, каб пры закрытых яшчэ «царскіх вратах» прысутнічаць пры пасвяшчэнні Св. Прастолу.

... Чытаюцца і спяваюцца малітвы, святары намазваюць св. Мірам і пакрываюць Св. Прастол; верныя глядзяць у воблікі святых на іканастасе — верныя захоплены яго прыгажосцю, як жа простай і як ўзнёслай. «Царскія враты», рэзбленыя настаўнікам пластычнага ліцэя ў Супраслі, выхадцам з Аўгустова... Рад дванаццаці найбольшых святаў, над імі ікона «Дзісіс» ды іконы Апосталаў і Святых Айцоў Царквы, усе пісаныя вядомым мастаком спад. Вішанком. Кананічнасці (правільнасці) для іканастаса прыдае храмавая ікона вял. муч. Панцелеймана, размешчаная ў першым радзе, па правай старане.

... Прастол пасвячаны, першы раз адчыняюцца «Царскія враты». Святары пасвяшчаюць сцены храма ўнутры, а пасля звонку. Перад зачыненым ходам у храм святар узносіць словы псальма: «Адчыніце враты вашыя князі... Няхай увойдзе Цар Славы». Мімаволі ў гэты момант перад зачыненымі дзвярамі мільгае думка — ці годныя: я, ён, мы такога неба на зямлі».— Хто ёсць той цар славы? — Гасподзь сільны, той ёсць Цар славы»,— уваход адчынены і сумненне ўраз адыходзіць; усе пакліканыя пераступаюць парог новага «неба на зямлі».

«Да пасвяшчэння гэты будынак храма быў толькі звычайным домам, цяпер ён Божый Дом»,— гаварыў у пропаведзі а. Іаан Сезонаў з Варшавы, які з паручэння Уладыкі Мітрапаліта ўзначальваў пасвяшчэнне храма. «Адчуваю я»,— гаварыў а. Іаан,— «што гэтае месца яшчэ праславіцца сваёю святасцю. Што будуць яшчэ ісці сюды паломніцтвы».

Літургія завяршаецца... У крэсным ходзе навокал храма удзельнічаюць усе тыя, што не змаглі памясціцца ў царкве. Пасля традыцыйнага «Многая Лета» мае месца малая ўрачыстасць, якой героямі стаюцца галоўныя асобы, звязаныя з узнікненнем храма на «Баравісках»: спадары Барыслаў Рудкоўскі ды Ян Заброцкі. Іерархі праваслаўнай царквы дацанілі працу гэтых людзей для дабра Царквы, прызначаючы ім Найвышэйшыя царкоўныя ўзнагароды — Ордэны Св. Раўнаапостальнай Марыі Магдаліны II і III ступені. Спадар Рудкоўскі атрымаў Ордэн II ступені за ўсю дакументацыйную працу, прысвечаную Праваслаўнай царкве на Беласточчыне, у гэтым

і прыхода ў Аўгустове. Яну Заброцкаму, солтысу Аўгустова, Ордэн III ступені дадзены за ахвярную працу пры арганізацыі пабудовы храма на «Баравісках». Без яго, як і без актыўнасці а. Яўгенія Хадакоўскага так хуткае завяршэнне прац не было б магчымае.

Так скончыліся нядзельныя царкоўныя ўрачыстасці на «Баравісках». Пачалося ціхае існаванне лясной царкоўкі. Ужо без грамады людзей, праз увесь тыдзень пасля пасвяшчэння, штодзённа служыліся тут Святыя Літургіі. І штодзённа было тут некалькі дзесятак чалавек, не толькі з Ягуштова, але і з далейшых вёсак. Асабліва многа людзей было ў пятніцу, калі свяцілі хлеб. А ў суботу адбылося тут першае Хрышчэнне — адна сям 'я пажадала хрысціць сваё некалькігадовае дзіця менавіта тут.

... Дзіця як бы чакала гэтай хвіліны і гэтага месяца.

Тут дзіця тое пачало сваё хрысціянскае жыццё. Можа гэта знак таго, што і іншым прыдзецца тут пачынаць сваё сапраўднае жыццё. Будучыня пакажа.

**Мікола САХАРЭВІЧ**

# УРАЧЫСТАСЦЬ ПЕРАНЯСЕННЯ РЭЛІКВІІ (МОШЧАЎ) СВ. МУЧАНІКА ДЗЕЦЯТКІ ГАЎРЫІЛА

«Сёння мы яшчэ не ўстане ацаніць тое, што здарылася» — сказаў архіепіскап Сава, звяртаючыся да прыбыўшых у саборы Святой Тройцы ў Беластоку да Дзяржаўных прадстаўнікоў Польшчы і Беларусі, касцёла рыма-каталіцкага, прадстаўнікоў Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці, духавенства і выхаванцаў духоўных школ, а таксама стотысячнага натоўпу вернікаў, сабраўшыхся вакол царквы і напаўняючых суседнія вуліцы і скверы. Сапраўды, гэтыя словы заключаюць цэласць намаганняў, звязаных з падрыхтоўкай да гэтага здарэння, як і таго ўчынку, што ёсць прысутнасць Мучаніка ў нашай Беластоцка-Гданскай Епархіі, у нашай Праваслаўнай Царкве ў Польшчы.

Мучанік з 'яўляецца зброяй Бога ў гэтым свеце. З 'яўляецца мячом, перасякаючым грамадства на веруючых і няверуючых. Перасякаючым у людзкіх сумленнях веру ад усумнення. Ставіць людзей перад непасрэдным выбарам, ці з 'яўляешся ты за, ці супроць Бога. Ёсць яшчэ адна таямніца Бога, яго дзеяння ў гэтым свеце.

Мучанікі царквы з 'яўляюцца філярамі, ўтрымоўваючымі канструкцыю бачымай і нябачымай царквы, цэркваў як будынкаў і царквы як Божай грамадскасці. Мучанікі як непасрэдныя паслядоўнікі Хрыста ў рэалізацыі міласці ў жыцці ад першых дзён гісторыі царквы былі вывышанныя і стаўленныя за ўзор для ўсяе царквы. Яшчэ перад іх бачымым выхваленнем праз Бога, святыя сабіраліся на іх магілах, чакаючы цуду — хвалы — знаку ад Бога. Гэты знак атрымалі мы ў ласцы Божай, якая спачыла на целах мучанікаў і святых, будучы адначасова Боскай праявай клапатлівасці аб людзях, якія па натуры сваёй з 'яўляюцца заганнымі і слабымі. Так як апостал Фама дамагаўся, каб даткнуцца да ранаў уваскросшага Хрыста, каб паверыць, так і некаторыя з нас, зломаныя грахоўнасцю гэтага свету, патрабуюць успамогі і довады (доказу). Зразумела, стаўляе гэта нашую веру пад вялікім знакам пытання. Але мей мы на ўвазе словы Ісуса «хачу, каб ты верыў». З 'яўляецца гэта, безумоўна, сурагатам (заменкам) знакам і прадвесцем таго, што будзе ў будучыні, неабмяжоўваючы суверэнітэт нашай веры, але з 'яўляецца гэта адзіны стымул (штуршок) да яе крышталізацыі. Гробы (магілы) мучанікаў, спалучаючы праз ласку Небо і Зямлю, сталіся алтарамі, на якіх адбываліся ўзнясенні хвалы — Эўхарыстыкі, якая ўсіх удзельнікаў рабіла жыхарамі прабажэственнага свету, а кроў мучанікаў — паводле слоў Тэртуліана — сталася зернем хрысціян.

Па гэтае хрысціянскае зерня адпраўляецца працэсія са скромнай Кузніцкай царквы, якая сёння перажывае найбольшае свята ў сваёй гісторыі. Крыж, харугвы са святымі іконамі, дзеці ў белых касцюмчыках, святары і веруючыя — усе адчуваюць важнасць падзеі і з малітва-

мі на вуснах і спевам трапароў, з павагай, страхам і адначасова з гордасцю ідуць галоўнымі вуліцамі паселішча. Пад гук званоў царквы і касцёла ўжо прыхіляе да сябе большую колькасць вернікаў, каля касцёла дае месца пробашч мясцовай рыма-каталіцкай парафіі, каб спыніцца на мяжы дзяржавы ў чаканні на праважаючую з Гародні працэсію з мошчамі Св. Мучаніка дзецяткі Гаўрыіла. На граніцы натоўп людзей, якія прыбылі з розных канцоў Польшчы. Ёсць епіскапы нашай царквы, з Італіі епіскап Клаўдзій разам са святарамі. Ёсць свяшчэннікі з усёй Польшчы, нават з ЗША.

Працягваецца пашпартная і мытніцкая адправа пілігрымаў, якія праважаюць мошчы з Гародні аж да Беластока. Ёсць 1500 чалавек з Беларусі, ёсць епіскапы, святары з Гродзенска-Валкавыскай епархіі, манашкі з рэстаўраванага манастыра ў Гародні, ёсць навучэнцы духоўнай семінарыі. Сёння пасля ўрачыстасці свята Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі. Упершыню пасля вайны адбылася ў Гародні працэсія праз горад, па вуліцам, якімі ішлі калісці працэсіі з цяперашняй Польшчы — з Ячна, Ружанага Стоку, Сідэркі, Новага Двара, Саколкі і іншых нашых прыходаў, ішлі да Гародні, напрыклад, да Каложскай царквы. Многія з прысутных памятаюць гэтыя падзеі.

Штораз іншы аўтобус праціскаецца скрод шпалеры соцень свяшчэннікаў і спраўна дзейнічаючай парадкавай службы Брацтва праваслаўнай моладзі, на якія плечы спала адказнасць за лад і годнае прыняцце нашага земляка, іх нябеснага заступніка; што не руш перарываючы думкі, якія паверхняцца пры такой аказіі.

## НАРЫС АБ ЖЫЦЦІ СВ. МУЧАНІКА ГАЎРЫІЛА

Святы Мучанік Гаўрыіл нарадзіўся ў 1684 годзе ў вёсцы Зверкі ў сялянскай сям'і Пятра і Анастасіі Гоўдзеляў. Ахрышчаны быў у тагачасным Свята-Успенскім манастыры ў Заблудаве. Шасцігадовым хлопчыкам быў ён выкрадзены праўдападобна мясцовым арандатарам Шутко і перавезены ў Беласток. Тут пасля доўгіх мукаў закончыў ён сваё кароткае зямное жыццё пакутніцкай смерцю. Яго цела злачынцы перавезлі ў ваколіцу Зверак і пакінулі ў лесе. З Божай волі цела мучаніка асталося някранутым, а драпежных птушак адганялі сабакі, якія сцераглі пакутнае цела. Неўзабаве цела было знойдзена і пахавана каля могільнікавай царквы ў Зверках. У пачатку XVIII стагоддзя насельніцтва абшараў сённяшняй Беласточчыны пацярпела ад эпідэміі, якая неашчаджала і дзяцей. Памерлых дзетак са Зверак хавалі побач магілы Мучаніка Гаўрыіла. У гэты спосаб вернікі пакланяліся Ягонай мучаніцкай смерці. Падчас аднаго з пахаванняў выпадкова была парушана магіла і адкрыта труна Гаўрыіла. На вялікае здзіўленне людзі пабачылі нятленнае цела, хаця даўно яно ляжала ў зямлі. Было гэта прызнакам святасці. Цела Мучаніка Гаўрыіла перанеслі тады ў склеп царквы ў Зверках, а пасля яе пажару ў 1746 годзе мошчы былі перанесены ў заблудаўскі манастыр. Доўгія гады мошчы захоўваліся ў Заблудаве, але ў выніку варожых адносін да іх часткі неправаслаўнага насельніцтва, былі яны перанесены ў Слуцк.



Вяртанне мошчаў 21 верасня г. г. з Барысаглебскага манастыра ў Гародні (толькі на гэтую ўрачыстасць праваслаўным дазволена было пакарыстацца гэтым манастыром) на Беласточчыну не будзе першым вяртаннем. У 1910 годзе епіскап Уладзімір прывёз мошчы са Слуцка ў Беласток. Аб гэтым здарэнні расказвала мне некалькі гадоў таму назад пакойная Анастасія Аксюцік, жыхарка вёскі Тапаляны, якая памерла на 97 годзе жыцця. Апавядала яна, што мошчы былі перанесяны вельмі ўрачыста і віталі іх жыхары вёсак і гарадоў. Вясковыя дарогі, па якіх неслі мошчы, высціláліся ўласнаручна тканымі дарожкамі і дыванамі.

У 1910 годзе мошчы нядоўга пабылі ў Саборы св. Мікалая ў Беластоку і зараз перанеслі іх у Супральскую лаўру, дзе захоўваліся да 1915 года. У час бежанства епіскап Уладзімір, які эвакуіраваўся ў Маскву, ўзяў мошчы з сабою і пакінуў іх у Слуцку. Пасля ліквідацыі Святатроіцкага манастыра мошчы трапілі ў музей у Мінску, а потым у мясцовую Праабражэнскую царкву. У 1944 годзе мошчы апынуліся ў Пакроўскай царкве ў Гродне, дзе захаваліся да нашых дзён.

Нашыя продкі сваю пашану Мучаніку Гаўрыілу аказалі, між іншым, высцілаючы вясковыя дарогі.

Святый мучченичe младенче Гаўрыіле молі бога о нас.

С. Н.

Здаецца, што ўсе прыбыўшыя ведаюць жыццё і мучаніцкую працу дзецяткі Гаўрыіла. Можна было зачарпнуць веды з выданняў на гэтую нагоду ў Акафісце, у часопісе, у Ніве, у Артадоксе, а таксама з іншых публікацыяў, размоў са святарамі і з вернікамі.

Праходзяць ужо апошнія групы пілігрымаў з Гародні. Людзі знаходзяць знаёмых, родзічаў і спяшаючы абменьваюцца віншаваннямі, таму што рушыла працэсія з мошчамі несенымі на перамену манахамі, святарамі, семенарыстамі з Варшавы, Яблачнай, а нават з інстытута св. Сергія з Парыжа. Усёю шырынёю дарогі ідзе лава людзей у Кузніцу Беластоцкую да царквы, якая на гары, каб там затапіць яе людзьмі. Наступае пакланенне Святому ў малебіне і Акафісце спяваючым маладзёжным хорам, пад час якога Першасвяшчэннікі, прадстаўнікі ўлад, а таксама вернікі вітаюць Мучаніка малітваю і пацалункамі. Ёсць таксама хвіліна на гасціннасць і сардэчнасць. Калі пасля сонечнага цёплага, проста выключнага дня, наступае вечар, працэсія накіроўваецца ў напрамку Саколкі, значачы трасу агеньчыкамі свечак, якія нясуць вернікі. Яснеючая ў аддаленні царква выдаецца, што яна напоўнена надзвычайным светам, быццам паднесеная ўшчэ ў верх.

У Саколцы гук званоў апавяшчае прыбыццё Мучаніка да гэтага горада, захвочваючы веруючых да ўсяночнага няспання і рупнасці (пільнасці) ў малітве і пакланенні Святому, да ўдзелу ў святой літургіі.

Да новапабудаванай царквы ў Чорна Беластоцкай працэсія прыбыла каля 11 гадзіне наступнага дня, гэтым вынаграджаючы нязвыклую ахвярнасць грамадскасць вернікаў за іх высілак

і самаахвярнасць. Ад высокай актыўнасці ў асноўным распачалася падрыхтоўка да гэтага пахвальнага здарэння. Ад выратавальнага фарменту сярод моладзі, якая напачатку паставіла пытанне: «Што гэта значыць быць праваслаўным?», «Якое мае месца ў царкве?». Ад утварэння дыскусійных груп і малітвенных, саарганізавання Брацтва праваслаўнай моладзі, утварэння новых хораў, паломніцтва на Грабарку, загранічных кантактаў, Фестывалю царкоўнай музыкі, будовы новых цэркваў, парафіяльных дамоў, катэхэтычных залаў, адбудовы манастыра і манашскага жыцця, рамонту і парадкавання старога, шляхам кансалідацыі, паразумення духавенства і Божага народу, шляхам аб ´яднання ў адну сям ´ю, у Божую царкву, якая жыве штораз большай верай, благаславення цяпер вяртаннем яе Святога.

Ужо амаль на вачах вітаючых на мяжы горада Беластока, працэсія ўваходзіць яшчэ ў царкву ў Васількове. І ўжо незадоўга харугвы дзевяці Беластоцкіх цэркваў пахіляюцца разам з веруючымі, аддаючы часці мошчаў. Ад імя ўсяе Праваслаўнай царквы ў Польшчы, сталіца епархіі вітае блажэннага патрона нававыбудаванымі і яшчэ будуючыміся цэрквамі, адкрытымі сэрцамі і ўзрушанасцю.

Ідзём усёй шырынёй вуліцы. Дзеці сыплюць кветкі. Паблісквюць на сонцы харугвы. Парадкавая служба трымаецца за рукі. Духавенства дастойна крочыць. Усе спяваюць: «Слава Богу за ўсё, за скорб і радасць».

Пры магільніку на Выгодзе уваходзім ў хвалюючыся натоўп чакаючых. Раступаюцца. Уваходзім на могілкі і да царквы Усіх Святых. З цярплівасцю і надзеяй чакаюць хворыя на мошчы. Там як царква пасля пажару — прагнуць аднавіцца. І сродак вядомы толькі святым — віншуюць спачываючыя тут у магілах мошчы святога Гаўрыіла.

І зноў находзімся мы на чале працэсіі, мінаем дарогу на Супрасль, дзе нанава ўзрастае гістарычная царква і манастыр і над гэтай адбудовай ганаровы патранат прынялі на сябе Прэзідэнты Польшчы і Беларусі. Пры гэтай жа трасе — гонар і жаданні праваслаўных каралёў і князёў — царква паводле праекту Гагіі Сопі — Святыня Мудрасці Божай, пакуль што ў сырым стане з краевульным каменем, пасвечаным ужо памёршым Дзімітрасам І — Патрыярхам Канстантынопальскім.

Працэсія разрастаецца — збаўляе крыху ход, а нават затрымоўваецца на хвілінку ў двух месцах — чутны глыбокі і перанімаючы спеў усяе працэсіі «Непроходимые ворота» і гэтым даводзіцца да сведамасці, і пра гэта помняць людзі — трагічныя карты гісторыі.

Уздоўж трасы ў Беластоку людзі занялі месцы на балконах, цінуцца ў вокнах, хрысціцца праваслаўныя і католікі. За рэліквіямі-мошчамі ідзе ганаровая група афіцэраў Дзяржаўнай пажарнай каманды. А потым некаторае занепакаенне і зацікаўленасць выклікала кампанія вайсковага аркестра, якая ўключылася да галавы калоны працэсіі, іграючы царкоўную мелодыю. Вернікі хутка падхвацілі гэтыя мелодыі, і расплываўся надзвычай прыгожы спеў. Праз усю ліпавую



вуліцу праціскаемся да Св. Сабору Мікалая. Апошні раз такая ціскаціна была, калі патрыярх Рыма прыбыў на экуманічную малітву і калі гаспадар нашай епархіі прадстаўляў усю праваслаўную царкву ў дыялогу.

І ўжо незадоўга над Беластокам узнясліся знаменныя словы яго правасхадзіцельства архіепіскапа Савы, які па прапанове найперш моладзі, а пасля ўсяей царквы просіць Экзахарта Беларускай праваслаўнай царквы аб перадачы мошчаў Святога Гаўрыіла.

«Дзякуй усяму беларускаму народу за тое, што гэты незвычайны спрактыкаваны гісторыяй народ у атмасферы згоды і нязгоды, сярод бур і частых праследаванняў веры, умеў усцерагчы святыя мошчы да сённяшняга дня, што знайшліся ахвярныя і добразычлівыя людзі, якія часта перамагаючы ўсе цяжкасці, перахавалі іх і сёння аддалі нам».

Мошчы Святога Мучаніка спачылі на сярэдзіне царквы пад апекай святароў і моладзі. Уся царква становіцца алтаром так, як у Пасхальную суботу, да чаго навязываюць словы архіепіскапа, які гэтую ўрачыстасць акрэслівае, як Пасху восені. Афіцыйна ўстанаўліваецца дзень 23 верасня Святам перанясення мошчаў Мучаніка Дзецяткі Святога Гаўрыіла.

Усю ноч вернікі і свяшчэннікі чыняць малітвеннае бдзеніе пры мошчах і асабліва царква Заблудаўская, жыхары Зверак.

Наступны дзень з ´яўляецца выразным днём узнясення хвалы і падзякі Богу, днём Эўхарыстычнай радасці атрымання Праваслаўнаю царквою ў Польшчы паўнаты ЭКЛЕЗ ´ЕЛЁГІЧНАГА жыцця, за агонь веры і святасці, якую Госпад запаліў на свечніках нашай царквы. «А павярнуўшыся, ўбачыў сем залатых свечнікаў, а сярод свечнікаў кагосці падобнага да сына чалавечага».

**св. прот. Анатоль Конах**

 



*Хор гарадскога аддзела БТКТ у Беластоку.*
*Фота Я. Целушэцкага*




*Калектыў з Гданьска.* *Фота. Я. Целушэцкага*



# ВОЛЬКА ВЫГАНОЎСКАЯ

**(гісторыя царквы і прыхода на фоне мінулага вёскі)**

## ПАЧАТКІ

Напалавіне прамяжутку паміж Нарваю і Бугам плыве рака Нурэц. Яе лянівае цячэнне спалучала з сабою шмат старых гарадоў, мястэчак і вёсак (м. інш. Кляшчэлі, Боцькі, Бранск, Цехавец). Многія з паселішч, што існавалі на беразе некалі многаводнага Нурца, загінулі на працягу вякоў. Іншыя, у выніку дэмаграфічных працэсаў, змянілі свае распалажэнне. Бачым тое на прыкладзе гарадзішчаў у Боцьках ці Бранску, а таксама гарадзішча, што знаходзіцца над Нурцом, непадалёку ад вёскі Шэшылы, на захад ад Волькі Выганоўскай.

Паходжанне гарадзішча «Замак» (бо так мясцовыя людзі яго называюць) археолагі адносяць да X стагоддзя. Гарадзішча дыяметрам 80 м. распаложана на правым беразе Нурца, сярод абшарных, цяпер асушаных балот. Знамянальна, што гарадзішча ляжыць амаль дакладна ў паўдарогі паміж Кляшчэлямі і Боцькамі. Адсутнасць гістарычных дакументаў не дазваляе аднак прывясці фактаў з яго гісторыі.

Можна меркаваць, што гарадзішча «Замак» магло мець станоўчы ўплыў на пасяляючыя працэсы ў даліне ракі Нурэц, у тым ліку і вёсак, якія складаюць сёння праваслаўны прыход у Вольцы Выганоўскай.

Амаль немагчыма акрэсліць, калі першапачаткова пасяліліся людзі на месцы сённяшняй Волькі Выганоўскай. У час капання выкапу пад фундамент для цяперашняй царквы былі адкрыты пахаванні, якія можна аднясці да IX — XIII ст. ст. (М. Гайдук, Волька Выганоўска, Ніва 4 7/1980). Існаванне могілак у гэтым перыядзе паказвае на факт пражывання тут супольнасці (пэўна ўжо ў XI — XII ст. ст.), праваслаўнай.

На развітак пасялення на месцы Волькі магло мець таксама ўплыў ажыўленне гандлёвых кантактаў паміж Гародняй, Бельскам, Бярэсцем у XIV — XV ст. ст. Вельмі магчыма, што сюдою праходзіла адна з дарог купечага тракту з Бельска ў Бярэсце (дарогу з Волькі Выганоўскай у Кляшчэлі да сёння называюць «Гасцінцам»).

У 1523 годзе на пераправе праз Нурэц, побліз вялікакняскага мысліўскага двара засноўваюцца на хэлмінскіх правах Кляшчэлі.

Паступовае гаспадарчае ажыўленне наваколля. Магчыма, што ўжо тады Волька мела свае сёняшняе распалажэнне. Як сведчыць названне вёскі Волька (Воля), яе першыя жыхары былі, напэўна, зволеныя ад чыншаў. Лік «вольных» гадоў залежыў ад ступені цяжкасцей загаспадарання зямлі. Цяжкасці заключаліся галоўным чынам у карчаванні лясоў. У прыпадку Волькі была гэта паўднёвая частка Бельскай Пушчы.

Ананімная гісторыя Волькі канчаецца для нас у 1560 годзе. З таго ж года паходзіць першая пісьмовая звестка пра сяло і яго ўласнікаў.



 

## ПЕРШЫЯ ЎЛАДАЛЬНІКІ

Ваганоўскія... На гэты рускі, праваслаўны род варта звярнуць больш увагі. Паходзілі яны з Берасцейскага павету, з Ваганова, якое атрымалі ў 1486 годзе ад караля Казіміра Ягелончыка. Асновай іх заняткаў былі сельскагаспадарчыя інтарэсы, галоўным чынам сплаў збожжа да Гданьска. На працягу кароткага часу род Ваганоўскіх значна ўзбагачаецца ды займае маёмасці на нашым Падляшшы: Волю (Вольку Ваганоўску), Падбельск (Падбелле), Красна Сяло ды Круглэ.

У палавіне XVI ст. уладальнікам гэтых мясцовасцей былі ўжо чатыры браты Ваганоўскія: Аляксандр — маршалак гаспадаркі (каралеўскі), Іван — уладальнік Волькі, Грыгор і Фёдар. У 1569 годзе маршалак гаспадаркі Аляксандр Ваганоўскі разам са сваімі братамі прысягае на вернасць Польскай Кароне (пасля далучэння Падляшша да яе).

Год 1560 прыносіць нам упамінанне пра Івана Ваганоўскага, як уласніка Волькі. Спадкаемцамі Івана Ваганоўскага былі Грыгор і Фёдар Ваганоўскія, пра якіх упамінаецца пад 1594 годам. Гэты ж год прыносіць падзел паміж Ваганоўскімі на чатыры часткі суседняга з Волькай фальварку ў Круглым.

Не ведаем, да якога году Ваганоўскія былі ўладальнікамі Волькі (Волі). Несумненна, уплыў на змены ўладальнікаў мелі войны палавіны XVII ст., так знішчальныя для нашага Падляшша. І так, кіруючыся дзённікам Яна Антонія Храпавіцкага, можна сцвердзіць, што уласнікам Волькі ў 1658 годзе быў Ян Мілоцкі. Пад канец XVII ст. Волька належыць да Фэлікса Зыгмунта Парысса, каштэляна люблінскага. З яго асобаю ёсць звязанае першае ўпамінанне пра вольчанскую царкву.

## ЦАРКВА

Не ведаем дакладнай даты ўзнікнення ў Вольцы (Волі) царквы. Калі ў 2-й палавіне XVII ст. Волька перайшла ва ўладанне роду Парыссаў, у 1686 годзе Фэлікс З. Парысс надзяляе вольчанскую царкву св. Міхаіла адной увалокай зямлі ды лугамі. Пра гэты «фундуш», як і наступную «прээнту» ад Адама Парысса з 1715 г., даведваемся з «візітацыі» царквы ў Вольцы з 1727 г. «Візітацыя» чарговым чынам апісвае выгляд царквы.

«(...) Cerkiew Woleńska pod Tytułem S. Michała (...) na górce dre drewniana zbyt stara. Cmętarz z parkanu ruina jest, wycieczka zamczysta na biegunach z prosta (...) Dzwoniczka osobno na słupkach pod Deszkiem dranicznym starym i Krzyiykiem. Na Cerkwie Dach bardzo stary przeciekaiący, Kopułka z Krzyiem także obleciała. Bobinca nie masz, kuna zelazna z podworca przy scienie. Drzwi do cerkwie na zawiasach z Zamkiem wnętrznym y wiszącym (...) Okien w cerkmie dwie, a w oltarzu dwie, a trzecie Mnieysze, wszystkie w drzewo robione (...).



Як бачым, царква была ўжо тады даволі старая ды занядбалая, на што востра звярнуў увагу візітар. Ён жа папракае тадышняга настаяцеля а. Васіля Палчэўскага за непарадкі ў царкве:

(...) Corporałow i Purypikałerzow brudnych a petrachelow spropanowanych zażywa y wielkie Nieochędostwo koło Ołtarzow pokazałł (...).

Што ж было прычынай такога агульнага занядбання вольчанскай царквы? Як відаць, склаліся на гэта тры прычыны: нядбаласць святара, вядавочная абыякавасць уладальніка — рымакаталіка да лёсу вуніяцкай царквы ды беднасць прыхажан.

Нягледзячы на знешні заняпад царквы, яе ўнутранае ўбранства было даволі дастойнае. Знаходзім тут нямала ікон. Звяртае ўвагу прысутнасць царскіх варот («Dziejach Dobroczynności»), а гэта сведчыць пра наяўнасць Іканастасу.

У 1727 годзе да прыхода ў Вольцы належалі вёскі: Вёска Выганоўска, Кругла (Круглэ), Чэхі, Дідулі, Олексішчэ (Олекшы), Монкеўшы (Москаўцы) і Сыпошы. Апошняй прыхадской вёскі не знойдзем сёння на ніводнай карце. З бліжэй невядомых прычын гэтае сяло, згадванае ўжо ў 1676 г., перастала існаваць. Калі — невядома? Аднак жа сёння застаўся след існавання гэтай вёскі. На захад ад Маскоўцаў, па дарозе ў Чэхі Забалотныя знаходзім урочышча Шыпошы. Так называецца цяпер лес, поле і лугі. Цяжка сумнявацца, што такое зыходства назваў вёскі і цяперашняга урочышча прыпадковае.

Пад канец XVIII ст. Волька Выганоўская (тады Бабраўніцкая) належыць да Ігната Бабраўніцкага, падстоляга мельніцкай зямлі. У 1792 годзе ён жа ахвяруе вольчанскай царкве 800 злотых ды дрэва з уласнага лесу. Дзякуючы гэтаму рупнаму ўладальніку праводзіцца генеральны рамонт храма. Былі м. інш. зменены падваліны, падлога і полап, дах і купал перакрытыя бляхай. Уведзены быў новы «вялікі алтар» ды званіца. Пра гэтыя заслугі і Бабраўніцкага запішуць пасля ў «                » (т. VI Вільня, 1824 г.).

Адначасова з добрым апякунам, вольчанская царква мела з 1779 г годнага настаяцеля. Быў ім а. Кірыл Баброўскі (1738—1824). Пра гэту знамянальную постаць ды ягонага сына а. Міхаіла Баброўскага павядзем цяпер шырэйшую гаворку.

## БАЦЬКА І СЫН

Лёсы двух вялікіх людзей, двух святароў спалучае з сабою не толькі сям'я, але і ўплыў, які адыгралі яны для сваіх сучаснікаў. Розніца тут толькі ў абсягу гэтага ўплыву. Калі асоба а. Кірыла Баброўскага ўздзейнічала на прыхажан і падляшскіх святароў, дык а. Міхаіл Баброўскі пакідае пасля сябе значны след у беларускай і агульнаславянскай культурнай ніве.

Шляхецкі род Баброўскіх паходзіў з Драгічанскай зямлі. Народжаны ў 1738 г. Кірыла Баброўскі першапачаткова вучыўся ў вядомай школе царкоўнікаў у Кляшчэлях, пазней — у Брэсцкай




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

семінарыі. Пасля паспяховага заканчэння вучобы Баброўскі ў 1762 г. выязджае ў Кіеў. На бацькаўшчыну вяртаецца ў 1779 г., каб прыняць свяшчэнства. Епіскап Брэсцкі Сімяон Малоцкі ў 1780 г. назначае а. Кірыла на прыход у Вольку Выганоўскую (Бабраўніцкую).

На працягу ўсяго свайго служэння а. Кірыл карыстаецца вялікай павагай у сваіх прыхаджан, супольна з якімі, дзякуючы падтрымцы І. Бабраўніцкага падымае на пэўны ўзровень заняпалы раней прыход. Адначасова з ´яўляецца аўтарытэтам сярод святароў, не толькі Падляшша, але ўсёй Брэсцкай Епархіі. У ягоным службовым фармуляры запісана: «... пераўзыйшоў святароў Брэсцкай Епархіі ў абрадах і ўставах грэка-ўсходняй царквы...». Як відаць, а. Кірыл добра разумеў небяспеку наступаючай латынізацыі ўніяцкай царквы ды стараўся ў ёй зберагчы як найбольш першапачатковай (праваслаўнай) навукі і абраднасці.

А. Кірыл Баброўскі захоўваў таксама добрыя зносіны з членамі Брэсцкага Капітулы, якая, з чаргі, была вядомым абаронцаю інтарэсаў белага духавенства перад ордэнам «базіліянаў».

Год 1784 адгукаецца ў сям ´і а. Кірыла Баброўскага радаснай надзеяй — нараджаецца сын Міхаіл. Міхаіл расце здольным хлопчыкам, хутка будзе яму дадзена пайсці са спакойнай Волькі ў шырокі свет па навукі. Нягледзячы на цяжкую фінансавую сітуацыю айцец Кірыл пасылае сына Міхаіла, ды другога сына Язэпа ў драгічынскую школу піяраў. Пасля Міхаіл Баброўскі паступае ў Беластоцкую гімназію (канчае яе ў 1805 годзе). Тут ён знаёміцца з сынам святара з Грыневіч Вялікіх Ігнатам Даніловічам, пазней прафесарам і вядомым навукоўцам. Далейшую вучобу М. Баброўскі прадаўжае ў Галоўнай Семінарыі. Апрача багаслоўскіх курсаў у 1812—1814 г.г. вывучае ў Вільні заканадаўства ды філасофію.

Пасля рукапалажэння ў свяшчэннікі (у цэлібаце) ў 1814 г., са званнем магістра філасофіі і дацэнта Віленскага універсітэта, а. Міхал Баброўскі вырашае паехаць у 1817 г. у навуковую паездку па Еўропе. Наведвае Францыю, Італію, Германію ды паўднёвыя славянскія краіны. Пры гэтым удзельнічае ў навуковым жыцці галоўных універсітэтаў гэтых краін, сустракаецца з вядомымі аўтарытэтамі ў багасловіі і іншых галінах навукі. Асаблівы плён прынёс кантакт з Іосіфам Даброўскім — «айцом славяншчыны». Адным з галоўных супольных інтарэсаў двух даследчыкаў была славянская бібліяграфія і гісторыя славянскага друку. Айцец Міхал Баброўскі вёў крапатлівыя доследы старажытных славянскіх рукапісаў (ён жа адкрыў — Четіїў Минеи» XI ст. з Супрасля ды аўтар апрацавання пра дзейнасць друкароў Фёдарава і Пёрта Мсціслаўца).

Аднак жа, як звяртае ўвагу а. Плакід Янкоўскі, бібліёграф а. Міхала Баброўскага («Холмскій Греко-Уніятскій Месяцесловъ» на 1867 г.) «галоўным заданнем дзейнасці Баброўскага заставаліся, зразумела, біблійная археалогія і герменеўтыка») у багаслоўі — навука аб правілах, якімі павінен карыстацца багаслоў пры інтэрпрэтацыі тэксту Св. Пісання). Асноваю доследаў Св. Пісання а. М. Баброўскі лічыў добрае веданне моў арыгінала — яўрэйскай



і грэцкай (сам прафесар ведаў іх дасканала; валодаў амаль усімі новымі еўрапейскімі мовамі).

У 1820 г. а. М. Баброўскі вяртаецца на Радзіму. Вельмі хочацца пабачыць яму родную Вольку, дзе яго чакае васьмідзесяцігадовы бацька а. Кірыл, духавенства, знаёмыя, родныя краявіды... Айцец М. Баброўскі скажа пасля прыезду, летам 1820 усім сабраным на прыхадскім свяце ў Кляшчэлях:

«Браты, дзякуй Богу, які даравў мне магчымасць ізноў пабачыць мілую радзіму. Якой бы чужына не была прыгожай, усё-такі радзіма, як свая душа: яе ні на якую іншую не памяняеш».

Неўзабаве а. Міхал Баброўскі пачынае працу ў Віленскім універсітэце, дзе вядзе курс св. Пісання. Тут жа а. Міхал сустракаецца з прафесарам І. Даніловічам, Я. Анацэвічам, Я. Ярашэвічам. У іх гуртку пачынае нараджацца ідэя аднаўлення самастойнай дзяржавы ў межах Вялікага Княства Літоўскага. Аднак жа 1824 г., у сувязі з дзеяннем згуртаванняў «філарэтаў і філаматаў наступаюць звальненні і ссылкі часткі віленскіх прафесароў (Анацэвіч, Даніловіч, Лелевель, Галахоўскі і інш.). Прафесар Баброўскі вымушаны пераехаць у Жыровіцы, дзе займае становішча віцэстаршыні кансісторыі. У тым жа 1824 г. памірае ў Вольцы яго бацька а. Кірыл. У наступным годзе а. Міхал, разам з братам Язэпам ставяць пры царкве ў Вольцы, на магіле сваёй маці Анны з Крупіцкіх (пам. 1792 г.), памятную пліту.

У 1825 г. а. Міхал ізноў вяртаецца на кафедру Св. Пісання. У гэтым жа перыядзе ў асяроддзі вуніяцкай ерархіі і на ўзроўні духоўнага школьніцтва пачынае станавіцца напружаная праца над прыгатаўленнем павароту вуніяцкай царквы да Праваслаўя. А. Міхал Баброўскі, калі дзейна ў гэтым не ўдзельнічаў, дык разумеў, што працэс гэты незваротны.

Пасля закрыцця Віленскага універсітэту а. Міхал Баброўскі перасяляецца ў Шэрашоў, пружанскага павету, на пасад настаяцеля праваслаўнага прыхода. З 1841 г. стае пружанскім благачынным. Паміраe ў 1848 г. у агульным шанаванні духавенства і прыхажан. ... Так адышоў да Госпада адзін з найбольш асвечаных людзей свайго часу, якім быў ён, а. Міхал Баброўскі, як чалавек. Сучаснік а. Плакід Янкоўскі запісаў у ягонай бібліяграфіі.

«Баброўскі лёгка мог паказацца звыш патрабавальным і цяжкім чалавекам. А нейкія антычна-суровыя рысы твару і як бы да іх дабраная інтанацыя голасу, у сваю чаргу не паказвалі зусім у карысць непасрэднасці. Між тым, пад тою абалонкаю хавалася — не ў глыбіні, але тут жа зверху — столькі цёплага пачуцця, дабрыні і сардэчнай прастаты...».

Бацька і сын... Першы ўдзячны Вольцы Выганоўскай палавіну свайго жыцця; другі шчасліваe дзяцінства... ды любоў да Радзімы. Сам айцец Кірыл аставіў пасля сябе ўпарадкаваны прыход, духоўна і асветна пабудаваную супольнасць. Наперадзе былі вяртанні...

## ВЯРТАННІ

Ці вяртанне не ёсць нечым дамінуючым у жыцці асобы і грамадства? Вяртаемся да дому, вяртаемся да першабытнага натуральнага стану... вяртаемся да Бога... вяртаемся да самога сябе.

На працягу апошняга 150-годдзя нашым продкам даволі часта даводзілася перажываць вяртанні і жыццёвыя пераломы. Першым вялікім вяртаннем таго часу быў паварот да веры продкаў у 1839 годзе.

У большасці з нашых падляшскіх мясцовасцях, з пэўнымі выключэннямі вяртанне з уніі у Праваслаўе адбывалася спакойна, без моцных узрушэнняў і мела рысы паступовага працэсу. Ужо на некалькі гадоў перад скасаваннем уніі ў цэрквах пачаліся працы над адбудовай іканастасаў, так важных элементаў унутранага ўбранства праваслаўных храмаў.

Царква ў Вольцы Выганоўскай мела адбудаваны іканастас ужо ў 1836 годзе. Настаяцелем у той час быў а. Кірыл Харсевіч, ён жа ў 1839 годзе разам з прыхажанамі прымае ў Праваславе.

У 1847 г. вольчанскі прыход налічвае 911 асоб, пражываючых у вёсках: Волька, Рыгораўцы, Москаўцы, Чэхі, Круглэ, Дідулі, Алекшы, Краснэ Сэло. Жыццё гэтых прыгонных вёсак, размешчаных далёка ад галоўных дарог, праходзіла, здаецца, адвечным шляхам.

Але прыйшло чарговае вяртанне — год 1861. Ва ўсёй рускай імперыі сяляне атрымліваюць зямлю. Жыхарам Волькі гэта было пэўнае вяртанне ў становішча продкаў, якія некалькі сот гадоў перад імі мелі ўласную зямлю — былі вольнымі жыхарамі Волі.

З 1861 года натуральна паляпшаецца становішча вольчанскіх прыхажан. Гэта прыносіць плён не толькі іх гаспадарам, але і царкоўнаму жыццю. І так, у 70-я гады пры настаяцелю а. Іаане Урублеўскім праводзіцца генеральны рамонт царквы. У царкве ўзводзіцца новы іканастас. Храм атрымлівае ахвяраванні (м. інш. багаслужэбныя аблачэнні, звон, іконы, літургічнае начынанне і інш.), на агульную суму 1171 руб. Апрача таго, трэба ўспомніць, што вернікі самі пакрылі кошты рамонту у колькасці 1460 руб. У лістападзе 1876 г. праходзіць урачыстае пасвяшчэнне храма пасля рамонту.

З 1884 г. прыхадскія дзеці пачалі вучыцца ў заснаваных у сваіх вёсках царкоўна-прыхадскіх школах. Такія школы дзейнічалі у Красным Сэле (у 1884 г. навучалася тут 20 дзяцей), Рыгораўцах (31 дзяцей), Чэхах (16 дзяцей). У 1886 г. была адчынена школа ў Дідюлях, а затым у самой Вольцы пачало працаваць вучылішча. Прага дзяцей да навукі была вялікая. І гэта было натуральна. Калі прыгонны селянін і ягоныя дзеці мелі абмежаваную волю, дык цяпер, калі сталі яны гаспадарамі ўласнага лёсу, жадалі адкрываць сабе шырэй свет. А гэты шанц давала ім навука. І гэта было чарговае вяртанне — з цемры непісьменнасці ў святло прасветы.

На пачатку XX ст. прыход у Вольцы Выганоўскай налічвае амаль 2000 асоб. Вялікая іх ахвярнасць прыносіць ізноў плён. У 1912—1914 г.г. за сабраную суму 1300 руб, будуецца новая званіца ды адмалёўваецца царква звонку і ўнутры. Рупна працуючы над усім гэтым, вольчанскія прыхаджане зусім не прадчувалі, якія выпрабаванні чакаюць іх наперадзе.



У 1914 г. пачынаецца з Балкан 1-я сусветная вайна. У наступным годзе расійскі ўрад загадвае агульную эвакуацыю праваслаўнага насельніцтва заходніх зямель Рускай імперыі. Пачынаецца перыяд «бежанства» — адзін з найбольш драматычных фрагментаў навейшай гісторыі беларускага народу.

З тэрыторыі вольчанскага прыхода выехалі амаль усе. Выязджае і святчэннік а. Уладзімір Трайковіч. За час нябытнасці прыхажан самая царква, на шчасце, астаецца непарушанай. Павароты з «бежанства» наступаюць у 1919—1921 г.г. У родных вёсках людзей сустракаюць запусцелыя гаспадаркі... салдацкія магілкі (на тэрыторыі вольчанскага прыхода каля вёскі Рыгораўцы знаходзяцца могілкі нямецкіх салдат з 1915 г.).

У II Рэчапаспалітнай улады (якія ў паўне кантралююць жыццё праваслаўнай царквы) не дазваляюць на адкрыццё прыхода ў Вольцы Выганоўскай. Храм стае філіяй прыхода ў Кляшчэлях. Ягоны настаяцель а. Яўфімій Максімчук у 1920—1924 г.г. праводзіць рамонты сваіх храмаў, у тым ліку і ў Вольцы. У 1928 г. у Вольку прыязджае а. Аляксандр Самойлік. Дзякуючы яго актыўнасці ў 1928 г. удаецца залегалізаваць царкву ў Вольцы, як штатную філію прыхода ў Кляшчэлях.

Паводле «Кліровых Ведамасцяў» за 1928 г. філія ў Вольцы налічвае 1800 асоб, пражываючых ў сёлах: Волька — 312 асоб, Москаўцы — 185, Круглэ — 64, Чэхі — 177, Краснэ Сэло — 316, Дідулі — 178, Алекшы — 74, Рыгораўцы — 284, хутар Волька — 93, Паўлінава — 72 асобы.

У 1929 г. над Вольчанскім храмам, як і над дзесяткамі іншых у Бельскім павеце павісае пагроза рэвіндыкацыі са стараны рымакаталіцкага епіскапа пінскага. На шчасце, Акругавы Суд у Беластоку адхіліў позвы епіскапа, як неабаснаваныя.

Аднак жа, праз восем гадоў вольчанскія прыхаджане трацяць свой старадаўні храм...

Гэта быў страшны дзень... Полымя пажару разшугалася над усёй вёскай. Гарэлі хаты, клуні, хлявы... І самае страшнае, агонь як бы несены нейкай сатанінскай сілай перакінуўся на гонтавы дах царквы св. Міхала. Яна, здаецца, была бяспечнай, стоячы на ўзгорку, далекавата ад хат. Але сталася... Вялікі пажар Волькі Выганоўскай з 3-га на 4-е красавіка 1937 г. праглынуў старадаўнюю царкву разам са званіцаю. З агню былі ўратаваны толькі некаторыя элементы яе ўнутранага ўбранства.

Пасля пажару не пахіснулася вера вольчанскіх прыхажан, яны распачынаюць адбудову свайго храма. Ужо 14.10.1938 г. у дзень прыхадскога свята Пакровы Божай Мацяры наступае пасвяшчэнне вугальнага камня пад будову новай мураванай царквы паводле праекта інжынера Шульца (паходзіў з сям 'і памешчыкаў з Паўлінова). Працы над пабудовай спыняе 2-я сусветная вайна. Сабраны матэрыял на пабудову быў у большасці знішчаны. У 1943 г. у прыходзе пражывае 1926 асоб у 222 дамах.

Год 1944 прыносіць вызваленне супольнасці. Царкоўная зямля пераходзіць ва ўладанне сялян, пачынающца спробы арганізаваць калгасы. Некаторыя сем 'і з Волькі і прыхода выязджаюць у БССР, на іх месца пасяляющца палякі. Выезды гэтыя былі найчасцей выкліканыя страхам перад пагрозамі парамілітарных груповак «падзямелля». Жыхары Волькі Выганоўскай адчулі на сабе ўсю жудасць пасляваеннага часу. 2 лютага 1946 г. атрад «Бурага» (Рамуальда Райса) пасля спалення Заляшан затрымаўся ў Вольцы. Тут імі было спалена 27 дамоў ды 2 асобы забіта.

Адвечным законам прыроды, пасля пажараў трэба было пачынаць падымацца з папялішчаў. Жыхарам прыхода ў Вольцы гэта абазначала таксама адбудову свайго храма. Пачатую перад вайной адбудову жыхары прадоўжылі; дзякуючы іх ахвярнасці царква стала ўжо ў 1949 г. У прыхадское свята Пакрова Божай Маццыры 1953 года ў Вольку прыбывае Мітрапаліт Варшаўскі з мэтаю пасвяшчэння храма. Урачыстасці сабралі ўсю шматлікую прыхадскую супольнасць і многіх паломнікаў, якія пасля «Усяношняй», усю ноч перад пасвяшчэннем правялі ў храме на малітве і спевах «Багагласніка». Аб урачыстасцях, звязаных з пасвяшчэннем храма ў Вольцы натхнёна пісаў а. Мікалай Крукоўскі ў 6/1954 нр-ы «Царкоўнага Весніка».

У 1964 г. памірае заслужаны для вольчанскага прыхода пратаіерэй Аляксандр Самойлік. Яшчэ з 1955 г., з увагі на яго стан здароўя, да вольчанскай царквы былі назначаны вікарныя. З лістапада 1956 г. вікарным быў тут а. Леўкій Ярацэвіч. Ён жа, ужо як настаяцель у 1967 г. заканчвае дабудову царкоўнай званіцы. І ў такім выглядзе Міхайлаўская царква ў Вольцы прадстаўляецца сёння. Трэба дадаць, што а. Леўкій Ярацэвіч будуе таксама новы прыхадскі дом (каля старога з 1902 г.).

## СЁННЯ...

У 1979 г. у Вольку назначаецца новы малады святар а. Лявонцій Саевіч. Ён жа разам з прыхажанамі будуе новы драўляны прыхадскі дом з прызначэннем для псаломшчыка. На гады служэння ў Вольцы а. Лявонція прыпадае востры дэмаграфічны крызіс, звязаны з пасільнай міграцыяй жыхароў з вёскі ў горад. Цяпер сітуацыя такая, што большасць вольчанскіх прыхажан мае сярэдні ўзрост звыш 50 гадоў, што відаць на службах у царкве. Рэдка калі папаўняюцца запіскі ў мэтрычнай кнізе Хрыстоў ці шлюбаў, часцей пахаванняў... Пашыраюцца абшырныя у 1,30 га могілкі.

Працэс старэння вёскі закрануў асабліва Вольку Выганоўскую, менш хіба Рыгораўцы, Краснае Сэло. У апошняй вёсцы, як некаторыя чытачы напэўна ведаюць, дзейнічае спявачы калектыў «Прыгажуні», які зберагае ад небыцця багаты тутэйшы фальклор. Слухачы і гледачы агляда́ў «Беларуская песня» добра яго ведаюць.

Жыхары вёскі Волькі Выганоўскай ганарацца сваім земляком Уладыкай Афанасіем, Епіскапам Пермскім і Сулікамскім. Уладыка Афанасій (у свеце Аляксандр Кудзюк) нарадзіўся тут у 1927 г. У 1945 разам з сям 'ёю пераязджае ў БССР. Тут пайшоў у Жыровіцкі манастыр, дзе шмат гадоў служыў як архімандрыт. У 1980 г. быў высвячаны ў Епіскапа Пінскага, пасля ж абняў Пермскую кафедру ў Сібіры.

Краснэ Сэло, можна сказаць, пагранічная вёска. На захад ад яе паступова пачынаецца этнічная польская зямля. Часта на такім беларуска-польскім сумежжы можна знайсці «Святыя месцы». Вось і каля Краснага Сэла знаходзіцца крыніца з цудадзейнаю вадою. У 1986—87 г.г. жыхарамі вёскі была тут пастаўлена капліца ў чэсць св. Серафіма Сароўскага.

... Вернемся ў Вольку Выганоўскую. Тут варта наведаць яшчэ старыя могілкі, размешчаныя на ўсходняй ўскраіне вёскі. З могілак гэтых карысталі прыхажане да канца XX ст. Да сёння захавалася толькі некалькі намагільных помнікаў, сярод іх намагільная пліта а. Іаану Лявіцкаму (1800—1894), настаяцелю прыходаў у Харошчы і Полаўцах. Унук таго святара а. Уладзімір Лявіцкі быў у 1889—1911 г.г. настаяцелем прыхода ў Вольцы Выганоўскай.

Са старых могілак можам пайсці па вольчанскіх палях і лугах. Тут спаткаем такія цікавыя тапаграфічныя назвы, як Сэліскі, Глінскі, Корьутуў Луг, Топільце (маленькае зарастаючае возера), Шэсты, Круглозына, Огульнэ, Пэнькі, Хліебуўшчына. Варта зайсці таксама на крыніцу, што побліз вёскі. Вада ў ёй цудадзейная. Прыемна прайсці ад крыніцы загуменнямі і паглядзець на прыгожа размешчанае сяло... Магчыма 200 гадоў таму назад сюдою прахаджваў а. Кірыл Баброўскі і яго славутыя дзеці.

Яшчэ раз вяртаемся ў дом свяшчэнніка. А. Лявонцій і яго матушка, настаўніца школы ў Маліnніках, яшчэ раз запрашаюць да святасцяў свайго прыхода, асабліва іконы Божай Мацяры «Знаменне».

І так закончылася наша знаёмства з гісторыяй царквы ў Вольцы Выганоўскай і яе прыхода. Вядома, не ўсе існуючыя крыніцы па яе гісторыі былі выкарыстаны, не ўсе факты былі адзначаны. Мінулае адной такой вёскі, а асабліва ўсяго прыхода так багатае, што можна было б скласці пра гэта нятонкую кнігу.

а. Грыгорый Сасна,
Мікола Сахарэвіч

**Юрка Баена**

## СОРАМ

Тады найбольш саромейся,
Еўропа,
Калі зара надзеі гасне.
А песні звонкія народа
Ідуць у катакомбы часу.
Калі ў развалінах старога дома
Матчына яшчэ стукоча слова—
Так дагарае мова...





# БГКТ У ШАСЦІДЗЕСЯТЫЯ ГАДЫ

**Факты-успаміны**

Аб рэдакцыі «НІВА» пісаць многа няма патрэбы. Тыднёвік быў праз прэсавы кааператыў «Рух», падлеглы ПАРП. Яго працу надзараваў Аддзел прапаганды ВК у Беластоку. Я задаваў сабе справу з таго, што «Ніва» штучна прыкмяна да БГКТ і названа яго органам. Уладам было карысна спіхнуць клопаты беларускамоўнага часопіса на нацыянальнае таварыства, палаяць яго кіраўніцтва і галоўнага рэдактара за дапушчаныя хібы. Некалькі разоў на Прэзідыўме ГП разглядалася пытанне перадачы тыднёвіка дзяржаўным выдавецтвам дзеля надання вышэйшага рангу. Рэдакцыя таксама па-рознаму адносілася да гэтага падпарадкавання, але заўсёды была звязана з арганізацыяй. Клапатлівая, штодзённая праца ўладкавала найчасцей самастойна без дапамогі БГКТ.

«Ніва» была нашым тыднёвікам, які ўсе мы шанавалі, у ім друкаваліся, горача дыскутавалі над дасягненнямі і недахопамі. Я асабіста лічыўся таксама з фактам, што «Ніва» групуе інтэлектуалістаў, а мы ўсяго арганізатары ў дзейнасці, і разрыў кантактаў з рэдакцыяй быў бы шкодны абоім установам. Супрацоўніцтва заўсёды існавала, але захоўваўся ў ім адпячатак характэрных рысаў паасобных працаўнікоў.

БГКТ запрашала працаўнікоў рэдакцыі на культурна-асветныя мерапрыемствы, прасіла інфармаваць аб іх грамадскасць у мясцовай прэсе і радыё, прыцягвала журналістаў да ўдзелу ў грамадскай працы, асабліва ў папулярызаванні пачытнасці «Нівы», па меры магчымасці дапамагала транспартам, даручала журналістам ацэнку паасобных адрэзкаў працы таварыства (М. Хмялеўскі, У. Паўлючук), прапанавала ўключацца ў прадз´ездаўскія дыскусіі, лічачы на прапановы і справядлівую крытыку. На пасяджэннях Прызідыўма і Пленумаў ставілася ацэнка працы рэдакцыі «Нівы», дадатку для дзяцей «Зорка», разважалася кадравая палітыка, агульная тэматыка часопісаў.

У БГКТ, самой рэдакцыі і чытачоў галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкій карыстаўся вялікім аўтарытэтам. Патрапіў ён утрымаць належную дысцыпліну працы, што ў журналісцкім асяроддзі не заўсёды ўдаецца. Сам таксама адзначаўся працавітасцю, заўсёды быў прысутны ў рэдакцыі, с пашанай прыймаў наведвальнікаў, спакойна праводзіў з імі гутаркі. Магчыма таму так хутка з´яднаў вакол часопіса карэспандэнтаў, пісьменнікаў, даследчыкаў. Мяне часта захапляў яго рэалізм, асабліва ва ўвядзенні новых ініцыятыў праз БГКТ. Нельга таксама Г. Валкавыцкаму адмовіць наватарства і канцэпцыйнасці ў працы рэдакцыі «Ніва». Тыднёвік быў заўсёды моцна звязаны з усімі праявамі грамадскага, эканамічнага і культурнага жыцця ўсходняй Беласточчыны, стаўся яе люстрам. Ён кранаў таксама асноўныя агульнадзяржаўныя пытанні, інфармаваў чытачоў аб аналагічных падзеях у БССР, не ізаляваўся ад сусветнай палітыкі таго перыяду. «Ніва» не змяшчала перадрукаў, хіба што існавала

ў гэтым неабходнасць. Можна з упэўненасцю адзначыць, што ў 60-ых гадах належала яна да найбольш цікавых беларускамоўных часопісаў у свеце. Нічога дзіўнага ў тым, што я лічыў членства Г. Валкавыскага ў складзе ГП і яго прэзідыўме за неабходнае. Так было ўсе тры кадэнцыі майго сакратаравання ў БГКТ, хаця сам рэдактар — з розных меркаванняў, хацеў неаднойчы выцафацца. Разам з маім адыходам на 6 з ´ездзе (май 1969) ён нажаль не ўвайшоў у склад Прэзідыўма ГП.

Рэдакцыя мела свае недахопы. Нам хацелася, каб журналісты «Нівы» больш актыўна ўдзельнічалі ў грамадскай працы таварыства, асабліва яго камісіях, мерапрыемствах, лектарскай дзейнасці. З большасцю мне ўдалося дамовіцца. Вельмі шчыра ставіўся да прапаноў Міхась Хмялеўскі, затым Сакрат Яновіч, Міхась Кураш, Васіль Баршчэўскі, Мацей Канапацкі, Яніна Чэрнякевіч. Але з галоўным рэдактарам Георгіям Валкавыцкім дамовіцца было цяжка. Мы на сустрэчы з насельніцтвам, настаўнікамі, вучнямі, на канферэнцыі аддзелаў, а рэдактар глыбей урастаў у крэсла. Яго прысутнасці на многіх мерапрыемствах замяніць нікім іншым было нельга. Па гэтай прычыне мы часта спрачаліся (матывацыя яго моўным дэфектам была мала пераканаўча), але доўга на сябе не злосціліся.

У Рэдакцыі існавала імі пакліканая рэдкалегія «Нівы», якая не дзейнічала. Самавольнае кваліфікаванне матэрыялаў да друку і іх выцэньванне мела рысы суб ´ектыўнасці. Вялізарныя апрацоўкі змяшчаліся, а на іншыя не хапала месца. Журналісты скардзіліся на гэта, трэба было гаварыць з рэдактарам, а ён злаваўся.

Г. Валкавыцкі лічыў, што БГКТ празмерна ўмешваецца ў справы рэдакцыі. Было сапраўды так у прынцыповых пытаннях. Але ўсе бягучыя клапатлівыя справы рэдакцыя ўладкоўвала самастойна. Эфектам супольных намаганняў ёсць усім вядомы тыднёвік. Роля Г. Валкавыцкага ў ім аграмадная. Чытачы самі змогуць выпрацаваць аб «Ніве» адпаведную ацэнку. Пачытнасць яе папулярызавала ў асноўным БГКТ. Звыш 6 тысячны тыраж быў дасягненнем. На чытальніцкі рынак БССР увайсці мы не маглі.

Заўвагі хачу прадоўжыць пасля чытання «Віраў», аўтарства Г. Валкавыцкага. Да заканчэння сваёй апрацоўкі знаёміцца з імі не хацеў. Ахапіла мяне здзіўленне цэласцю нататак рэдактара, але аднесці хачу толькі да 60-х гадоў і толькі ў Беларускім календары, як своеасаблівы рэванш.

Майго прыходу да БГКТ аўтар нават не заўважыў тры гады, а самавыбельванне правёў на больш аўтарытэтных асобах — старшынях ГП У. Станкевічу і Л. Бялецкай. Мімаходам прозвішча ўспамянуў пад 1961 годам як суправаджаючага старшыню, пад 1962 годам — у навагодняй батлейцы «Ніва» і пасля «дурнога зеарту» аб высокіх узнагародах для аматарскіх калектываў. Далей таксама няма пазітыўных водгукаў аб працы. Усе дасягненні БГКТ у 60-х гадах азначае займеннікам «мы» і слушна. Але ў маі гады аўтар не быў вельмі ахвярным дзеячам, як гэта атрымалася ў «Вірах». Моцна хвалюе мяне суб ´ектыўная ацэнка іншых. Адмоўна ацэньвае



працу ўсіх дзеячоў, якія неасцярожна абаперліся аб крэсла рэдактара. Кожнай дробнай з ´яве на лініі БГКТ — «Ніва» прыдае рысы канфліктнасці. На стар. 64 піша: старшыня У. Станкевіч ідзе на II с ´езд літаб ´яднання ў суправаджэнні мяне і Л. Бялецкай, каб забраць з Рэдакцыі «Ніва» успамянутае згуртаванне . Я заўсёды ўдзельнічаў у такіх мерапрыемствах, Л. Бялецкая, як кандыдатка на становішча старшыні ГП, хацела паказацца удзельнікам з ´езду, а становішча перанясення гэтага слабенькага яшчэ гурту ў памяшканне ГП было ўзгоднена раней. Таварыства мела невялікія фінансавыя сродкі на выданне літаратурных твораў і арганізаванне аўтарскіх сустрэч. Адзінай кандыдатурай на старшыню быў А. Барскі, а «Літаратурная старонка» і ўсе індывідуальныя кансультацыі заставаліся пры Рэдакцыі «Ніва».

Адкуль у аўтара «Віраў» столькі горычы: «праглынуў горкую пілюлю»... «адсюль пачаліся бязглуздыя памаўленні» і ідзе авансам асабліва на Бялецкую, прыводзячы выдуманыя факты, як прыдзірчывасць да яго, рэдакцыі і кіраўніка хору М. Ануфрыева, увядзенне п ´янства на пасяджэннях (праз старую, хворую жанчыну), дыктатарства ў працы і іншыя абражаючыя годнасць жанчыны пляткарствы. Адыйшла Л. Бялецкая, выбралі грамадскага старшыню М. Дзямяновіча і той перад IV з ´ездам вырашыў адыйсці. На мне ляжалі ўсе абавязкі арганізацыі. Было цяжка рэалізаваць іх, дапамагаў ахвярна журналіст «Нівы» Міхась Хмялеўскі, якому запрапанавана становішча грамадскага старшыні ГП БГКТ. Мела на ўвазе дзейнасць, а не абмяжоўванне абсалютызму Валкавыцкага. «Хіба» прадбачваючы такія абставіны, аўтар «Віраў» (стар. 75) дайшоў у ВК ПАРП да самога А. Лашэвіча, каб адкінуць кандыдатуру, але не ўдалося.

На той жа старонцы гаворыцца аб будаванні мне, як сакратару ГП аўтарытэту праз бюро партыйнай арганізацыі, на якую рэдактар быў запрошаны, а я не тут, «прапанавалі яму мір». Аўтарытэту я страціў, не прасіў аб яго будаванні, нікому не аб ´яўляў вайны — быў праўда не прысутны. Праз месяц Вера Валкавыцкая на старонках «Ніва» заатакавала БГКТ, можа, дзеля таго ж аўтарытэту? Ініцыятарам не быў, але згадзіўся ў гэтай справе пайсці групай да надзаруючага тыднёвік сакратара ВК В. Мікульскага, першы і апошні раз. Не дабіліся нічога. Пачатак новай кадэцыі, гады росквіту працы таварыства адсоўвалі на маргінальны план нейкія канфлікты. У «Вірах» прадстаўлены яны штучна.

Усяму вінаватае пленарнае пасяджэнне ГП 1963 года, прысвечанае ацэнцы «Нівы», на якое я меў няшчасце падрыхтаваць даклад, згодна з рашэннем прэзідыўму ГП. Крытычныя заўвагі Г. Валкавыцкі ўспрыймаў са зразуменнем, але дыскусія завастрылася. Створаная камісія запрапанавала адклікаць Г. Валкавыцкага са становішча галоўнага рэдактара. Ніхто раней такіх абставін не разважаў. Гэтую адказную функцыю запрапанавана мне (вось у гэтым усё няшчасце), але я адмовіўся. Лічыў, што пленум ГП праз такое рашэнне заб ´е цяжкі клін паміж БГКТ і Аддзелам прапаганды ВК ППРП, і працаваць будзе немагчыма.

Ніякай падрыхтоўкі супроць Рэдакцыі «Ніва» не было, тым больш напускання «варшаўскай моцнай групы», якая ў адносінах да мяне вялася вельмі незележна. Можна меркаваць, што варшаўскія члены ГП зрабілі Г. Валкавыцкаму рэванш за безсэнсоўныя яго закіды ў адрас актыву на пленум (28.V.1960 г.).

Дбайнасць рэдактара «Ніва» пра сакратара здзіўляючая, асабліва ў «Вірах». На пачатку 1966 года перад V з ´ездам БГКТ я станоўча вырашыў адысці з дагэтуляшняй працы. Прычыны прыводзяцца ў іншым раздзеле апрацавання «Адыход з працы». Адкуль Г. Валкавыцкаму вядома, што ўлады на адыход далі «дабро», што Констанчук склікаў партсход дзеля «угаварэння Юзвюка» яшчэ астацца і што сакратар партарганізацыі паслаў апамятаўшыся пратэст «з копіяй у ЦК» — немагчыма дадумацца. Хіба сам Зайчык — арганізатар быў інспірантам.

Мяне сапраўды паклікалі на партсход, у прысутнасці кіраўніка Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП У. Канстанчука, які прыслухоўваўся дыскусіі. Крытыкантаў дзейнасці БГКТ з Рэдакцыі «Ніва» было многа, выказванні падрыхтаваныя, а з БГКТ — нікога, я таксама вёў сябе пасіўна. Ніхто не лічыў на «угаварэнне» мяне астацца на чарговую кадэцыю таму, што на сходзе быў прысутны працаўнік «Ніва» — кандыдат на Сакратара ГП, якога кандыдатуру уступна я таксама падтрымліваў. Аб гэтым Г. Валкавыцкі ў «Вірах» забыўся. Аднак У. Канстанчук выйшаў з пасяджэння не задаволены, спытаў толькі, ці я падтрымліваю рашэнне аб адыходзе з БГКТ.

Мае «апаненты» перагнулі ў крытыцы і прайгралі. Хутка быў я папрошаны да першага сакратара ВК ПАРП А. Лашэвіча на гутарку, аб чым ужо ўспамінаў у апрацаванні раней і там змяніў рашэнне. Са становішчам гэтага сакратара трэба было лічыцца. Не ведаў аб пісанні праз сакратара партарганізацыі скаргі, рыхтаванні на V з ´езд БГКТ дзесяці ці нават больш апанентаў маёй кандыдатуры. Не адчуў напружанасці на з ´ездзе, хацеў адысці, не змог. Аляксандр Баршчэўскі пасля выбараў выказаўся коратка і праўдзіва: «Валодзя, іншага не было, цягні далей». Падаць на калені не збіраўся, працаваў як мог, але дапамога Рэдакцыі «Ніва» была ніякая.

Мне не зразумела, чаму аўтар «Віраў» лічыць, што эстрада «Лявоніха» адспявала, чаму ў падраздзеле 1969 года выдзеліў ірытуючы назоў «Наш музейны міф» Рэдактару «Нівы», магчыма ён быў міфам, але для БГКТ — рэальнасцю. Сабрана каля 100 экспанатаў, з іх арганізавана ў тымчасовым памяшканні экспазіцыю, якую на працягу шасці гадоў наведвала звыш 50 тысяч турыстаў. Якія цудоўныя запісы аставілі яны ў кніжцы. У Беларускім каляндары 1972 г. стар. 38 Г. Валкавыцкі змясціў зусім не міф-ацэнку музея, а ў «Вірах» замарыў, каб на плошчы 100 квадратных метраў мы стварылі Зімні Дварэц.

Зусім памыліліся аўтару гады агоніі музея на цэлых пяць гадоў. Піша ён, што ўжо час першае зімы яго існавання «многія экспанаты згнілі». Гэтае гніллё ў 1972 годзе ахвотна прынялі іншыя музеі. А пасля 25-ці год мы пачалі ізноў дамагацца іх звароту. Выявіўся



чарговы ў змове супроць музея, ці толькі хацеў прымагаць добрыя ўспаміны. Вядома было ўсім, што ўмовы былі дрэнныя, вяліся пошукі іх паляпшэння. Але гаманя аб гніцці экспанатаў мела служыць прэтэкстам да ліквідацыі музея, аб чым аўтар павінен памятаць.

Не будзе памылкай заўвага аб празмерным інтрыганцтве «Віраў», чаго я так моцна не адчуваў у Г. Валкавыцкім. Аб таварыстве «нататкі рэдактара» вяліся толькі на «не». Выступаючы на пленумах у справах працы гурткоў, «Нівы», аматарскага руху, навучання беларускай мове, рэалізацыі пастаноў з ´ездаў ці прэзідыўма ГП, аб дасягненнях гаварыў я мала, яны знаходзяцца ў гадавых справаздачах з працы, але аб недахопах заўсёды значна шырэй. Прасіў дзеячоў уключацца ў іх рэалізацыю. Наіўнасцю аўтара, а можа яго інтрыганцтвам ёсць дагледзевацца, у іх упадкаў ці ўзлётаў дзейнасці БГКТ. Ацэнку гэтых з ´яў зробяць без нас іншыя.

Я збянтэжыўся, прачытаўшы на стар. 45 «Віраў», што ў 1958 годзе прапанаваў моладзі «замест рок-н-роля вывучаць «Крыжачок» і «Каробачку». Сягнуў да артыкулу. У ім гаворыцца, што моладзь безкрытычна ўспрыймае чужую культуру, моды, танцы, песні, але не бачу ў гэтым нічога дрэннага. Новае для моладзі цікавае, супрадзейнічаць такой плыні няма патрэбы. Трэба ўзбагачаць яе, на вечарынах вывучаць забытыя танцы «Крыжачок» ці «Каробачка», аднолькава добра навучыць карыстацца беларускай мовай як роднай і польскай як агульнадзяржаўнай, выхоўваць свядомых беларусаўінтэрнацыяналістаў. Не ўспамянуў нават рок-н-роля. Сучасны «Вірам» чытач, не ведаючы арыгіналу, падумае, што за абмежаванасць 30-х гадоў.

Зараз моладзь ўжо танцаў вальса і полькі не адрозніць. У адносінах да мовы таксама нічога не змянілася на лепшае. Неўчцівая дэфармацыя зместу артыкула.

Іншыя ўдзельнікі бурлівай дыскусіі аб моладзі знаходзяць таксама шмат хібаў ў інтэрпрытацыі думак.

У 1987 годзе зрабіў я апытальнік аб «Ніве» — адзіны ў яе гісторыі а аналізу матэрыялаў на пленум ГП. Аўтар «Віраў» прозвішча не аднатаваў, але з горыччу выказаўся: «Значыць засвярбелі гіпісцкія рукі». Вось так успрыймаў заўвагі чытачоў свайго часопісу і дзякаваў нам за працу. Навошта згадзіўся апублікаваць матэрыялы ў «Ніве» — нельга дадумацца.

Ва ўсім творы выступаюць у адносінах да БГКТ здагадкі, памоўленні, дробязныя факты тыпу: «сакратар ВК сказаў..., недзе выпілі,.. паругаліся са Станкевічам... за марную ўзнагароду на банкеце і гэтак далей». Спалучэнне іх з самавыбельваннем знеахвочвае чытаць выданне. Празмерна ўжо многа ў ім дрэннага аб іншых і даволі мала нататак аб рэдакцыі і аб сабе. Кароткія заўвагі можна рэкапітуляваць адным сказам: калі Рэдакцыя «Нівы» дзейнічала ў атмасферы віраў, то БГКТ знаходзілася ў цэнтры цыклона. Прааналізаваў я яшчэ раз свае адносіны да ўспамянутай рэдакцыі і не знайшоў неабходнасці прасіць яе працаўнікоў прабачэння.

**Уладзімір Юзвюк**



*Жаночая група хора Гайнаўскага Дома культуры.*
*Фота Янкі Целушэцкага*



*Хор з Гайнаўкі*



# ПАНАРАМА ГОРАДА І ГМІНЫ ГАЙНАЎКА

**(першая частка)**

На фармаванне сучаснага рэльефа Гайнаўскай гміны найбольшае ўздзеянне аказалі два апошнія абледзяненні і праца вады з таючых леднікоў. Пры бурэнні ў Гайнаўцы марэна максімальнага абледзяненння была сустрэча на глыбіні аж 71 метра. Наогул рэльеф не стварае перашкод развіццю сельскай гаспадаркі любога напрамку.

На тэрыторыі гміны рэдка сустракаюцца месцанараджэнні карысных выкапняў. Зямныя нетры гміны вывучаны слаба і немагчыма рабіць канчатковых вывадаў аб іх багацці. Геолагі выказалі думку, што пад бітумінознымі глінамі могуць залягаць бурыя вуглі, лінзы солі, а пад іх купаламі магчыма нават нафта. У 1953 годзе пры даследванні грунтаў пад пабудову чыгуначнага маста на поўдзень ад Гайнаўкі былі сустрэты невялікай таўшчыні пласты бурага вугалю. Адным з мініральных багаццяў Гайнаўскай гміны з´яўляюцца гліны. Сустракаюцца розныя іх віды. Найчасцей нам вядомы толькі тыя залежы гліны, якія знаходзяцца на паверхні зямлі, або тыя, якія былі выпадкова адкрыты насельніцтвам ці пошуківаьнікамі, занятымі іншымі працамі.

Гліны сустракаюцца каля Гайнаўкі (плошча — 5 гектараў), Прагалёў (2 га), цяжкія суглінкі каля Дубіч. Асочных (3—5 га) і Дубін (5 га), а таксама гліны з валунамі каля Новага Беразова (10 га).

Высокаякасныя жвіры выступаюць каля Дубін (3 га), Навасадаў (4 га) і Новага Беразова (5 га). Іх таўшчыня — ад 2 да 3 метраў. Спомненыя месцанараджэнні жвіроў па крысе выкарыстоўваецца.

Каштоўным багаццем гміны з´яўляецца торф. Вядомыя тарфянікі ёсць каля вёсак: Арэшкава (6 км ад Гайнаўкі), Дубін і Тапаркоў. Займаюць яны плошчу ў 350 гектараў. Таўшчыня месцанараджэнняў гэтага карыснага выкапня — ад 1 да 2-х метраў. Запасы торфу, як прадбачваецца, каля 5 мільёнаў кубаметраў. Тарфянікі могуць эксплуатавацца мясцовым насельніцтвам і выкарыстоўвацца не толькі як таннае топліва, але і ў якасці ўгнаення на палі або падсцілкі для жывёлы. Жыхары некаторых вёсак да 1-ай сусветнай вайны капалі добраперагніўшы торф і вывозілі яго на палі. Гэтым самым яны павялічвалі ўраджайнасць глебы. У сучасны момант сяляне зноў пачынаюць цікавіцца здабычай торфу.

З іншых мінеральных выкапняў неабходна адзначыць пяскі: звычайныя жоўтыя, шэрыя ці белыя пяскі сустракаюцца амаль усюды і выкарыстоўваюцца насельніцтвам як дапаможны матэрыял пры пабудове дарог.

Гайнаўская гміна знаходзіцца ў паласе ўмеркаванага клімату. У 1953 годзе ў ліпені ў Гайнаўцы зазначана максімальная тэмпература + 38°С, а ў 1956 годзе ў студзені — — 40°С. Вегетацыйны перыяд

прадаўжаецца каля 7 месяцаў, пачынаючы з другой палавіны красавіка. У пачатку і ў канцы вегетацыйнага перыяду магчыма замаразкі, якія аказваюць адмоўны ўплыў на рост многіх сельскагаспадарчых культур. Ападкаў ад 383 да 675 мм у год. Такой колькасці іх хапае для росту ўсіх асноўных сельскагаспадарчых культур.

Найбольш сонечных дзён адзначаецца ў чэрвені. Дамінуючымі вятрамі з'яўляюцца вятры заходняга напрамку. Яны прыносяць найбольш ападкаў, уздзейнічаюць павышэнню тэмпературы ў халодны перыяд і яе паніжэнню ў цёплы перыяд года.

Наогул, клімат Гайнаўскай гміны спрыяе развіццю сельскай гаспадаркі.

* * *

На тэрыторыі Гайнаўскай гміны сустракаюцца розныя тыпы глебаў, якія фарміраваліся ва ўмеркаваным клімаце нашай геаграфічнай паласы. Найчасцей падсцілаючымі пародамі з'яўляюцца марэнныя гліны, суглінкі і сартаваныя пяскі. Сфарміраваныя на глінах і суглінках глебы займаюць усю заходне-цэнтральную частку гміны. Асаблівай разнастайнасцю адзначаюцца глебы ля Дубін. На плошчы ў некалькі гектараў сустракаюцца моцна, сярэдне і слабападзолістыя глебы дзярнавога тыпу і інш.

* * *

Прыступаючы да характарыстыкі расліннасці Гайнаўскай гміны, неабходна падзяліць яе тэрыторыю на дзве часткі: усходнюю, пакрытую скрозь лясамі, і заходнюю, занятую пад культурнай расліннасцю з захаваўшыміся невялікімі астраўкамі лясоў і лугоў.

З пункту гледжання фларыстычнага багацця, большую цікавасць прадстаўляе, несумненна, усходняя частка — Белавежская пушча. Яна выдзелілася ў лясны масіў вельмі даўно.

Паходжанне назвы пушчы канчаткова не выяснена. Адны лічаць, што яе ўзялі ад «Белай вежы» — замка, пабудаванага Гедымінам, іншыя — што ад вежы палаца князя Ул. Валынскага, а можа нават ад назвы першай вёскі ў пушчы — Белавежы.

Неабходна адзначыць, што на гаспадарку горада і гміны Гайнаўка вялікае ўздзеянне заўсёды аказвала Белавежская пушча. Шмат тут лясных рабочых і тых, якія займаюцца ў дрэваапрацоўчай прамысловасці. Сама Гайнаўка таксама вырасла з пушчы. Нягледзячы на былое знішчэнне (асабліва за перыяд улады буржуазна-памешчыцкай Польшчы), Белавежская пушча ўсё ж з'яўляецца найлепшым захаваным лясным масівам на нізіннай часцы заходняй Еўропы. З дрэў пераважаючай пароды з'яўляецца сасна, на долю якой прыпадае 51 прац. агульнага дрэвастою. Наступныя месцы займаюць: ёлка — 16 прац., чорная альха — 14 прац., дуб і граб — па 5 прац., ясень і бяроза — па 3 прац.

* * *

У нацыянальных адносінах насельніцтва Гайнаўкі і навакольных вёсак неаднароднае. На яго нацыянальны склад аказала ўздзеянне геаграфічнае палажэнне тэрыторыі і своеасаблівыя гістарычна-эканамічныя ўмовы. Усе ўрады праводзілі палітыку каланізацыі, абмяжоўваючы нацыянальныя свабоды мясцовага насельніцтва.



Значна большую стракатасць у нацыянальных адносінах складае насельніцтва самой Гайнаўкі. Бурнае развіццё дрэваапрацоўчай прамысловасці і патрэбы рабочых рук сцягнулі сюды беспрацоўных з усёй даваеннай Польшчы. Тут аказаліся палякі, украінцы, літоўцы, рускія, яўрэі. Па прыблізным данным даведніка па Беластоцкаму ваяводству М. Арловіча за 1937 год у Гайнаўцы жыло 75% палякаў і 22 % беларусаў. Апошнія дзесяцігоддзі ўнеслі ў нацыянальны склад горада змены. Многія прыехаўшыя рабочыя ў сувязі з разбурэннем прамысловых прадпрыемстваў пад час акупацыі прымушаны былі пакінуць Гайнаўку і шукаць сабе працы ў іншых раёнах Польшчы. (У 1945 годзе Гайнаўка мела каля 7000 насельніцтва). Таму ў сучасны момант палякі складаюць 30%, а беларусы каля 70% насельніцтва. Жыхароў іншых нацыянальнасцей амаль няма.

У 1958 годзе ў Гайнаўцы жыло 11 825 чалавек, у 1960 г.— 12 260, у 1965 г.— 13 500, у 1992 г.— 24 600 асоб. У Гайнаўскай гміне ў 1992 г. пражывала 5310 чалавек.

* * *

Расце ўверх Музей помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы. Для беларусаў, якія ад стагоддзяў жывуць на гэтай тэрыторыі, а таксама для ўсяго грамадства будзе гэта важная культурная ўстанова. У ёй прадбачваецца некалькі выставачных залаў, склады экспанатаў, кансерватарскія лабараторыі, фоталабараторыі. У памяшканнях, прызначаных на культурна-сацыяльныя мэты, будзе канферэнцыйны зал з кінаперасовачнай апаратурай на 150—200 чалавек, бібліятэка і чытальня, бар з кавярняй, а таксама камфартабельна абсталяваныя начлежныя пакоі.

Каля 30% панесеных коштаў было перададзена з фондаў дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў. Кожная форма дапамогі сустракаецца з удзячнасцю. Справай пабудовы музея цікавяцца грамадзяне і грамадска-культурныя арганізацыі Рэспублікі Беларусь. З сабраных узносаў купілі і перадалі як падарунак будаўнічыя матэрыялы і абсталяванне музейных залаў. Ёсць многа ахвяравальнікаў с доларавай зоны, асабліва са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Вялікай Брытаніі, Бельгіі і Аўстраліі.

Беларускі музей будзе мець 2700 квадратных метраў ужытковай плошчы. Гэта адна з найбольшых культурных устаноў у Польшчы. Ужо ў музеі можна паглядзець некалькі экспазіцый этнаграфічных экспанатаў.

* * *

10 і 11 кастрычніка 1992 года закончылася пабудова і адбылося асвяшчэнне, распачатай у 1973 годзе, вельмі прыгожай царквы Святога Мікалая ў Гайнаўцы. Аўтарам праекту сабора быў прафесар архітэктуры Аляксандр Грыгоравіч з Познаньскай палітэхнікі. Ён таксама запраектаваў два іканастасы і галоўны жырандоль з вітражамі (Крыж тысячагоддзя хрышчэння Русі). У саборы тры алтары.

Арыгінальная архітэктурная форма здалёк прыцягвае зрок. Сабор служыць для 12 тысяч вернікаў. Варта адзначыць, што ў пабудове яго дапамагала Сусветная рада касцёлаў.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Паліхромію выканаў Дымітрос Андонапулёс — грэк па паходжанню з Атэнаў. Іконы малявалі маскоўскія і балгарскія мастакі-іканаграфы.

Больш дзесяці гадоў у гайнаўскім саборы адбываюцца фестывалі царкоўнай музыкі. У найпрыгажэйшым месяцы вясны — маі.

У кастрычніку 1992 года галоўная парафія святкавала 50-годдзе свайго існавання. Парафіяльным святаром з´яўляецца Антон Дзевятоўскі.

* * *

У Гайнаўцы вялікім поспехам сярод школьнай моладзі карыстаецца Беларускі ліцэй. У 1992/93 навучальным годзе былі адкрыты тры паралельныя першыя класы. Упершыню класы гэтыя будуць прафіляванымі: агульны, матэматычна-фізічны і экалагічны. Пра ўвядзенне экалагічнага профілю вырашыла між іншым геаграфічнае палажэнне — на ўскраіне Белавежскай пушчы. Выпускнікі маглі б стаць праваднікамі па пушчы нават для замежных экскурсій.

«Настаўнікі беларускага ліцэя,— сказаў дырэктар Яўген Сачко,— робяць усё, каб як найлепш падрыхтаваць вучняў да матуры і, пазней, да ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы».

У палове чэрвеня 1992 года пачалася пабудова новага будынка беларускага ліцэя. Будуюць яго на школьным плацы, побач старога ліцэя. Бельскае будаўнічае прадпрыемства намерваецца перадаць школу ў карыстанне 1 верасня 1993 года.

Новы ліцэй будзе трохпавярховым будынкам з ужытковым падвалам (у ім будуць размешчаны раздзявальні, кухня, склады). На першым паверсе будуць памяшканні адміністрацыі і бібліятэка, а на двух апошніх — школьныя залы. Прадбачваецца, што ў школе будзе шаснаццаць аддзелаў, гэта значыць чатыры класы з чатырма паралельнымі падраздзяленнямі ў кожным. Будзе пабудавана таксама фізкультурная зала.

* * *

У Гайнаўскай гміне існуе пяць падставовых школ: у Дубінах, Арэшкаве, Новым Беразове, Новым Корніне і Махнатым.

У пачатку навучальнага года 1992/93 наведалі мы школы ў Дубінах і Арэшкаве. Дубінская мае пачатковыя класы ў Навасадах (І — ІІІ) і ў Барысаўцы (І — ІІІ кл.). У гэтай васьмігодцы вучыцца 190 дзяцей. На ўроках беларускай мовы займаецца 90% усіх вучняў — паінфармавала дырэктар Ніна Валкавыцкая.

Перад пачаткам новага навучальнага года — у летнія месяцы — адрамантавалі і памалявалі класныя залы. Пахнуць яны свежай фарбай.

Зараз у пятых і шостых класах вывучаюць нямецкую мову. Урокі вядзе настаўніца з Гайнаўкі — Яўгенія Карвоўская.

Вучні запланавалі экскурсію на Семяноўскае водасховішча, большае ад вядомага ў Польшчы возера Вігры, і на керамічную фабрыку ў недалёкім Старым Ляўкове, што ў суседняй Нараўчанскай гміне.



У васьмі класах у школе ў Арэшкаве вучыцца 114 дзяцей. Ходзяць яны сюды аж з адзінаццаці вёсак. Тут працуе 11 настаўнікаў. Беларускай мове вучаць Ірэна Герасімюк, Валянціна Касцевіч, Аляксей Мароз. Родную мову вывучаюць 90% усіх школьнікаў.

— Сёлета перад пачаткам навучальнага года ў нашай школе адрамантавалі дах і змянілі на новыя водастокавыя трубы, адзін класны зал ды ўмывальню,— сказала дырэктар Тамара Крайнік.— Калі толькі стала халадней, мы пачалі акцыю «Шклянка гарачага малака для кожнага вучня». Так як гэта было і ў папярэднія гады.

Вучні самі даглядаюць кветкі на школьных калідорах, дбаюць пра чысціню і парадак у класах, дзяжураць у раздзявальні, арганізоўваюць дыскатэкі.

У канцы верасня вучні старэйшых класаў і настаўнікі ўдзельнічалі ў веласіпедным рэйдзе па Белавежскай пушчы. Паехалі праз вёску Лазіцы, а затрымаліся ў Тапіле. Тут пад векавымі дрэвамі спявалі песні ля кастра ды падсілкоўваліся падсмажанымі на агні каўбаскамі. Усе згодна сцвердзілі, што рэйд быў удалы.

Вучні запланавалі, што яшчэ ў восень паедуць аўтокарам на спектакль у лялечны тэатр у Беластоку. Калі ім дазволіць на гэта час, яны наведаюць рэдакцыю «Нівы» і «Зоркі».

Варта дадаць, што ў 1992 годзе ва ўсіх школах ў Гайнаўскай гміне меў аўтарскія сустрэчы член Беларускага літаратурнага аб´яднання «Белавежа» — Янка Целушэцкі. У школах у Новым Корніне і Махнатым — супольна з вядомым паэтам, між іншым аўтарам шматлікіх кніжак для дзяцей Віктарам Шведам.

Добрыя памяшкальныя ўмовы мае Гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы. Ва ўсіх пакойчыках прыемна і ўтульна. Мабыць таму, што працуюць тут жанчыны. Бібліятэка мае два кампутэры, якія вельмі аблягчаюць працу бібліятэкаршам. У бібліятэцы ажно 70-тысячны кнігазбор. Тут ёсць таксама дзве чытальні: для дарослых і дзяцей.

Гайнаўская гмінная бібліятэка знаходзіцца ў Дубінах, а яе філіял — у Арэшкаве. Дзейнічаюць два бібліятэчныя пункты ў Барысаўцы і Васількаве. Чытачы карыстаюцца 16 тысячамі тамоў. Кніжак на беларускай і рускай мове вельмі мала — усяго чатырыста. Усіх чытачоў тут 370. Дарослыя ахвотна чытаюць сенсацыйныя кніжкі, ваенныя, гістарычныя, псіхалагічныя, а таксама аповесці пра любоўную сувязь.

Моладзь і дзеці зачытваюцца ў фантастычных і прыгодніцкіх кніжках, бяруць папулярна-навуковыя, гістарычныя, а таксама бытавыя раманы.

У 1992 годзе гмінная бібліятэка купіла 150 новых кніжак. У ёй адбываліся вечарыны казак для дзяцей, згадуй-згадулі, чытальніцкія конкурсы. Актыўна працуе гурток сяброў бібліятэкі. Аўтарскія сустрэчы мелі беларуская пісьменніца з Беласточчыны, члены Беларускага літаратурнага аб´яднання «Белавежа». Карысталіся яны вялікім зацікаўленнем у чытачоў.

 

У 1992 годзе ў гміне адрамантавалі шматлікія адрэзкі выбоістых дарог, між іншым паклалі асфальтаванае палатно на звыш кіламетровым адрэзку вуліцы ў Дубічах Асочных ды выраўнялі гравейку ад шашы з Гайнаўкі ў Бельск да вёскі Выгода. Дачакаліся рамонту дарогі з Арэшкава ў напрамку Сасноўкі і з Арэшкава ў Выган — абодва паўтаракіламетровыя адрэзкі. Зараз бяспечна ехаць па роўнай дарозе з Дубічаў Асочных у Хітру — паінфармавала войт Вольга Рыгаровіч.— У 1993 годзе будзе асфальт на дагэтуляшнім старым бруку ў Чыжыках.

Сёлета аддалі ў карыстанне святліцу ў Пасечніках Вялікіх (пры ёй пасадзілі дэкаратыўныя дрэўцы) і вясковы дом культуры ў Махнатым, выканалі капітальныя рамонты ў Гмінным асяродку культуры ў Дубінах і ў святліцы ў Старым Беразове.

Адрамантавалі ўсе пашкоджаныя пачакальні на аўтобусных прыпынках ПКС. У іх былі пабіты сцены з тоўстага шкла.

Зараз ідзе пабудова водаправодаў у Новым Беразове, Чыжыках, Травежы і ў Новым Корніне. У 1993 годзе ваду з крана будуць мець жыхары Дубічаў Асочных, Хітрай, Пуціскаў, Катоўкі, Барка. Яшчэ на год пазней дачакаюцца гэтай выгоды ў доме і ў аборы сяляне з Дубін, Ліпін, Навасадаў.

(Працяг будзе.)

**Янка Целушэцкі**

## Надзея Артымовіч

Каляровыя вопраткі разрываюць
паветра,
механічныя сэрцы паўтараюць
свой цырк,
на ўраджайнай глебе спакойна
родзяцца прадбачванні
(апрача пагрозы).
Горад цудоўны, пасолены глухатой,
у безупыннай продажы смех
і захапленне,
тыя ж самыя маршруты для ўсіх
ад першых
да апошніх дзвярэй.
Штучнае святло калышацца
пад музыку глухаты,
пад моцным лозунгам
усё моднае жыццё.
Смерці — розныя.



 




*Фота Янкі Целушэцкага*



*Калектыў з Дабрывады* *Фота Янкі Целушэцкага*



**Алена Яскевіч**
**(Менск)**

# ПРАПУШЧАНАЯ СТАРОНКА Ў СКАРЫНАЗНАЎСТВЕ

Праваслаўная аснова дзейнасці Францыска Скарыны, зыходна славянскі стрыжань Адраджэння ў пару беларускага «залатога веку» выглядаюць зусім незразумелымі ў святле каталіцка-пратэстанцкіх інтэрпрытацый спадчыны нашага асветніка.

Нягледзячы на дасягненні, ужо відавочна, што ў рашэнні паасобных пытанняў скарыназнаўчая думка не выйшла яшчэ са стану гіпотэз. Сцверджанне Л. М. Шакуна аб тым, што мова Скарыны выглядае даволі архаічнай для пачатку XVI стагоддзя: у ёй шмат славянізмаў і наогул розных старажытных рыс, не тыповых для іншых жанраў тагачаснай беларускай літаратуры[1], уяўляецца ледзь не алагізмам, бо ў скарыназнаўстве ўсталяваўся трывалы стэрэатып, паводле якога мэтай выданняў нашага славутага дзеяча было даць Боскае слова на простай, зразумелай народу мове. Але ўважлівей прыгледзімся, што піша сам Ф. Скарыны пра гэта, у прыватнасці, у «Предъсловии в Псалтирь»: «пов лел есми Псалтырю тиснути рускыми словами, а словенским языком... к пожитку посполитого доброго, наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил»[2].

Са свайго боку, даследчыцкая думка не павінна ігнараваць той факт, што, без распрацоўкі высакаўрачыстага стылю з апорай на якуюсьці развітую літургічную традыцыю, для кананічнага паслядоўнага ў праваслаўным веравызнанні Ф. Скарыны, аб чым ён лічыць неабходным засведчыць у кожнай сваёй прадмове ці пасляслоўі, прынцып перакладу на простую нацыянальную мову, які выбралі М. Лютар, Ж. Кальвін, Я. Гус, не быў прыймальны, пагражаў рызыкоўным спрашчэннем высокіх ісцін Святога Пісання.

А між тым гэтую адметнасць перакладу Скарыны добра ўяўлялі сабе старыя скарыназнаўцы. У прыватнасці, вядомы багаслоў і царкоўны пісьменнік XVIII ст., рэктар Славяна-грэка-лацінскай акадэміі, епіскап Дамаскін знаходзіў выданні нашага земляка «у многіх месцах больш дакладнымі, пераканаўчымі і нават у параўнанні з елізавецінскай царкоўнаславянскай Біблііяй.»[3]

Даследчыкі ў выданнях Ф. Скарыны даўно спыняюцца перад загадкай — глыбокай біблеістычнай культурай перакладу і заснаванасцю Скарынавай мовы на якойсьці асабліва старажытнай славянскай традыцыі.

[1] Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1984. С. 128.

[2] Францыск Скарына. Творы. Мінск, 1980. С. 18.

[3] Гл.: Горожанский Я. Дамаскин Семенов-Руднев, епископ Нижегородский (1737—1795): Его жизнь и труды. Киев, 1864; Дамаскин, еп. (Семенов-Руднев). Библиотека российская, или сведения о всех книгах в России с начала типографии на свет вышедших. Спб., 1881. С. 15—16.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

«Запіскі аб Маскоўскай вайне» польскага дыпламата Рейгольда Гейдэштэйна (1556 — 1620) даносяць да нас надзвычай паказальныя факты, якія сведчаць аб тым, што праваслаўе Вялікага княства Літоўскага ў тую пару станавілася асабліва жывой пераемніцай патрыятычнай традыцыі.

Паводле ўспамінаў Гейдэнштэйна, у час асады і ўзяцця Полацка ў жніўні 1579 г. наёмнікі і жаўнеры трызнілі авалоданнем незвычайнымі багаццямі, золатам, срэбрам, а знайшлі іншае, у вачах адукаванага чалавека яшчэ большыя скарбы: у бібліятэцы «акрамя рукапісаў было шмат сачыненняў грэчаскіх айцоў царквы, і паміж імі сачыненні Дзіянісія Арэапагіта аб нябеснай і царкоўнай іерархіі, усе на славянскай мове. Большая частка іх, па сведчанню летапісаў, была перакладзена на гэтую мову з грэчаскай Мяфодзіем і Канстанцінам».[1]

Шляхі, праз якія Скарына мог далучыцца да скарбніц патрыстыкі, былі розныя. Заслугоўвае ўвагі меркаванне Я. Л. Неміроўскага[2] пра першага настаўніка Ф. Скарыны, які мог далучыць вучня да багатай усходне-славянскай артадоксіі, кніжка і майстра стварэння кнігі, Аляксея (у схіме Арсенія). Даследчыкі лічаць, што Аляксей перапісаў і ўклаў звыш шасці кніг: 1460—1470 гг.— дыдактычна-навучальны зборнік «Залатаструй» у 46 «словах», аўтарства якога традыцыйна прысваівалася Іаану Златавусту; канец XV — пач. XVI ст.ст.— Талковая Палея; Посны і Цвятны Златавуст і кніга пра стварэнне свету Шасціднеў царкоўнага пісьменніка Севярына Гальскага; Пралог, 1530 г.— Лествіцу Іаана Лествічніка.

Чым жа тлумачыцца надзвычайнае багацце твораў айцоў усходняй царквы ў Княстве, дзе праваслаўная большасць спрадвеку цярпела ўціск з боку адэптаў каталіцызму і прыхільнікаў уніі?

... Мы неяк прызвычаіліся атаясамліваць Рэнесанс з Італіяй, напэўна, ад няведання, занядбання гісторыі, культуры славян, бо сама ідэя Адраджэння зарадзілася ў XII ст. у Візантыі (значна раней за Італію) як «рэстаўрацыя традыцыйных мадэляў духоўнай і моўнай чысціні»[3].

Увогуле Адраджэнне, як у Славіі, так і ў Італіі і ўсёй Заходняй Еўропе, выклікала з'яўленне ўніверсітэтаў і іншых навучальных устаноў, спрыяла распаўсюджанню вучонасці, зрабіла шырока даступнымі асвету, адукацыю, навуку. І пачалося ўсё з класічнай міфалогіі — як энцыклапедыі ўсіх гуманітарных ведаў.

Зварот да класічнай філалогіі прывёў да перачытвання рэлігійнага канона, выпрацоўкі метадалогіі і філалагічнай крытыкі тэкста, рэдагавання і выпраўлення кніг, росту іх колькасці.

Калі ж мець на ўвазе беларускае (падкрэслім, духоўнае) Адраджэнне, то яго росквіт прыпадае на эпоху другога паўднёваславянскага ўплыву. Час ужо аддаць належнае гэтай выдатнай рэлігійна-культурнай з'яве, асабліва плённай на тэрыторыі Беларусі і іншых праваслаўных землях Вялікага княства Літоўскага.

[1] Bandtkie J. S. Historia drukarń w Królestwie Polskim i Wielkim Xiestwie Litewskim, jako i w krajach zagranicznych, w których polskie dzieła wychodziły. Kraków, 1826. T. 2. S. 257-259; T. 3. S. 164—165.

[2] Немировский Е. Л. Франциск Скорина. Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Минск, 1990. С. 120—121.

[3] Picchio R. On Russian Humanism: The Philological Revival // Slavs. Praha, 1975. Roč. 44. Seš. 2. P. 166.



Другі паўднёва-славянскі ўплыў, эпіцэнтрам якога былі не толькі, як прынята лічыць, Маскоўскае княства, але магчыма, яшчэ ў большай меры землі Вялікага княства Літоўскага, абумоўлены складанымі зрухамі ў праваслаўным свеце, канчатковым вынікам чаго з'явілася вядомае перамяшчэнне рэлігійных цэнтраў.

У канцы XIV стагоддзя пад націскам ваяўнічай Асманскай імперыі палі Балгарыя і Сербія, а ў 1453 годзе ў выніку падману і здрады заходніх хрысціян (т. зв. Ферара-Фларэнційскай уніі) — Канстанцінопаль[1].

У выніку візантыйскія праваслаўныя традыцыі перайшлі да сваіх усходніх пераемнікаў — Кіеўскай і Маскоўскай мітраполіі. У рускай гістарыяграфіі аддадзена належнае гэтай унікальнай гісторыка-рэлігійнай з'яве, дзякуючы якой праваслаўная культура Візантыі не знікла, а атрымала адраджэнне на ўсходнеславянскай глебе. Віднымі прадстаўнікамі гэтай традыцыі былі славуты царкоўны пісьменнік, вучань Сергія Раданежскага (першы аўтар ягонага жыція) Епіфаній Прэмудрый і вядомы багаслоў, старэйшы сучаснік Скарыны, Максім Грэк.

Але гаворачы пра «другі паўднёваславянскі ўплыў» чамусьці забываюць, што праца па адраджэнню і развіццю як духоўных, так і пісьмовых візантыйскіх традыцый была распачата мітрапалітам Кіпрыянам яшчэ ў час яго кіраўніцтва Кіеўскай епархіяй, а толькі значна пазней праз вялікія цяжкасці і перашкоды, праз (святое) заступніцтва Сергія Раданежскага, знайшла свой працяг у Маскові[2].

Носьбітамі другога паўднёваславянскага ўплыву былі прадстаўнікі ісіхазму, якія лічылі, што вянец існавання чалавечай душы — асабістае «абажэнне»[3], узвышэнне чалавека ў сыноўняй любові праз Ісуса Хрыста і Святога Духа да Госпада. Кожны Хрысціянін павінен увесь час унутрана маліцца, а абавязак манахаў навучаць гэтаму міран,

[1] Але як у каталіцкай Еўропе, так і ў праваслаўных краінах, нават прыгнечанай у хуткім часе туркамі Візантыі, унія не прыжылася. Унія была асуджана яе грэхападзенне большасцю святароў, народ убачыў у ёй пакаранне нябеснае. Яна яшчэ больш узмацніла супрацьстаянне хрысціянскіх краін. Унія абвастрыла супярэчнасці і ва ўласна каталіцкім лагеры паміж папай Яўгеніем IV і Бзельскім Саборам, Папствам і «Прагматычнай Санкцыяй» Галіканскай Царквы ў Францыі. Парыж і чуць не хацеў пра унію. Пасля няўдачы з крыжовымі паходамі і ўніяй уплыў папства на краіны Еўропы зменшыўся, падман, шляхам якога яна была надпісана, адкрыўся. І ўслед з Маркам Евгенікам Ефескім (адзіным візантыйскім епіскапам, які не падпісаў уніі) — пра яе пастараліся хутчэй забыць. І павага ў хрысціянскім свеце, асабліва сярод католікаў, да праваслаўных узрасла.
(Николай Н. Воейковъ. Церковь, Русь и Римъ въ двухъ частяхъ. Свято-Троицкий Монастырь. Джорданвиль, 1983. С. 141—146.)

[2] Житіе и подвиги преподобного и богоноснаго отца нашего Сергія игумена Радонежскаго и всея России чудотворца. Свято-Троіцкая Сергіева лавра. 1904. С. 146—162.

[3] Афанасий Великий. Завершение спасения человека — обожение // Журнал Московской Патриархии. Москва. 1973, № 5. С. 61—64.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

як адзінаму сродку выратавання чалавечай душы[1]. Гэта быў своеасаблівы тып падзвіжнікаў, якія нават ахвяруючы ўласным вечным збаўеннем, ішлі выратоўваць «мір» ад граху і парокаў.

Усе гэтыя абставіны садзейнічалі таму, што на Балканах у сярэдзіне XIV ст. распаўсюджваецца своеасаблівы тып культурнага і грамадскага дзеяча — выхадца з якой-небудзь паднябёснай скальнай пячоры. Гэта звычайна нашчадак больш ці менш шаноўнага гарадскога сямейства, які рана прыняў пострыг ў манахі і прайшоў суровую вывучку ў вопытных «старцаў», які вандраваў і цярпеў нягоды: цяпер ён ужо сфармаваны сузіральнік-практык, але адначасова тэарэтык, «філосаф», які ведае цану культуры і почасту няблага адукаваны: ён піша багаслоўска-палемічныя трактаты, прымае ўдзел у дыспутах пра «боскую энергію», на жыццёвыя ліхалецці (голад, эпідэміі, землятрусы, нашэсці турак і ляцінян) адгукаецца сачыненнем гімнаў і малітваў, зборам ахвяраванняў і словам суцяшэння дапамагае ў бядзе; з царкоўнай кафедры выкрывае багацеяў-ліхвяроў; у невялікіх навучальных нататках фіксуе свой вопыт; можа пісаць іконы, перакладаць з грэчаскай мовы на славянскую. Гэтыя людзі і становяцца на чале манашскіх паспаліцтваў, царкоўных абшчын гарадоў, кафалічнай канстанцінопальскай патрыярхіі. Розныя па паходжанню, яны разсяляюцца з Балкан па ўсёй Усходняй Еўропе, утварыўшы «наднацыянальную» сукупнасць. Уласцівае ім у «кялейны» перыяд падзвіжніцтва: пошукі кваліфікаванага настаўніка, жаданне навучыць «сардэчнай малітве» іншых, імкненне пазбегнуць свецкай славы,— яны захоўвалі і на «грамадска-палітычным» узроўні дзейнасці. Часта праз нацыянальныя межы яны працягваюць падтрымліваць цесныя асабістыя сувязі — як сябры, як вучні аднаго настаўніка, як вучні з настаўнікам; кантакты ж паміж сабою дазваляюць ім заставацца ў жывой сувязі з жыццём Афона, канстанцінопальскай «усяленскай» патрыярхіяй, з культурнай дзейнасцю візантыйскіх гаспадароў[2].

Калі ж непасрэдна весці гаворку аб другім паўднёваславянскім уплыве на ўсходніх славян, то пачатак яго трэба звязваць з дзейнасцю Тырнаўскай (Балгарыя) і яе пераемніцай Рэсаўскай (Сербія) школ, з іх шырока распрацаванай праграмай заснавання рэлігійных вучылішч, умацавання праваслаўнай дагматыкі і абраднасці, пашырэнню кнігапісання і інш. Пачынальнікі Адраджэння настойвалі на вернасці літары Св. Пісання і Падання, былі прыхільнікамі аўтэнтычнасці перакладаў, правільнасці і прыгажосці пісьма, клапаціліся аб вобразнасці і дзейнай сіле слова. Як важную мэту, трэба адзначыць імкненне гэтых школ да адраджэння царкоўна-славянскай мовы часоў салунскіх першанастаўнікаў, што вяло да збліжэння філалагічных праблем з этычнымі, арфаграфіі з артадоксіяй[3]. Апошняе

[1] Житие и подвиги св. Григория Паламы, архиепископа фессалоникского. Сочинение патриарха константинопольского Филофея. Одесса, 1889.

[2] Obolensky D. Late byzantine culture and the Slavs. A Stuby in Acoulturation. XV$^{e}$ Congris International, d´etudes. Athenes, 1976.

[3] Мечковская Н. Б. Ранние восточнославянские грамматики. Минск, 1984. С. 5.



найбольш праявілася ў Рэсаўскай (Сербскай) школе і прывяло да «рэформы», так званага «выпраўлення кніжнага». З 1354 г. у выніку асманскай экспансіі Малой Азіі пачынаецца няўпыннае заваяванне туркамі Візантыі, аслабленнай грамадзянскай вайной 1341—1347 гг., дзе туркі былі наёмнікамі і саюзнікамі.

У гэтых абставінах урад недалёкага палітыка Андроніка III Палеолага пачынае шукаць збліжэння з каталіцкім Захадам. І тагачасны патрыярх Філайфей, буйны тэолаг, мудры і дальнабачны палітык, энергічны дзяржаўны дзеяч, робіць усё магчымае, каб спыніць няўхільную пагрозу турэцкага палону[1].

І натуральна, саюзнікамі, абаронцамі, перш за ўсё, бачыліся яму ўсходнія славяне, этнічныя насельнікі былой Кіеўскай Русі. У выніку складаных адносін паміж Масковіяй і Княствам Літоўскім даводзілася выбіраць, хто з іх асноўны саюзнік, хто больш дальні. Альгерд адразу быў гатовы прызнаць дзяржаўнай рэлігіяй праваслаўе, а ў Вільні праводзіць палітыку «Трэцяга Рыма». Але Малая Русь была звязана барацьбой з нямецкім ордэнам. Масковія, якая даўно імкнулася пазбавіцца татарскае навалы, лепш ведала мусульманскі свет, і страта яе ў якасці бліжэйшага саюзніка рабіла бяздзейсным усялякія няхай сабе і самы цесны літоўска-візантыйскі альянс. І ўсё ж паўднёвыя славяне адчувалі большую роднасць з Малой Руссю, як засведчаць іх пазнейшыя будзіцелі (В. Копітар і інш.), іх колішняй этнічнай прарадзімай.

І на ролю свяціцеля, які не толькі падыме Масковію і саюзныя войскі славянскіх пабрацімаў на барацьбу з татарамі, аб´яднае ў адну мітраполію былую Русь, створыць усходне-паўднёваславянскую злучнасць — быў абраны настаяцель афонскай лаўры св. Афанасій Кіпрыян. Адносна яго паходжання і дагэтуль не сціхаюць спрэчкі. Рускія вучоныя схільны бачыць яго выхадцам са знакамітага балгарскага роду Цамвлакоў. Беларускія даследчыкі, у прыватнасці, Вацлаў Ластоўскі, а ўслед за ім і Уладзімір Казбярук, указваюць на яго «літоўскі» радавод[2]. Такое меркаванне, дарэчы, меў архімандрыт Амфілохій, калі ўдзельнікам Трэцяга і Чацвертага археалагічных з´ездаў прапаноўваў цытаты з твораў Кіпрыяна, каб даследчыкі маглі ацаніць старабеларускі характар мовы яго твораў[3]. Выказвалася таксама думка, што ён мог нарадзіцца ад змешанага шлюбу выхадца з Княства, прыхільніка вучэння ісіхастаў, і прадстаўніцы балгарскага баярскага роду.

Выбар патрыярха Кіпрыян апраўдаў, першым удалым крокам яго было прымірэнне балгарскай і сербскай цэркваў з Візантыяй. Асабліва няпроста складваўся лёс праваслаўя на ўсходнеславянскіх землях. Туды ў першую чаргу і накіроўваўся Кіпрыян. Летапісы паведамляюць аб з´яўленні Кіпрыяна на ўсходнеславянскіх землях у 1373 г. з мэтай прымірэння літоўскага і цвярскога князёў з мітрапалітам Аляксеем. 9 сакавіка 1374 г. пасвячэннем цвярскога епіскапа Яўхімія

[1] Прохоров Г. М. К истории литургической поэзии. Гимны и молитвы патриарха Филофея Коккина — ТОДРЛ, т. XXVII. Л., 1972. С. 133, 147 (3).

[2] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі.

[3] Казбярук У. Загадкі гісторыі літаратуры // Полымя, снежань, Мінск, 1991. С. 222.

і стварэннем кааліцыі рускіх і літоўскіх князёў у Пераслаўі Залескім для барацьбы з татарамі заканчваецца яго візіт у Масковію. Але гэты надзвычай выгадны саюз быў парушаны здрадніцтвам цвярскога князя Міхаіла.

Асабліва плённай была дзейнасць Кіпрыяна ў Княстве. Ён нават змог дабіцца згоды ад князя Альгерда на кананізацыю забітых ім жа па паганскаму звычаю літоўскіх мучанікаў-хрысціян — Круглянца-Антонія, Няжылы-Івана і Кумца-Яўстафія. Астанкі віленскіх мучанікаў былі перавезены ў Канстанцінопаль для праслаўлення. Пазней ў перапісцы з Сергіем Раданежскім і яго пляменнікам ігуменам Феадорам, у прыватнасці у лісце ад 23 чэрвеня 1378 года кір Кіпрыян так пісаў сваю дзейнасць.: «Калі ж быў я ў Літве, многіх хрысціян з горкага палону вызваліў. Шмат з тых, што не ведалі Бога, праз нас пазналі сапраўднага Госпада і да праваслаўнай веры святым хрышчэннем прыйшлі. Цэрквы святыя ставіў. Хрысціянства ўмацаваў. Месцы царкоўныя, запушчаныя ў даўнія гады, сваім намаганнем далучыў я да мітраполіі. Новы Гарадок літоўскі (суч. Наваградак) даўно адпаў, і я яго аднавіў і вярнуў мітрапаліту дзесяціну і сёлы. У Валынскай зямлі тое ж самае зрабіў. Колькі гадоў стаяла ўладзімірскае епіскапства без уладыкі, запусцела. А я ўладыку паставіў і месцы аднавіў... I дамагаюся справядлівасці, каб пасля смерці маёй засталіся яны таму, каго Бог па праўдзе выбера»[1].

Але разлад паміж Масковіяй і Літвою абвастраўся. Па старасці мітрапаліт Аляксей, які цесна зжыўся з дваром князя Маскоўскага, не мог цікавіцца праблемамі праваслаўных Вялікага княства Літоўскага. Улада і аўтарытэт святарства ў краі пахіснуліся, парушаліся царкоўныя іерархія і ўстаў, князі і магнаты не адчувалі над сабой святарскага нагляду; нябёснае павінна было падпарадкоўвацца зямному.

Літоўскае насельніцтва патрабавала мітрапаліта, які б адстойваў яго інтарэсы, абараняў ад язычнікаў і лацінян, а не толькі пасылаў давераных людзей збіраць дзесяціну. Наспяваў канфлікт. І ўсё ж усяленскі патрыярх Філафей знайшоў выйсце. У 1375 годзе ён надае годнасць мітрапаліта «кіеўскага» і «літоўскага» Кіпрыяну з тым, каб пасля смерці Аляксея ён злучыў абедзве часткі мітраполіі. Незадаволены гэтай палітыкай Дзмітрый Данской, пасля няўдалых спроб пасадзіць свайго кандыдата ў мітрапаліты, у 1381 г. запрашае кір Кіпрыяна ў Масковію. Праз год кір Кіпрыян зноў у Княстве Літоўскім, сваёй духоўнай уладай змякчае вынікі палітыкі караля Ягайлы, нейтралізуе супрацьстаянне праваслаўных і лацінян, нават пераправіў епіскапа тураўскага ў Маскоўскі Сіманаў манастыр, калі ўзнікла пагроза яго жыццю.

Праваслаўнай царквой вялікі духоўны асветнік усходняга славянства кананізаваны да ліку святых[2].

[1] Казбярук. У. Загадка гісторыі літаратуры // Полымя, 1991, снежань, С. 224—225.

[2] Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Минск, 1990. С. 992—00.



Кіпрыян пакінуў пасля сябе яркую багаслоўскую спадчыну. Акрамя вышэйпамянёнага, адзначанага глыбокімі багаслоўскімі ідэямі эпісталярыя да Сергія Раданежскага і ігумена Феадора ў час канфлікту Кіпрыяна з маскоўскім князем[1], за беларускім свяціцелям лічыцца рэдакцыя «Жыція Пятра мітрапаліта» з аднайменнай «Службы...», «Канон ко господу нашему Иисусу Христу и ко пречистой Богородице», «Молитва разрешити царя и князя и всякого христианина», «Последование провождению над умеръшим младенцем», уласныя малітвы, пераклады з грэчаскай на славянскую мову «Сборникъ церковныхъ правилъ», «Лъствицк преп. Іаана съ толкованіями», «Творенія св. Діонісія Ареопагита» і інш.[2] Дзейнасць мітрапаліта Кіпрыяна моцна паўплывала на ўсходнеславянскае летапісанне канца XIV — пачатку XV ст., у прыватнасці, па яго ініцыятыве пачаў складацца пад назвай Троіцкага летапісу першы агульнарускі звод (завершаны ў 1408—9).

Але калі пра дзейнасць кір Кіпрыяна беларуская навука, няхай сабе запознена, усё ж гаворыць свае словы, то пра асобу яго вучня і малодшага паплечніка Грыгорыя Цамблака (1364 — каля 1450) мы маем пакуль яшчэ цьмянае ўяўленне. Яго постаць, як і месца ў гісторыі беларускай духоўнай асветы, даводзіцца рэканструяваць літаральна па самых разнастайных крыніцах. Упершыню гістарыяграфія даносіць да нас звесткі аб ім як найадукаванейшым багаслове і прамоўцы, настаяцелі манастыроў Дэчанскага ў Старой Сербіі і Плінаірскага ў Грэцыі. І ўжо ў той час пасля складання жыція і службы св. каралю Стэфану Дэчанскаму[3] нацыянальнаму герою сербаў, імя Г. Цамблака, як красамоўнага гімнографа, майстра панегерычнага жанру, становіцца вядомым у славянскім свеце. Асаблівы ўсплеск панегерычна-жыційнага жанру ў славянскай агіяграфіі, экспрэсіўна-эмацыянальны стыль з ярка выяўленай арнаментальнасцю, славесна-вобразнай філіграннасцю, багаццем рытарычных фігур, ампліфікацый і тропаў, тонкасцю назірання і прадуманасцю псіхалагічных характарыстык, віртуознасцю кампазіцыі твора, даследчыкі звязваюць з імем гэтага выдатнага рэлігійнага пісьменніка і багаслова.

Пасля трагедыі на Косавым полі (1389 г.), па слядах свайго дзядзькі мітрапаліта Кіпрыяна, ён наведвае Маскву, працяглы час служыць у розных цэрквах Вялікага княства Літоўскага. Княству быў неабходны свой мітрапаліт, і разумеючы гэта, сабор епіскапаў у г. Наваградку восенню 1414 года пры падтрымцы Вітаўта абраў Грыгорыя Цамблака Уладыкам асобнай Літоўскай мітраполіі. Патрыярх Фоцій хадайніцтва князя і сабору не падтрымаў, яму, мабыць, у далёкім Царградзе, здавалася яшчэ магчымым утрыманне адзінай мітраполіі над Княствам і Масковіяй. Узнік зацяглы канфлікт. Ён і стаў прычынай таго, што да дзеяча, які, працягваючы справу кір

[1] Прохоров Г. М. Повесть о Митяе. Ленинград, 1978. С. 195—204.

[2] Николай Н. Воейковъ. Церковь, Русь и Римъ. Свято-Троицкій Монастырь. Джорданвилль, Н. I, 1983. Ч. I. С. 266.

[3] Цамблак Григори е. Служба светом краью Стэфану Дечанскаму (тропари седме песне канона глас прави). Жити е кра е Стефана Дечанского. //

Кіпрыяна, столькі зрабіў для Беларусі, дагэтуль ставяцца насцярожана, несправядліва падазраючы яго ў схільнасці да кар 'ерызму. Але падобныя сцверджанні настолькі беспадстаўныя, што любым фактам з біяграфіі кір Цамблака можна іх лёгка абвергнуць. Дзейнасць Грыгорыя Цамблака па ўмацаванню праваслаўя на Беларусі сапраўды была падзвіжніцкай. У 1418 годзе па настаянню Вітаўта, мітрапаліт Грыгорый ездзіў на каталіцкі сабор у Канстанцу, але пра ўнію і падначаленне Рымскаму Папе ён і слухаць не захацеў. Урэшце, Вітаўт прымірыўся з Фоціем, Цамблака прызналі законным мітрапалітам. Прынята традыцыйна лічыць датай смерці Грыгорыя Цамблака 1419 — пачатак 1420 гг... Але не ў адным летапісе гэта не зафіксавана. І таму трэба пагадзіцца са знаходкай А. І. Яцімірскага (1904 г.), што ў Нямецкім манастыры ў Малдовіі, стомлены марнасцю свету і несправядлівымі абвінавачваннямі, Грыгорый Цамблак прымае вялікую схіму пад імем Гаўрыіла, там і памірае каля 1452 года[1].

Тырнаўская і Рэсаўская школы, а за імі і місіянеры ў час другога паўднёваславянскага ўплыву асаблівую ўвагу звярнулі на выпраўленне пашкоджанняў тэкстаў св. кнігі, непазбежных пры неаднаразовай іх перапісцы. Вялікім раўніцелем капіравання арыгіналу быў мітрапаліт Кіпрыян, які патрабаваў: «...сматряй не приложити или отложити единое некое слово, или тычку едину, или крючкы... ниже преминити слогню некоторую, или приложити отъ обычныхъ, ихъ же первее привыкъ...»[2].

Яго паслядоўнік Грыгорый Цамблак[3] ідзе далей, выпраўленне тэкста ён абгрунтоўвае арфаграфічнай тэорыяй Канстанціна Касценечкага[4], згодна якой неправільнае напісанне слоў вядзе не толькі «да схілення ў ерась», але і горш — пашкоджанне тэкста азначае адступленне ад ісціны св. Пісання, бо згодна вучэнню Грыгорыя Паламы, «... увесь Сусвет — сачыненне Самаіпастаснага Слова»[5], г. зн. данесенага праз старазапаветных прарокаў і новазапаветных апосталаў добравесція аб вялікасных прынцыпах Боскай сусветабудовы.

Такім чынам, на Беларусі на стагоддзе раней за царкоўную Ніканаўскую рэформу паўднёваславянскія місіянеры ставілі пытанне аб сістэматычнай ідэнтыфікацыі з арыгіналам свяшчэнных кніг пры іх перапісванні.

У сувязі з асветніцкай дзейнасцю Кіпрыяна і Цамблака ў Вялікім княстве Літоўскім ніяк нельга абыйсці і яшчэ аднаго паўднёваславянскага місіянера, афонскага падзвіжніка і багаслова Максіма Грэка, які выступіў на ўсходнеславянскай арэне ўжо непасрэдна ў часы Скарыны. Славуты афонец імкнуўся правесці ў Масковіі асабліва

[1] Архиепископ Афанасий Мартос. Белорусь в исторической государственной и церковной жизни. Минск, 1990. С. 106.

[2] Соболевский А. И. Славянорусская палеография. Спб., 1908. С. 99.

[3] Яцимирский А. И. Григорий Цамблак. Спб., 1904. С. 382—402.

[4] История лингвистических учений. С.-Петербург, 1991. С. 141—143.

[5] Лихачев Д. С. Развитие русской литературы X — XVII веков. Ленинград, 1973, С. 97.



чыстую плынь хрысціянскага Рэнесансу. Не абмяжоўваючыся пастаўленай перад ім задачай па перакладу з грэчаскай мовы багаслоўскіх кніг, найперш палемічнай накіраванасці супраць лацінян, ён з манашаскім аскетызмам разгортвае справу Адраджэння ўсходнеславянскага праваслаўя, якое ў будучым бачыў апорай усяго славянства, галоўным абаронцам візантыйскай праваслаўнай веры, звязваючы свае спадзяванні з усім усходнеславянскім светам. Нездарма яго ідэі хутка пашырыліся ў асяродку беларускага праваслаўя, да якога ён выказаў вялікія сімпатыі і надзеі. Такім чынам, Максім Грэк, як адзін з прадбачлівых багасловаў свайго часу, фактычна прадвызначаў перамяшчэнне праваслаўных цэнтраў у сувязі з заняпадам Візантыі пад націскам мусульманскай агрэсіі. Але і М. Грэк напаткаў лёс палымянага ратавальніка каталіцызму фларэнційца Саванаролы. Адукаванага афонца абвінавацілі ў невераемных ерасях («елінскай», «жыдоўскай», і, безумоўна, у чарах), прыгадалі і памылкі — не то каб яго ўласныя,... а звычайныя апіскі пісцоў. Максім Грэк і не падумаў каяцца, а перад саборным судом выказаў «сумляванне ў аўтакефальнасці й прававернасці маскоўскае праваслаўнае царквы»[1]. І афонскі Іоў, нягледзячы на заступніцтва іерархаў усяго праваслаўнага свету, згібеў у рускіх турмах.

Дзейнасць паўднёваславянскіх місіянераў на землях усходніх славян адбывалася не на пустым месцы. Іх поспех, у прыватнасці, у Вялікім княстве Літоўскім, тлумачыцца папярэдняй падрыхтаванасцю беларускай глебы, калі прыгадваць падзвіжніцкую дзейнасць Еўфрасінні Полацкай па хрысціянізацыі краю, распаўсюджванні манашаскіх цэнтраў з іх добраналаджанымі скрыпторыямі па перапісванні праваслаўных кніг.

Падводзячы вынікі, мы можам указаць на некалькі крыніц, ці дакладней перыядаў, якія вытлумачваюць першаснаправаслаўную, так бы мовіць, аснову Скарынаўскіх выданняў, у прыватнасці, іх адметнастаражытныя правапісныя формы старaславянскай мовы, шмат у чым яшчэ не кранутыя, як у рускай, Эразмаўскімі графічнымі новаўвядзеннямі.

Пачатковы перыяд гэтай старажытнай пераемнасці мовы салунскіх першанастаўнікаў — часы св. Еўфрасінні Полацкай, якая, паводле звестак, атрымлівала святыя кнігі (у балгарскай рэдакцыі Кірылы і Мефодзія) праз родную цётку візантыйскую імператрыцу Елену для перапісвання ў сваім знакамітым скрыпторыі непасрэдна з Канстанцінопаля. Наступная крыніца гэтай нязменнасці царкоўнаславянскай мовы — другі паўднёваславянскі ўплыў, што мы паказалі, выявіўся гэтак значна на Беларусі праз выдатную місіянерскую дзейнасць Кіпрыяна — Грыгорыя Цамблака.

У прыватнасці, апошняе робіць зразумелым факты, якія прыводзяць вучоныя, што паўднёваславянскіх рысаў у беларускай палеаграфіі значна больш, чым у рускай. Нават змест беларускіх рукапісных кніг сведчыць пра тое ж. Так, тэксты Супрасльскага зборніка

[1] Брага Сымон. Доктар Скарына ў Маскве // Спадчына, 1991, № 4. С. 14—15.

1507 года ўяўляюць сабой рэдкі для праваслаўных славян таго часу амаль поўны кампендыўм біблейскіх кніг, якія ўзыходзяць да сербскіх (Евангелля і Апакаліпсіса) ці балгарскіх і нават кірыла-мефодзіеўскіх (Параміійнік) прататыпаў[1].

Нарэшце, трэба памятаць пра саму зыходную абставіну, што мова беларускага этнаса, якая аказалася ў цэнтры апошняй славянскай прарадзімы, у наступным, вэляй лёсу, захавала ў сабе, як ніякая іншая, мноства старажытных рысаў. Так вядомы рускі вучоны П. А. Бяссонаў, які шмат вывучаў і беларускі фальклор, знаходзіў у беларускай мове асабліва многа першабытных агульнаславянскіх рыс, якія, на яго думку, у такім багацці не захавала ні адна з славянскіх моў[2]. Невыпадкова Беларусь здаўна лічылася сімвалам славяншчыны. Вядомы збіральнік славянскай народнай творчасці М. Федароўскі параўноўваў Беларусь з «таямнічай скарбніцаў, скалою, якая дае ў сваіх адбітках старажытны... свет», або «цудоўным церамам, у якім спіць стагоддзямі каралеўна»[3]. Вучоныя называлі і называюць Беларусь кутком былога славянства, забытай даўніны, гаворка якой данесла ў найбольшай захаванасці рэшткі старажытнай мовы.

Працягваючы гаворку пра другі паўднёваславянскі ўплыў на ўсходнеславянскіх землях, трэба адзначыць, што ў тых найскладанейшых умовах ён быў, бадай, адзіным фактарам, здольным захаваць і абараніць славянскі пачатак як у Вялікім княстве Літоўскім, так і Масковіі.

Напачатку складвання Вялікага Княства Літоўскага знаць цалкам засвойвала старабеларускую мову, звычаі, культуру. Сімвалам славянскай духоўнасці і неверагоднай загадкай для гісторыкаў на доўгія часы стаў сам факт праваслаўнага хрышчэння сына навагрудскага князя Міндоўга Войшалака і прыняцце ім манашскага сану[4].

Але ў асяроддзі астатніх заможных літоўцаў узнікае легенда аб паходжанні іх ад «крыві італьянскай»[5], гэта быў сродак супрацьдзеяння літоўцаў асіміляцыі з боку славян, відавочнай, натуральнай, але заўсёды не пажаданай для кожнага этнасу.

У Кароне зараджалася ідэалогія «сарматызму», своеасаблівы польскі варыянт паходжання ад Рыма. Напачатку польская культурная эліта, выхаваная на ўзорах славянскага, асабліва чэшскага этыкету, з вялікай пашанай адносілася да ўсяго беларускага, бо як сведчыць І. Первольф[6] у Еўропе XV — XVI ст.ст. адзнакай вышэйшага тону было даскаíналае валоданне чэшскай і беларускай мовамі.

[1] Рогов А. Белоруссия и южные славяне в их культурном общении в эпоху Средневековья и Возрождения // Славяне: адзінства і мнагастайнасць: Міжнародная канферэнцыя 24—27 мая 1990. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Мінск. 1990. С. 59—60.

[2] Пачынальнікі. Укл. Кісялёў Г. В. Мінск, 1977. С. 343.

[3] Ніва.— Беласток, 1965, 24 кастр.

[4] Кемпфі Анджэй. Аю «сталічным Навагрудку» і аб Наваградскай Божай Маці Замкавай // Спадчына. № 1, 1991.С. 21.

[5] Лаппо И. И. Западная Россия и ее соединение с Польшею в их историческом прошлом: Исторические очерки. Прага, 1924. С. 126—128.

[6] Гл.: Первольф И. Славянская взаимность с древнейших времен до XVIII в. Спб., 1874.



Невыпадкова буйнейшыя дзеячы польскай культуры XV — XVII ст.ст. так паважліва ставіліся да беларускай мовы, разглядаючы яе як патэнцыяльны сродак папаўнення слоўніка польскай мовы. Так, нават Грыгорый Кнапскі, складальнік польска-грэчаскага слоўніка (1621), які рэзка крытыкаваў непатрэбнае ўвядзенне ў польскую мову чужых слоў, рабіў выключэнне для славянскіх моў як блізкароднасных, і сам увёў у слоўнік шмат беларускай лексікі.

За ўзбагачэнне нацыянальнай мовы за кошт славянскіх запазычванняў, роднасць якіх тады яшчэ асабліва адчувалася, выказваўся таксама вядомы польскі пісьменнік другой паловы XVI стагоддзя Лукаш Гурніцкі, які знаходзіў сваю мову яшчэ даволі «мала апрацаванай». І гэтым недахопам слоўнікавага матэрыялу, на яго погляд, вельмі спрымліваўся палёт думкі, невеліраваліся тонкія адценні і эмоцыі пры выказванні. У гэтым сэнсе паказальны і той факт, што польскія каралі і пазней ахвотна размаўлялі па-беларуску. Лексічнымі беларусізмамі насычаны лісты караля Сігізмунда Старога, Сігізмунда-Аўгуста, магнатаў Радзівілаў і Сапегаў[1].

Сёння ўжо мала калі і прыгадваецца перыяд плённага ўплыву беларускай кніжнасці, у прыватнасці, старабеларускіх лексікаграфічных помнікаў, на працэс станаўлення літаратурнай мовы нашага ўсходняга брата. У рускай традыцыі на працягу XV — XVII стагоддзяў выявілася імкненне да асабліва актыўных кантактаў з філалагічнай культурай «Паўднёва-Заходняй Русі»[2].

Складаная моўная сітуацыя ў Масковіі, выкліканая існаваннем дзвюх пісьмовых моў, рускай і царкоўнаславянскай, вымушала тагачасных кніжнікаў звяртацца да вопыту старабеларускай мовы, што паспела ўжо дасягнуць большай літаратурнай упарадкаванасці, дастаткова арганічна спалучыўшы ў сабе кніжную і размоўную лексічныя плыні. Асаблівым аўтарытэтам сярод лексікографаў карыстаўся «Лексіс» Л. Зізанія, які паслужыў першым узорам для стварэння перакладных стараславянска-рускіх слоўнікаў. «Лексіс» заставаўся ў навуковым ужытку яшчэ ў XIX ст., вядомым тагачасным філолагам І. П. Сахаравым была зроблена спроба выправіць яго пад помнік велікарускага пісьменства.

Сацыяльнай сілай, якая аказалася здольнай абараніць праваслаўе на беларускай нацыянальнай глебе ў найскладнейшых умовах паланізацыі сталі праваслаўныя брацтвы, у чымсці наследаваўшы ідэі і іргалізацыю вышэйпамянёных славутых паўднёваслявянскіх школ. Менавіта брацтвы зрабіліся матэрыяльнымі носьбітамі другога праваслаўнага ўплыву, здолеўшы ахапіць усе слаі праваслаўнага насельніцтва ад сялян да магнатаў. На палітычную арэну выходзіла трэцяе саслоўе, фактычна яго ўводзілі беларуска-украінска-літоўскія магнаты для абароны сваіх інтарэсаў ад шляхты польскай. І амаль на два наступныя стагоддзі брацтвы сталі абаронцамі нацыі і яе веры. «Маючы на сваім чале апазіцыйную магнатэрыю, брацтвы маглі праз яе рабіць уплыў на сойм, маглі карыстацца з тых правоў, якія давала

[1] T. Zehe-Splawinski. Język polski Pochodzenie, powstanie, rozwoj. Warszawa, 1954. С. 277—278.

[2] Ковтун А. С. Азбуковники XVI — XVII вв. Л., 1989. С. 13, 51, 124.

шляхціцам дзяржава. Шляхціц ці магнат — братчык у Вальным Сойме і на сойміках быў абаронцаю палітычных, нацыянальна-культурных інтарэсаў братчыкаў: мяшчан і сялян...»[1]. Замацавалася традыцыя патранату над брацтвамі заможных магнатаў. Асабліва шмат спрыяў брацтвам князь Канстанцін Астрожскі, што аказаў немалое садзеянне ў пачынаннях Ф. Скарыны.

Сфарміраваўся і свой інстытут рыцарства, якое, побач з чэшскім, лічылася самым высакародным у Еўропе, бо вылучалася высокай духоўнасцю і служыла абароне ўсіх саслоўяў нацыі.

Другі паўднёваславянскі ўплыў стаў філасофска-тэалагічнай апазіцыяй сарматызму, сродкам абароны ад пракаталіцкага, прапольскага ўціску — шчытом беларускай духоўнасці, культуры, мовы.

Славянскае, духоўнае па сваім характары, Адраджэнне, якое (што пастараліся ўжо забыць) дало імпульс заходняму Рэнесансу, з яго немалымі прыўнясеннямі і язычніцтва, непасрэдна другі паўднёваславянскі ўплыў і дзейнасць яго выдатных праваднікоў у Вялікім княстве Літоўскім Кіпрыяна і Цамблака, плённая шматгадовая дзейнасць праваслаўных брацтваў па ўзору Тырнаўскай і Рэсаўскай школ у абарону чысціні хрысціянства на Беларусі,— вось такая прапушчаная старонка, якой не хапае ў скарыназнаўстве для вытлумачэння сапраўды тытанічных стымулаў дзейнасці нашага славутага асветніка, крыніцы рэдкай багаслоўскай культуры: яго перакладаў, як і феномену яго гімнаграфіі, нарэшце, нявырашанай даследчыкамі да гэтай пары загадкі першаславянскай старажытнасці мовы Скарынаўскіх выданняў.

[1] Ігнатоўскі Ўсевалад. Нарыс гісторыі Беларусі // Крыніца, Мінск, 1990, лістапад-снежань (П — 12). С. 29.



## Жэня Мартынюк.

Імчымся
на Ікара крылах
няведама куды
цесна нам на гэтай планеце
мы перараслі сябе...
? ! ...
мы перараслі людское паняцце.

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ЗАГАДКІ

## (апрацавала Тамара Русачык)

1. Што сіне не сінячы?
2. Што гарыць без полымя?
3. Што бяжыць без повада?
4. Што расце без кораня?
5. Што расце без цвету?
6. Што рабое, ды не фарбавана?
7. Якая птушка імя пісьменніка носіць?
8. Што без ног бяжыць, без рук стучыць?
9. Што радчайшае ад вады?
10. Хто малюе без рук і алоўка?
11. На чым знаку не наложыш?
12. Што зімою камлём уверх расце?
13. Што чалавеку самае мілае?
14. Што быстрэй усяго на свеце?
15. На чым мякчэй спаць?
16. Без чаго чалавек жыць не можа?
17. Без чаго хлеб не спячэш?
18. Хто гаворыць на ўсіх мовах?
19. Што размаўляе на ўсіх мовах?
20. Які год цягнецца адзін дзень?
21. Што без слёз плача?
22. Чаго і са сцяны не вырубіш?
23. Што на свеце ўсім трэба?
24. Што гэта за прынада, што ўсяму свету нада?
25. Што дзяўчына пакідае, калі выходзіць замуж?
26. Хто з барадой родзіцца?
27. Чаго не абнясеш кругом хаты?
28. За чым вада ў графіне?
29. Чаго да хаты не прыставіш?
30. Якая ў рыбы кроў?
31. Якога дрэва больш у лесе?
32. Што трэба пры стале?
33. За чым ядуць?
34. Што спачатку жанчына робіць з гаршком, калі пачынае варыць абед?
35. Што апошняе робіць чалавек, калі кладзецца спаць?
36. На што каню хамут кладуць?
37. Чым карова ходзіць?
38. На што карова хвост задзірае?
39. Укінь камень у ваду. Якім ён будзе?
40. Пад які куст заяц садзіцца, як дождж ідзе?
41. Бег сабачы, брэх сабачы, а не сабака?
42. Без чаго хаты не пабудуеш?
43. У што першы цвік гналі, як Маскву будавалі?
44. Ад чаго гусь плыве?
45. Ад чаго ў вуткі ногі чырвоныя?
46. Ці можа страўс назваць сябе птушкаю?
47. Чаму вароны ў лес ляцяць?
48. Што бывае пасля васьмі гадоў?
49. Чаму шапку купляюць?
50. Якая мушка не лятае?
51. Дзе гарады без людзей, а рэкі без вады?
52. Чаму добра, калі дарогу чалавеку перабяжыць воўк, а чаму дрэнна, калі заяц?
53. Што пасярэдзіне Кіева ляжыць?
54. Што стаіць пасярэдзіне Волгі?
55. Дзе сярэдзіна зямлі?
56. Што ў Адама наперадзе, то ў Евы ззаду?
57. Па чым Пётр Першы хадзіў у чырвоных ботах?
58. З якіх варот Пётр I выязджаў на вайну?
59. Колькі гарошын увойдзе ў адну шклянку?

### АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ

1. Неба.
2. Сонца.
3. Вада.
4. Камень, сажа ў коміне.
5. Папараць.
6. Дзяцел.
7. Гогаль.
8. Вецер.
9. Вецер.
10. Мароз.
11. На вадзе.
12. Ледзяшы.
13. Сон.
14. Думка.
15. На руцэ.
16. Без сну.
17. Без скарынкі.
18. Язык.
19. Рэха.
20. Новы.
21. Скрыпка.
22. Цень.
23. Назва.
24. Імя.
25. Прозвішча.
26. Казёл.
27. Вады ў рэшаце.
28. За сцяклом.
29. Дарогі.
30. Халодная.
31. Круглага.
32. Рот.
33. За сталом.
34. Паглядзіць у яго.
35. Сядае на ложак.
36. На шыю.
37. Целам.
38. На спіну.
39. Мокры.
40. Мокры.
41. Сучка.
42. Бо дарма не даюць.
43. У плешку.
44. Ад берага.
45. Ад кален.
46. Не можа, бо не ўмее гаварыць.
47. Бо лес да іх не ляціць.
48. Дзевяць гадоў.
49. Бо дарма не даюць.
50. На стрэльбе
51. На глобусе.
52. Добра таму, што чалавека не з 'еў і дрэнна таму, што чалавек зайца не злавіў.
53. Літара «е».
54. Літара «л».
55. Дзе стаіш.
56. Літара «а».
57. Па зямлі.
58. З адкрытых.
59. Ніводная, бо не ўмее хадзіць.

**Янка Целушэцкі**

# ЁН І ЯНА

**(тэст)**

Ці задумвалася ты калі-небудзь, што мучыць цябе з тваім партнёрам? Тэст, які мы прапануем, дапаможа табе разабрацца, на чым грунтуюцца твае пачуцці: на шчырым каханні, сэксе, жаданні мець надзейную падтрымку, ці на голым экзальтаваным захапленні.

Вось трынаццаць пытанняў, а пад кожным з іх — чатыры варыянты адказу. Прачытай іх уважліва, падкрэслі той, з якім пэўна пагаджаешся.

1. Ты сядзіш дома адна. Ён жа недзе далёка абмяркоўвае на нарадзе з калегамі неадкладную справу. Абяцаў увечары патэлефанаваць, аднак да 22-ой не адазваўся. Як паводзіш сябе ў гэтай сітуацыі:

а) злуешся, аднак не разважаеш над прычынамі яго маўчання;

б) непакоішся: правяраеш, ці добра ляжыць слухаўка, ты няздольна засяродзіцца;

в) шкадуеш яго, што мусіць так доўга працаваць, і вырашаеш падаць яму добра запараную гарбатку са смачнай канапкай, калі вернецца;

г) ты проста раз´юшаная, бо давялося прабавіць вечар у самоце.

2. Гэтым разам пастарайся быць асабліва шчыраю: як лічыш, праз дзесяць гадоў вы таксама будзеце разам?

а) нават уявіць сабе гэтага не магу;

б) упэўнена ў гэтым;

в) хацела б, але не веру, што будзе так;

г) не выключаю такой магчымасці, але спецыяльна мне на гэтым не залежыць.

3. Прачынаешся раней і глядзіш на яго: спіць з раскрытымі вуснамі. Што думаеш:

а) дакрануцца да вуснаў;

б) цябе кранае яго безабароннасць;

в) паколькі ты ўжо прачнулася, вырашаеш згатаваць сняданак;

г) шкадуеш, што пад рукамі няма фотаапарата.

4. Як ацэньваеш яго знешнасць?

а) ведаеш, што толькі для цябе ён такі прыгожы;

б) лічыш, што выглядае някепска. Але іншыя мужчыны падабаюцца табе болей;

в) некаторыя рысы адзначаеш як вельмі прывабныя, іншыя ж — наадварот; агульная адзнака — глядзіцца сімпатычна;

г) на твой погляд, ён проста звычайны, і гэта табе дастаткова.

5. Напэўна гаворыш пра яго са сваёй сяброўкаю. Найчасцей пра што і чаму:

а) найбольшае жаданне спавядацца маеш пасля спрэчак з ім, бо шукаеш тады каго-небудзь здатнага да аб´ектыўных высноў;



б) калі ў яго паводзінах або словах знаходзіш нешта выключна прыемнае, адразу ж хочаш гэтым з кім-небудзь падзяліцца;

в) гаворыш толькі пра нязначнае;

г) менш гаворыш пра яго, больш пра пачуцці, якія ў цябе выклікае.

6. Ці маеш упэўненасць, што добра яго ведаеш?

а) лепш, чым саму сябе: ён для цябе разгорнутая кніга;

б) калі па-шчырасці, ведаеш пра яго няшмат, але табе гэта ўсё роўна;

в) увогуле так, але час ад часу яго ўчынкі цябе здзіўляюць сваёй непрадсказальнасцю;

г) для цябе ён застаецца вечнай таямніцай.

7. Як ахарактарызуеш пачуцці, якія апаноўваюць цябе, калі пра яго думаеш?

а) наструненасць, пачашчэнне пульсу;

б) цеплыня, расчуленасць;

в) здзіўленне, што такі адмысловы мужчына зацікавіўся табою;

г) твае пачуцці вельмі розняцца ў залежнасці ад акалічнасцяў.

8. Калі яго няма побач — як часта пра яго думаеш?

а) увесь час;

б) калі здараецца нешта асаблівае;

в) калі чым-небудзь занятая, дык наогул пра яго не ўспамінаю;

г) раз-пораз.

9. Якім чынам хацела б прабавіць з ім вечар?

а) ва ўтульнай кавярні;

б) дома за кілішкам віна і за размовамі;

в) у кампаніі сяброў;

г) на шпацэры ў месячную ноч.

10. Калі б заўтра быў яго Дзень Нараджэння, які б падарунак ты падрыхтавала б яму?

а) модную піжаму;

б) штосьці з яго хобі;

в) раман пра каханне;

г) якую-небудзь дробязь, зробленую ўласнаручна.

11. Што змянілася, калі параўнаць вашыя цяперашнія адносіны з сітуацыяй, якая была на пачатку знаёмства?

а) нуджуся штодня болей, нашыя размовы абмяжоўваюцца адно толькі справамі;

б) штодня нам лепш;

в) уласна нічога не мяняецца, мне ён здаецца такім жа цікавым, як і напачатку;

г) часам адчуваю стому з-за таго, што мы разам, раней такога не было.

12. Даволі позна тэлефануюць сябры і запрашаюць вас на кілішак віна. Ты нават узрадавалася б, каб не разумела, што сёння глядзіш не лепшым чынам: непамытыя валасы і стомлены твар. Як рэагуеш на запрашэнне?

а) угаворваеш яго адкласці візіт на другі вечар;

б) згаджаешся, не хочаш псаваць свята з-за нейкіх дробязей;

в) гаворыш, што так, але мусіць цябе доўга чакаць, аж пакуль памыеш і высушыш валасы і накладзеш макіяж;

г) твой выгляд цябе не цікавіць, урэшце ён цябе і так ведае.

13. Ён расказвае табе пра свае прафесійныя няўдачы. Як гэта ты ўспрымаеш:

а) спадзяешся, што неўзабаве ён дасць сабе рады, што яны не паўплываюць на вашае жыццё;

б) табе непрыемна чуць, што ён не мае такіх поспехаў, на якія ты разлічвала;

в) паціху радуешся, бо ён не будзе цяпер настолькі заняты;

г) табе ўсё адно.

У гэтай табліцы на перакрыжаванні нумара пытання і літары твайго адказу трэба закрэсліць геаметрычную фігуру, а потым палічыць, колькі сабралася ў цябе колаў, квадратаў, трохкутнікаў і зорак.

ТАБЛІЦА:

| | А | Б | В | Г |
|---|---|---|---|---|
| 1 | ▲ | * | ● | ■ |
| 2 | ■ | ● | * | ▲ |
| 3 | ▲ | * | ● | ■ |
| 4 | ■ | * | ● | ▲ |
| 5 | ■ | ● | ▲ | * |
| 6 | ▲ | ■ | ● | * |
| 7 | ■ | ● | * | ▲ |
| 8 | * | ▲ | ■ | ● |
| 9 | ■ | ● | ▲ | * |
| 10 | ■ | ● | * | ▲ |
| 11 | ▲ | ● | * | ■ |
| 12 | * | ● | ■ | ▲ |
| 13 | ● | * | ■ | ▲ |

### Калі болей за ўсё колаў.

Ведаеш яго моцныя і слабыя бакі, кахаеш яго такім, як ёсць. Найважнейшае для цябе ў вашым саюзе ўзаемная салідарнасць. Паколькі ты чалавек талерантны і здольны даравацъ памылкі, заўсёды



стаіш на яго баку. Вядома, на тое ж самае спадзяешся і ад яго. На шчасце, вельмі рэдка памыляешся ў гэтым. Галоўнае, пагаджаешся з тым, што нават у ідэальным саюзе кожны павінны мець хоць крыху ўласнага жыцця. Кахаеш свайго партнёра не таму, што не зможаш без яго, але не можаш без яго, таму што кахаеш.

### Калі болей за ўсё квадратаў.

Прызнайся, паклаўшы руку на сэрца: у свеце шмат людзей, з якімі табе лепей, чым з ім, ніколі ад яго не сыдзеш. Дакладна ведаеш чаму: вас лучыць сэкс. Ты разумееш, што гэтага недастаткова, каб адчуваць сябе з´яднанымі на ўсё жыццё. Калі хочаш захаваць гэты саюз, неабходна ўзбагаціць яго іншымі вартасцямі.

### Калі болей за ўсё трохкутнікаў.

Вельмі важную ролю ў вашым саюзе адыгрывае прага пачуць сябе ў бяспецы. Без сваёй другой паловы не ўяўляеш сабе жыцця. Залішне часта пагаджаешся з кампрамісамі, якія потым патрабуюць наступных. Калі ты не задаволена жыццём, дык вініць у гэтым мусіш сябе. Звяртай больш увагі на ўласныя патрэбы — і не толькі сама адчуеш сябе вальнейшаю, але і паміж вамі будзе лепш. Залішне вялікія надзеі і спадзяванне маеш на тое, што твой партнёр створыць табе шчаслівае жыццё.

### Калі будзе болей за ўсё зорак.

Кахаеш яго, і ніякіх ваганняў. Ён для цябе — ідэал мужчыны. Паколькі — альбо яго яшчэ добра не ведаеш, альбо церпіш на комплекс дробнага чалавека і дасканалы мужчына побач патрэбны табе, як кампенсацыя ўласнай наздатнасці. Такая сітуацыя, калі зацягнецца, можа быць небяспечнаю. Адных мужчын няспыннае захапленне весяліць, іншых прыгнятае і мучыць, бо абавязвае пастаянна пазбягаць памылак і няўдач. Куды лепш было б для вас абоіх, каб вы не хвалілі адно перад адным свае недахопы і слабасці.

# ГАСПАДАРЧЫЯ ПАРАДЫ

## (апрацоўка Тамары Русачык)

Жоўтыя плямы на эмаліраванай ванне і кухоннай ракавіне можна працерці падагрэтым воцатам і невялікай колькасцю солі.

Бляск на мельхіёравых і сярэбраных прадметах можна аднавіць праз кіпячэнне іх у адвары часнаку.

Засохлыя плямы вадаэмульсійных бяліл лёгка змываюцца воцатам.

Пры афарбоўцы акна, каб не замазаць шкло, яго трэба ўздоўж рамы змачыць воцатам або прыклеіць малымі палоскамі паперы шырынёй 5 см.

Плямы ад чырвоных ягад мыюцца малаком.

Каб вапна не асыпалася, у яе перад пабелкай даюць малако.

Каб дзверы не рыпелі, вазьміце кавалачак графіту ад алоўка і пакладзіце яго ў завесу, якая рыпіць.

Каб зняць са сцен старыя шпалеры, трэба двойчы змачыць іх гарачай вадой.

Каб выняць зламаны ключ з замка, устаўце тонкую пілку ад лобзіка ў замок зубцамі ўверх, павярніце на 90° так, каб яна зачапіла ключ, і разам з ім выцягніце з замка.

Ключ, які цяжка паварочваецца ў замку, трэба пацерці воскам або мылам.

На сталі і сценах ўтвараюцца шчыліны. Ёсць просты спосаб, як іх заладзіць. Сталярны клей давядзіце да кансістэнцыі смятаны, дабаўце дробна расцёртую крэйду, пакуль не атрымаецца густая замазка. Змачыце шчыліны, рэшткі здыміце.

Посуд, у якім нешта падгарэла, лёгка адмываецца, калі ў яго наліць халоднай вады, дабавіць адну-дзве сталовыя лыжкі пітной соды і кіпяціць дзве-тры мінуты.

Замшавы абутак можна чысціць чарнільнай гумкай або дробнай наждачнай паперай.

Каб на салёных агурках, памідорах, бураках не паяўлялася плесня — паверх расолу засцілаюць марлю і насыпаюць на яе сухую гарчыцу.

Моркву, пятрушку, пастарнак можна захоўваць у глебе. З надыходам холаду лісце зразаюць, вакол узрыхляюць грунт і засыпаюць расліны сухім торфам ці апілкамі слоем 8—10 см.

Калі ў шафе патрымаць сухую гарчыцу, з яе знікае пах нафталіну.

Каб адбіўное мяса было сакавітым і мяккім, трэба намазаць яго сумессю воцата і расліннага алею і патрымаць дзве гадзіны.

Зеляніну кропу, сэльдэрэю, пятрушкі, якая завяла, зноў стане свежай, калі яе пакласці ў ваду з невялікай колькасцю воцату.

Лімоны працяглы час захоўваюцца свежымі, калі іх пакласці ў слоік, заліць халоднай вадой і паставіць у халадзільнік. Ваду мяняць раз у тыдзень.

Калі стаміліся вочы — паглядзіце на зялёны колер. Ён аказвае заспакаяльнае дзеянне.



# ДЗЕ МОЖНА ВЫКАРЫСТАЦЬ СОЛЬ

Соль выкарыстоўваецца не толькі для падрыхтоўкі ежы, але:

— калі на пліту выбяжыць малако і пахне гарэлым, пасыпаецца соллю,

— калі сырыя дровы цяжка распальваюцца, пасыпаецца соллю,

— калі замерзне акно, можна працерці яго анучай, змочанай у растворы солі,

— калі ўзбіваюцца бялкі, дадаецца солі, каб пена была больш пушыстай,

— калі да жаўткоў дадаць солі, будуць жаўцейшыя,

— калі ў марозны дзень перад вешаннем бялізны працерці вяроўкі анучай, змочанай у растворы солі, бялізна не прымерзне.

# ЯК РАТАВАЦЦА АД НАСЯКОМЫХ І ІНШЫХ...

Каб выгнаць кратоў, трэба ў нару паставіць бутылачку з камфорай.

Краты не водзяцца там, дзе расце сланечнік.

Калі вас уджаліла пчала ці камар, патрыце гэта месца нашатырным спіртам, лімонавым сокам, кавалачкам цыбулі або часнаку.

Жменю сечаных каранёў пырніку заліце вадой (1,5 л), закіпяціце і дайце адстояцца. Паўтарыце тры разы, пакуль адвар не атрымаецца светла-жоўтага колеру. Калі такім чынам адварам памажаце цела, ні адзін камар не сядзе.

Пры дапамозе воцату добра пазбавіцца молі. Трэба разагрэць звычайную цаглину, пакласці яе ў каструлю, паставіць там, дзе завялася моль і спрыснуць воцатам. Яго пары знішчаць моль разам з лічынкамі.

Перачная мята, кветкі і лісты язміну добра адпуджваюць моль.

Эфектыўным сродкам ад молі з ´яўляюцца арэхавыя і тытунёвыя лісты, а таксама сухія коркі апельсіна.

Калі ў кухоннай шафе паявіліся мошкі, патрыце паліцы і сценкі анучай, змочанай воцатам і праветрыце.

Мурашкі баяцца паху карэнняў аеру, лісця памідораў.

Мышы і пацукі не любяць дзікай мяты.

Знішчыць тараканаў можна роўнай сумессю мукі з гіпсавым парашком. Сумесь паўнее ў жыватах і забівае.

# НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

Сярод сродкаў народнай медыцыны цыбуля займае першае месца, а другое — часнок — прадаўжальнік жыцця.

— свежая цыбуля павышае апетыт, паляпшае страваванне,

— цыбуля з мёдам, смажаная на сметанковым масле або адвараная на малацэ — добры сродак ад кашлю,

— кашка з цыбулі прымяняецца пры высыпаннях на скуры, пры апёках і абмарожанні,

— печаная цыбуля паскарае пасляванне нарываў, змякчае боль пры гамараідальных шышках,

— свежы сок цыбулі гоіць язвы на слізістай абалонцы рота,

— свежы сок цыбулі ўзмацняе выпадаючыя валасы,

— напарам з цыбулевага шалупення палошчуць галаву пасля мыцця, каб зліквідаваць перхаць,

— змешаны сок з мёдам — добры сродак ад склерозу мозга,

— вугры на твары знікаюць, калі раніцай і ўвечары намазаць іх сокам цыбулі,

— часнок знішчае хваробатворныя мікробы,

— часнок рэгулюе развіццё мікраарганізмаў у страваводзе,

— часнок рэгулюе колькасць халестэрыну ў крыві,

— часнок паніжае ціск у крыві,

— часнок нейтралізуе тлушч у стравах,

— часнок паўстрымоўвае развіццё розных пухлін,

— часнок добры сродак ад грыпу і іншых інфекцый,

— часнок лечыць раўматычныя захворванні.

Спосаб прымянення часнаку вельмі просты: есці, штодня есці.

Вельмі карысны для здароўя ягады шыпшыны. Адна сталовая лыжка сухіх ягад шыпшыны, запарана адной шклянкай кіпеню, забяспечвае сутачную патрэбу чалавека ў вітаміне С. Запарваць шыпшыну неабходна ў празрыстым посудзе, бо на святле вітамін С хутка разбураецца.



## ЗМЕСТ

